26 лютага 2016 | № 8 (473)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Я хацеў, каб людзі яго зразумелі

стар. 5

**6 ПАДАРОЖЖА ДА ГРОДЗЕНСКІХ СТАРАВЕРАЎ**



З'ездзіць на колішні хутар Куколі на беразе Нёмана нам параіў гродзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч. Маўляў, неадпойны пасылаў туды знаёмых журналістаў, але так нічога з таго і не выйшла

**19 АНТЫРАСІЙСКІ МАЙДАН**



Майдан пачынаўся не з нянавісці, ён пачынаўся з мары жыць па-людску. Але скончыўся Майдан сапраўды лютай нянавісцю і гвалтам

**7–18 Літаратурная Беларусь**

**23 ШЛЯХАМ АТРАДА РАМАНА РАГІНСКАГА**

За 24 дні атрад аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 года Рамана Рагінскага прайшоў па Беларусі 750 кіламетраў. Яго мужнасць уражвала нават ворагаў

# Два месяцы без рынку

## Каб ад указа №222 быў эфект, уладам трэба зачыніць мяжу з Расіяй



Сяргей ПУЛЬША

Вось ужо два месяцы ў Беларусі з-за сумнавядомага ўказа №222 амаль не працуюць рынкі. Адна частка прадпрымальнікаў дамагаецца права на працу на Кастрычніцкай плошчы Мінска, другая — перамаўляецца з уладамі.

«Вымушаны страйк» ІП ужо заўважыла афіцыйная статыстыка. Узровень афіцыйнага беспрацоўя ў студзені вырас на 0,1% — да 1,1% ад эканамічна актыўнага насельніцтва — і на 1 лютага 2016 года дасягнуў 47,7 тысячы беспрацоўных. Гэта ў 1,6 разы больш, чым год таму.

Хутчэй за ўсё, рост беспрацоўя працягнецца, бо пакуль ІП яшчэ маюць надзею «пераламіць» уладу. Імаверна, на біржу працы пайшлі некаторыя наёмныя працаўнікі прадпрымальнікаў, а не самі дробныя бізнесоўцы.

Немагчымасць прадпрымальнікам працаваць выклікала прыняцце такіх скандальных пастаноў, як абмежаванне кошту і вагі замежных пасылак (22 еўра і 10 кілаграмаў) і новыя квоты для правозу рэчаў праз мяжу (не больш за 300 еўра і 20 кілаграмаў, калі ездзіш больш, чым раз на тры месяцы). Сувязь простая: калі прадпрымальнікі не завозяць тавар — трэба за ім ехаць самім. Зараз, па аналогіі з французскім лозунгам пасля расстрэлу рэдакцыі сатырычнага часопіса «Шарлі Эдбо», калі французы разгарнулі кампанію «Я — Шарлі», мы ўсе можам сказаць: «Я — прадпрымальнік».

Але абмежавальныя захады ўлады ва ўмовах адкрытай мяжы з Расіяй проста бессэнсоўныя. Чыноўнікі ў чарговы раз прынялі непапулярныя меры, толькі разззлаваўшы насельніцтва. Эканамічнага эфекту ад усёй гэтай кампаніі — ледзьве не нуль без палачкі. Прынамсі, мары падняць даўно сканаўшы айчынны легпрам і абмежаваць вываз валюты за мяжу не спраўдзіліся.

Пастанова наконт пасылак набудзе моц толькі ў сярэдзіне красавіка, але ўжо зараз знайшліся магчымасці яе абысці праз адкрыццё абаненцкай скрыні на пошце ў Брянску ці Смаленску. Пасылкі будуць прыходзіць туды, а ў сучасных умовах дзень прыбыцця гэтага адпраўлення замоўніку стане вядомы нават хутчэй, чым паштовому аддзяленню. Толькі і застанецца — з'ездзіць у Смаленск і забраць замоўленае.

Тое ж самае тычыцца «шопінгу за мяжой». Абмежаванне на ўвоз тавару тычыцца толькі той мяжы, дзе ёсць нармальная мытня і памежны кантроль. Як даведацца, выехаў ты раз у тры месяцы, альбо кожны тыдзень — на мяжы з Расіяй штампаў у пашпарт не ставяць. Мытні няма: як падлічыць, вязеш ты тавараў больш чым на 300 еўра альбо проста піва папіць ездзіў?

Аматары замежнага шопінгу ўжо зараз пераключыліся са звыклых супермаркетаў Беластоку і Вільні на той жа Смаленск.





Туды «на закупы» ўжо з'ездзіў журналіст «Радыё Свабода». Што ён ужо заўважыў? Аўтобусы ў Смаленск адпраўляюцца адзін за адным. Па квіткі лепш звяртацца загадзя, у пятніцу месцаў ужо амаль не бывае. У дарозе ўсё часцей сустракаюцца машыны з беларускімі нумарамі, прычым не толькі «памежнымі» — бываюць і мінскія, і магілёўскія, і нават гродзенскія. На паркоўцы ля гандлёвага цэнтра «Галактыка» пераважная большасць беларускіх аўто. І гіпермаркет «Карусель» прыцягвае беларусаў да такой ступені, што праз пару гадзін пасля адкрыцця некаторыя паліцы застаюцца нават пустымі.

У крамах адзначаюць значны рост беларусаў у апошнія месяцы. «Вядома, будзе расці. Бо нашых прадпрымальнікаў душаць, і мы ў Смаленск неўзабаве будзем ездзіць ужо не толькі за сукенкамі-касцюмамі, а за майткамі і шкарпэткамі», — кажа мужчына, заходзячы ў аўтобус з надпісам «Заходняя губерня».

**Аматары замежнага шопінгу ўжо ездзяць у Смаленск**

Гэта наваполацкая фірма, якая раней вазіла на шопінг у Вільню і Беласток, адкрыла новы маршрут — у Смаленск, адзначае карэспандэнт «Свабоды».

Гэта толькі бачныя вачыма наступствы ўказа №222. А ёсць і нябачныя. Па-першае, як кажа эканаміст, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Леў Марголін, ужо моцна церпяць мясцовыя бюджэты, асабліва ў невялікіх гарадах і райцэнтрах. Бо прадпрымальнікі не працуюць і не плацяць падаткаў у гэтыя бюджэты. Тое ж тычыцца арэнднай платы, што апасродкавана, праз арганізацыі спажыўкааперацыі, якім у большасці належаць рынкі, усё роўна атрымлівалі бюджэты.

Па-другое, Марголін прагназуе значны рост «шэрай» эканомікі: калі тыя ж прадпрымальнікі, каб выжыць, будуць прадаваць свае тавары шляхам «сеткавага маркетынгу» праз знаёмых, потым знаёмых іх знаёмых, бацькам дзяцей — аднакласнікаў іх дзяцей, і гэтак далей. Адпаведна, ніякіх падаткаў ад іх не дачакаешся.

І, канешне, рост беспрацоўя. Бо нават калі ІП пачнуць працаваць па правілах указа №222, кошт іх тавараў падскочыць на 30–50%. І тады ўжо дробныя бізнесоўцы прагараць эканамічна: ва ўмовах нізкіх заробкаў дарагі тавар ніхто купляць не будзе.

Карацей, пакуль што адзіны станоўчы эканамічны эфект ад указа №222 — ажыўленне пасажырапатоку ў напрамку Смаленску. Больш нічога, апроч шкоды, няма.

Для таго, каб ад яго быў чаканы эфект, уладам трэба закрыць мяжу з Расіяй. Але, баюся, у гэтым выпадку ў краіне замест тавараў з'явяцца «зялёныя чалавечкі» і «ветлівыя людзі».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. Сходы ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» забароненыя



**«Эвіком» быў месцам правядзення сходаў ІП на працягу двух апошніх месяцаў. Аднак адміністрацыя папярэдзіла: сходы, на якіх прысутнічаюць прадпрымальнікі з іншых гандлёвых аб'ектаў, «непажаданыя».**

«Калі мы даведаліся пра пазіцыю адміністрацыі, то вырашылі выйсці ў двор падчас мінулага сходу. З аднаго боку, мы выканалі патрабаванне адміністрацыі, але з другога — з'явілася небяспека, што нас могуць пакараць за несанкцыянаваную акцыю. Да прыкладу, за «мітынг», бо абмеркаванні наяўных праблем адбываюцца вельмі эмацыйна. А права на мірныя сходы ў Беларусі ігнаруецца, і скарыстацца ім мы не можам», — разважае Ірына Яскевіч, кіраўніца аргкамітэту па стварэнні прафсаюзу прадпрымальнікаў «Разам».

Ірына Яскевіч не выключае, што чарговы запланаваны сход віцебскіх прадпрымальнікаў, давядзецца праводзіць на вуліцы. Рызыкаваць давядзецца ў любым выпадку: або сабрацца ў гандлёвым цэнтры і падпасці пад рэпрэсіі з боку адміністрацыі «Эвікома», якую не задавальняе прысутнасць на сходзе «чужых» прадпрымальнікаў, або выйсці на вуліцу з рызыкай быць прызнанымі парушальнікамі заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

### БАБРУЙСК. Бацькі супраць шматпавярховіка каля школы



**Мясцовыя ўлады запланавалі будаўніцтва 18-павярховага дома адразу за школьным плотам. Ад будынка школы да пляцоўкі, дзе плануюць узводзіць гмах, няма і ста метраў.**

Бацькі вучняў пачатковай школы №27 абураныя і напалоханыя такім суседствам. У школе былі праведзены грамадскія слуханні з удзелам начальніка аддзела адукацыі спорту і турызму адміністрацыі Ленінскага раёна Алы Калеснічэнка, начальніка ўпраўлення адукацыі спорту і турызму гарвыканкаму Ірыны Рынейскай, дырэктара УКБ Уладзіміра Малятотава, начальніка аддзела архітэктуры Артура Дарашкевіча і неназваных «прадстаўнікоў забудоўшчыка».

«На будоўлях здараюцца выпадкі, калі, напрыклад, кран зрываецца. А ў гэтым выпадку гэта будзе вельмі высокі кран», — даводзілі бацькі чыноўнікам на слуханнях. Бацькі жадаюць, каб будаўніцтва наогул не пачыналася, але не вераць у тое, што чыноўнікі пойдуць ім насустрач. «Хаця б прывядзіце пляцоўку ў парадак, абсталюйце згодна з нормамі заканадаўства і адсуньце яе далей ад школы, — патрабуюць бацькі.

Чыноўнікі і забудоўшчыкі абяцаюць, што «прымуць меры», каб прыбраць недахопы ў планіроўцы, і абяцаюць арганізаваць для школьнікаў «іншы праход». Яны ўвесь час падкрэсліваюць, што «праект прайшоў узгадненні ва ўсіх інстанцыях». Але бацькі кажуць, што заканадаўства ў любым выпадку ўжо парушана, бо па нормах яно не можа быць распачатае бліжэй чым на 100 метраў ад школы.

**Паводле spring96.org**

# Аднавіць перапіску з Андрэем Бандарэнкам

Сяргей ПУЛЬША

**Пра праблемы ў перапісцы вязня сумлення Андрэя Бандарэнкі, які знаходзіцца ў магілёўскай турме №4, НЧ пісаў у №6 за гэты год. Лісты з волі і лісты на волю па-ранейшаму не даходзяць.**

Экс-суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў не атрымлівае лістоў ад вязня ўжо паўтара месяца. «Бандарэнку перавялі на турэмны рэжым у Магілёў у канцы снежня 2015 года. За гэты час я напісаў яму па новым адрасе пяць лістоў. А ў адказ — цішыня. Ніводнага ліста, апроч першага, па прыбыцці ў турму. У такой сітуацыі сталі ўзнікаць падазрэнні, што мае лісты да яго не даходзяць. Хоць пры знаходжанні Бандарэнкі ў калоніі ў Бабруйску і ў Шклове пошта ішла ў абодва бакі без перашкод», — распавёў Пастухоў.

Пасля кароткатэрміновага спаткання Бандарэнкі з бацькам, якое адбылося 19 лютага, высветлілася, што лістоў Пастухова вязень не атрымлівае. Яго лісты таксама не прыходзяць.

«Калі мае лісты Андрэю ў турме не перадаюць, а яго лісты «не прапускаюць», то гэта — грубае парушэнне заканадаўства. На гэта нават маецца артыкул 203 у Крымінальным кодэксе — «Парушэнне таямніцы перапіскі, тэлефонных перамоваў і іншых паведамленняў». Калі такімі дзеяннямі займаецца службовая асоба, то прадугледжваецца пакаранне ў выглядзе арышту або пазбаўлення волі», — кажа Пастухоў.

У сувязі з гэтым Міхаіл Пастухоў палічыў неабходным напісаць ліст-зварот на адрас начальніка турмы і пракурора Магілёўскай вобласці з тым, каб правесці праверку ўказаных фактаў і даць ім адпаведную ацэнку. Копію гэтых зваротаў ён накіраваў самому Бандарэнку «для кантролю».

«Зараз будзем чакаць вынікаў. Нічога іншага, на жаль, зрабіць нельга. Ці захоча ўлада выконваць Канстытуцыю і законы, і паважаць правы не толькі зняволеных, але і свабодных грамадзян?» — задаецца пытаннем Пастухоў.

# Пратэставаць і не плаціць

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Палітычна актыўная частка ІП збіраецца пратэставаць асобна ад тых, хто групуецца вакол Анатоля Шумчанкі. Бліжэйшая акцыя адбудзецца 28 лютага. Калі ж яна не дасць плёну, ІП абяцаюць не плаціць падаткі ды арэндную плату.**

Пра гэта было заяўлена 24 лютага на прэс-канферэнцыі Руху салідарнасці «Разам». Сярод удзельнікаў мерапрыемства былі Алесь Макаеў, Мікалай Аўтуховіч, Таццяна Міронава і Віктар Ламека.

Што цікава, гэтым разам лідары індывідуальных прадпрымальнікаў не так шмат казалі пра немагчымасць працаваць у новых умовах. Прычым гэта датычыць не толькі гандляроў рэчамі на рынках. Напрыклад, на прэс-канферэнцыі агучылі «крык адчаю» гомельскіх перавозчыкаў. Па словах Мікалая Аўтуховіча, частку рынку пасажырскіх перавозак у гэтым абласным цэнтры кантралююць людзі, якія раней працавалі ў КДБ, і цяпер яны пры дапамозе дзяржаўных органаў «выціскаюць» з рынку незалежных канкурэнтаў.

Але больш увагі Алесь Макаеў і Мікалай Аўтуховіч надалі сваім планам па арганізацыі пратэстаў прадпрымальнікаў. Прытым ІП патрабуюць адстаўкі прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, міністра эканомікі Уладзіміра Зіноўскага і міністра па падатках і зборах Сяргея Налівайку.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі прызналіся, што не вераць у эфектыўнасць перамоў з урадам. Па словах кіраўніка Руху салідарнасці «Разам», у такім выпадку ІП перастануць плаціць падаткі ды грошы за арэнду гандлёвых месцаў. «Для Лукашэнкі гэта будзе вельмі моцны ўдар — калі мы перастанем плаціць падаткі — мацнейшы за любыя пратэсты, — упэўнены Мікалай Аўтуховіч. — Сёння мы не заплацім падаткі, заўтра мы адмовімся ад яшчэ чагосьці, не заплацім арэнду, сыдзем. Гэта будзе значыць, што людзі перасталі баяцца. І гэта — падстава для дыялогу. Хаця насамрэч весці дыялог там няма з кім».

Увогуле, лідары прадпрымальнікаў некалькі разоў падкрэслівалі, што пратэст ІП з эканамічнага хутка перарастае ў палітычны. «Усе гэтыя праблемы — гэта ўжо не праблемы прадпрымальнікаў, гэта палітычныя праблемы. На плошчы ўжо гучалі заклікі кардынальна змяніць усё, — папярэдзіў Аўтуховіч. — Усе гэтыя «рабочыя групы» прадпрымальнікаў з чыноўнікамі — яны нічога не вырашаюць. Колькі можна? Нас 20 гадоў «гнабяць», і мы ўвесь гэты час з нейкімі заявамі звяртаецца. Не мае сэнсу пісаць нейкія паперкі — ніхто з міністраў і чыноўнікаў нічога не вырашае. Трэба выходзіць і казаць пра свае праблемы».

# Слуцкая Венецыя бабы Марыі

Зінаіда ЦІМОШАК

**Больш за 10 гадоў каля дому 91-гадовай пенсіянеркі Марыі Ільіной разліваюцца сцёкавыя воды.**

Камунальнікі «забыліся» пакласці трубы для падземнага адводу дажджавых і каналізацыйных водаў каля яе дома. Каля дома №10, які месціцца у 2-м завулку Пралетарскім у Слуцку, па вуліцы ў глыбокай, не абгароджанай сцёкавай канаве весела журчыць ручай. Некалькі драўляных мосцікаў, раскідзістых куст непадалёку настройваюць недасведчанага мінака на рамантычны лад.

Але бабулі Марыі не да рамантыкі. Паколькі вуліца па ўзроўні ніжэй суседніх, уздоўж платоў пад зямлёй праклалі ліўневую трубу, якая вядзе з вуліцы Базарнай да вуліцы Пракопчыка. Каля бабулінага плота трубы павінны былі злучацца, і па больш шырокай трубе несці непатрэбную ваду далей у гарадскую каналізацыю.

Замест гэтага каля дому бабулькі, а таксама суседнягата дома, дзе на той момант пражывала шматдзетная сям'я, «на памяць» аб рамонце вуліцы засталася глыбокая сцёкавая канава з адкрытым ручаём.

«Спачатку я думала, што супрацоўнікі ЖКГ вернуцца, каб дарабіць тое, што яны зрабілі каля астатніх дамоў, — гаворыць бабка Марыя. — Пасля родзічы пабудавалі для мяне масткі праз канаву. Каля пераходу з вуліцы ў дом унук паклаў сваю трубу».

«Званіла, скардзілася. Абяцалі дарабіць, але нічога не зрабілі. Некалькі гадоў таму пачала пісаць у інстанцыі. Восенню 2015 года звярнулася ў райвыканкам, у Слуцкую ЖКГ. Райвыканкам перадае мае звароты ў ЖКГ. Нядаўна прыязджалі з ЖКГ, пад мосцікам паклалі больш шырокую трубу, а маю звезлі. Прыйшлося звяртацца, каб аддалі маю трубу», — расказвае Марыя Ільіна.

Справа не толькі ў тым, што сцёкавыя воды з усімі нечыстотамі цякуць ля яе дома. З-за гэтага пенсіянерка не можа карыстацца калодзежам і браць адтуль пітную ваду.

«Ужо некалькі гадоў не магу карыстацца калодзежам. Калі ідзе лівень — вада з канавы разліваецца аж да падмурка хаты і веранды, застойваецца. Пры гэтым па канаве цячэ ж не чыстая дажджавая вадзіца, — сюды зносяцца розныя нечыстоты, смецце, адпрацаванае масла, нават дохлыя пацукі. Дзесьці мыюць аўтамабілі — усё тут», — кажа яна.

«Мне ўжо 91 год, — працягвае Марыя Раманаўна. — Я інвалід 2-й групы. Прыязджалі з сацыяльнай службы на 90-годдзе. Падарылі мне падарунак. Я ж іх прасіла, каб прыслалі якую камісію ды дапамаглі мне з гэтай праблемай. Бо прыходзіцца купляць ваду. 40 гадоў сумленна адпрацавала медсястрой, і вось якую падзяку атрымала на старасці».

Па словах Марыі Іванаўны, у канаве аднойчы ледзьве не захлынуўся п'яны чалавек. Гэта не дзіўна, бо паміж канавай і асноўнай часткай вуліцы няма агароджы, у вячэрні час тут з лёгкасцю можна трапіць у ваду альбо займець якое-небудзь фізічнае пашкоджанне. Небяспечная канава і для аўтамабілістаў з пункту гледжання дарожнай бяспекі. А аўтамабіляў сюды прыязджае шмат — крама будаўнічых матэрыялаў, што побач, карыстаецца попытам.

З дапамогай неабыякавых людзей бабуля збіраецца звярнуцца ў аблвыканкам. Можа, у кіраўніцтва вобласці знойдуцца грошы, каб ажыццявіць сацыяльны стандарт у адносінах да сталага чалавека — пакласці патрэбную трубу, дзеля таго, каб баба Марыя магла карыстацца вадой са свайго калодзежа і не жыла ў вільгаці ды непрыемных пахах.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# А Васька слухае, ды есць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Бачна па ўсім, і Аляксандру Рыгоравічу прыйшла жыроўка за ягоны домік у Драздах. Прынамсі, гэтай балючай тэме ён прысвяціў шмат слоў на тыдні. Не стрымаўся нават падчас сустрэчы з замежнымі дыпламатамі.**



«Ім было дадзена заданне прааналізаваць сітуацыю з тарыфамі на ЖКГ і зрабіць дакладныя разлікі. Давялі жорсткія тарыфы. Што яны пачалі рабіць? Яны пачалі мудраваць і ўводзіць нейкія паказчыкі», — скардзіўся Лукашэнка 23 лютага паслу Расіі ў Беларусі Аляксандру Сурыкаву пасля цырымоніі ўскладання вянка да манумента на плошчы Перамогі. А днём раней кіраўнік Беларусі нават запатрабаваў надзець кайданкі на дзясятак-другі чалавек, вінаватых у павышэнні коштаў на паслугі ЖКГ.

«Мы там усё палічылі?» — спытаў ён у кіраўніка дзяржкантролю Леаніда Анфімава падчас дакладу аб падатковай і акцызнай палітыцы ў 2016 годзе. Анфімаў адказаў, што неабходныя разлікі былі праведзены, але з прымяненнем на практыцы атрымалася з дакладнасцю да наадварот, усё было зроблена, што называецца, «ад балды».

«Значыць, надзеньце кайданкі тым, хто не выканаў дадзеныя па майму загаду тарыфы. Надзеньце і публічна пасадзіце дзясятак-другі чалавек. Усё стане на свае месцы. Тут павінен быць спіс, хто гэтую «балду» прыдумаў. Хопіць з імі жартаваць. Мы тут нешта лічым, плануем, а яны робяць усё па-свойму», — заявіў Лукашэнка. І, канешне ж, зноў запатрабаваў ад старшыні КДК, кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і прэм'ера да 1 сакавіка прадставіць яму разлікі тарыфаў жыллёва-камунальныя паслугі.

Насамрэч, уся гэта паказуха, каб давесці, што «цар добры — баяры дрэнныя». Але, калі падумаць, выглядае нават на нейкі спектакль: маўляў, «бацька хутка з усім разбярэцца».

Па-першае, чаму тарыфамі ЖКГ павінны займацца кіраўнік КДК, Адміністрацыя прэзідэнта і персанальна прэм'ер-міністр? Чаму б не паслухаць «начальніка транспартнага цэха», і не папрасіць пра тое міністра камунальнай гаспадаркі? У яго гэтыя лічбы павінны ад зубоў адскокваць. Не, чамусьці да гэтага далучаныя іншыя чыноўнікі, у якіх сваіх спраў хапае.

Па-другое, ад таго, што «пасадзіць дзясятак-другі чалавек», сітуацыя не зменіцца. Трэба знішчаць манаполію на камунальныя паслугі, рэфармаваць саму сістэму. Па словах памочніка Лукашэнкі і Аляксандра Якабсона, які таксама з'яўляецца кіраўніком рабочай групы па рашэнні праблем у ЖКГ, пустое марнатраўства ў ЖКГ можа займаць да паловы сабекошту яе паслуг. Менавіта гэтае марнатраўства аплочваем мы праз «жыроўкі».

Ну і, па-трэцяе, Лукашэнка патрабуе прадставіць яму разлікі ЖКГ з зайздроснай упартасцю ад 2013 года. Калі за тры гады гэтага зроблена не было, які шанец, што гэта будзе зроблена за тыдзень?

Чаму так адбываецца? Нядаўна я размаўляў з доктарам першай катэгорыі. Яна мне паведаміла, што яе заробку хапае роўненька на камуналку і на праязны да працы. І заўважыла, што ў яе ёсць адчуванне, што мы вярнуліся ў 1990-я. Прычым, не толькі па эканоміцы, але і па ўнутраным стане: усе ў жаху і шоку, і ніхто не ведае, што будзе далей.

А што было ў 1990-х? Галоўнае было — нахапацца да таго, як прыйдзе «капіталізец». Вось і зараз галоўнае — «распілаваць бабло», а потым і кайданкі не напужаюць. Бо працаваць у гэтай сістэме няма каму.

Трэнд апошніх тыдняў: кіраўнікі, асуджаныя за карупцыю, мілуюцца ўказам Лукашэнкі і... прызначаюцца на кіроўныя пасады розных узроўняў! Пакуль вядома пра пяцёх такіх «кадраў». Былы намеснік генпракурора Аляксандр Архіпаў, асуджаны ў 2014-м годзе на шэсць гадоў пазбаўлення волі за атрыманне хабару і перавышэнне службовых паўнамоцтваў, вызвалены і 26 студзеня прызначаны дырэктарам РСУП «Пятровічы». Былы старшыня Чашніцкага райвыканкама Уладзімір Булай, які абвінавачваўся ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, прызначаны дырэктарам ААТ «Кляновічы». Былы намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Ігар Стасевіч, асуджаны ў 2014-м на тры гады пазбаўлення волі за перавышэнне службовых паўнамоцтваў, прызначаны дырэктарам Баранавіцкага камбіната надомнай працы. Былы гендырэктар ААТ «Магілёўдрэў» Андрэй Усаў, асуджаны ў 2014 годзе на восем (!) гадоў пазбаўлення волі за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, крадзеж маёмасці шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, службовы падлог, вызвалены і прызначаны выканаўчым дырэктарам па вытворчасці ААТ «Магілёўскі завод Строммаш». Былы намеснік старшыні канцэрна «Белнафтахім» Уладзімір Волкаў, асуджаны ў 2014 годзе за атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры, таксама на восем гадоў пазбаўлення волі, у лютым быў вызвалены датэрмінова і прызначаны кіраўніком дырэкцыі аб'ектаў наваполацкага НПЗ, што будуюцца.

Зноў нагадвае 1990-я, калі «эканамічным злачынцам» была абвешчаная амністыя, і яны адразу ж зрабіліся буйнымі бізнесоўцамі. Праўда, тады «эканамічныя злачынствы» былі іншыя, але гэта ўжо дэталі.

І такіх парадоксаў шмат. Два месяцы з-за ўказа №222 не працуюць дробныя бізнесоўцы. 22 лютага Лукашэнка адхіліў прапановы ўрада па змяненні існуючай у Беларусі сістэмы прыватызацыі. «Прапановы ўрада па агульнай прыватызацыі прынятыя быць не могуць. Нават па змене сістэмы прыватызацыі дзяржуласнасці», — сказаў ён.

А ўжо 23 лютага ён жа падпісвае ўказ №78 «Аб мерах па павышэнні эфектыўнасці сацыяльна-эканамічнага комплексу Рэспублікі Беларусь», сярод захадаў якога — развіццё добрасумленнай канкурэнцыі на ўнутраным рынку, рост і дыверсіфікацыя экспарту, рацыянальнага імпартазамяшчэння. А таксама прадугледжваецца (увага!) «паскоранае развіццё малога і сярэдняга бізнесу, прыцягненне замежнага капіталу ў развіццё і стварэнне вытворчасцяў, паступальнае зніжэнне працэнтаў па крэдытах у эканоміцы».

Падаецца, там адна рука не ведае, што робіць другая.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Васіль Быкаў

**Лічылася, што ўся напісаная класікам беларускай літаратуры проза апублікаваная.**

Але на гэтым тыдні адбылася прэзентацыя новага, невядомага аповеду майстра, які без правак друкуе часопіс «Дзеяслоў».

Рукапіс перадала ў «Дзеяслоў» удава народнага пісьменніка Ірына Міхайлаўна Быкава. Галоўны рэдактар часопіса Барыс Пятровіч распавёў, што рукапіс быў без назвы: «На ім была толькі пазначаная дата: «89 г.». Аповед у тэксце вёўся ад самога героя, прычым вельмі шчыра, асабіста, і можна было падумаць, што гэта быў першы падыход Васіля Уладзіміравіча да напісання біяграфічных успамінаў, якія сталі потым кнігай «Доўгая дарога дадому».

Асновай твора з'яўляецца аповед выпадкова сустрэтага героем гродзенскага кадэбіста. Знаходзячыся за пару крокаў ад смерці, той вырашае даверыцца санаторнаму знаёмаму і расказаць пра сваю ранейшую барацьбу з гродзенскімі дысідэнтамі А. Карпюком і Васілём Быкавым.

«Вельмі шкада, што Васіль Уладзіміравіч, пачаўшы пісаць гэты тэкст яшчэ ў 1989 годзе, так да яго больш і не вярнуўся, не скончыў, — адзначае Барыс Пятровіч. — Цікава, што яшчэ распавёў яму той «супрацоўнік» і якія былі яго каментары. І ў што потым, пасля дапрацоўкі, ператварыўся б гэты запіс: у мастацкі твор ці ўсё ж перамагла б дакументальнасць?»



## Зянон Пазьняк

**Нават самыя бяскрыўдныя кнігі гуру беларускага нацыянальнага супраціву на радзіме забараняюцца.**

Суд Ленінскага раёна Брэста ў асобе суддзі Алены Кавальчук падтрымаў заключэнне экспертнай камісіі, якая раней прызнала экстрэмісцкімі дзве кнігі Зянона Пазьняка: «Абарона Курапатаў. Народны мемарыял» і «Добрая фатаграфія».

Гэтыя кнігі былі канфіскаваныя ў верасні 2015 года ў сакратара Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Алеся Чахольскага на беларуска-польскай мяжы. Калі першую кнігу, прысвечаную абароне Курапатаў, яшчэ так-сяк можна лічыць «палітычнай», то «Добрая фатаграфія» — зборнік фатаграфічных эсэ пра фотаздымкі з краін Еўропы і Амерыкі з сярэдзіны XIX стагоддзя і да нашых дзён (нагадаем, што Пазьняк — прафесійны фатограф).

Дарэчы, экспертнае заключэнне зместу публікацый Зянона Пазьняка далі прадстаўнікі праўладнага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь». Паплечнікі старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ абураныя. «Гэта чыста палітычная справа. Упершыню ў чыстым выглядзе. Бо судзілі палітычныя ацэнкі лідара беларускай апазіцыі», — адзначае намеснік Зянона Станіслававіча па Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Юры Беленькі.

## Васіль Парфянкоў

**Былы беларускі палітвязень можа стаць украінскім палітвязнем.**



Васіль Парфянкоў арыштаваны ва Украіне ў сувязі з пагромамі ў аддзяленні «Альфа-банка» ў Кіеве. Яму пагражае да 4-х гадоў турмы за хуліганства, зробленае групай асобаў.

Парфянкоў зараз — баец Добраахвотніцкага корпусу АУН («Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў») і атрымаў украінскае грамадзянства. Камандзір корпусу АУН Мікола Каханіўскі заявіў «Радыё Свабода»: «Васіль не зрабіў ніякага разбою, ён дзейнічаў паводле ўказання свайго камандзіра, гэта значыць мяне. Я ўзяў на сябе адказнасць за гэтую акцыю». І дадаў, што цяпер рыхтуе заяву аб прызнанні Васіля Парфянкова палітычным вязнем.

Паводле Міколы Каханіўскага, Васіль Парфянкоў — адзіны, каго затрымалі ў сувязі з пагромамі.

«Зразумела, што мы прызнаём Васіля Парфянкова палітычным вязнем і будзем за яго змагацца. Калі дзяржава яго не адпусціць, то мы арганізуем падпалы расійскіх банкаў. Васіль ваяваў за Украіну так, як гэта разумеў. Ён ваяваў на фронце, у тыле як грамадскі актывіст. Я думаю, што дзяржава схамянецца і спыніць тэрор супраць добраахвотніка», — упэўнены Каханіўскі.

# Арыфметыка эфектыўнасці

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Дзяржпрадпрыемствы больш эфектыўныя. Менавіта так лічаць у Міністэрстве па падатках і зборах.**


Фота www.vetka.by

Міністэрства па падатках і зборах не так даўно апублікавала дадзеныя па зборы падаткаў у 2015 годзе. З гэтай статыстыкі вынікае, што найвялікшы ўклад у фармаванне бюджэту ўносяць дзяржаўныя прадпрыемствы, а індывідуальныя прадпрымальнікі — нейкую драбязу.

Тым не менш у нас прынята лічыць, што прыватныя прадпрыемствы больш эфектыўныя за дзяржаўныя. І на самай справе, аналіз дадзеных Белстата паказвае, што працэнт стратных прадпрыемстваў у прыватным сектары нашмат ніжэй, чым сярод прадпрыемстваў змешанай або дзяржаўнай формы ўласнасці. Паколькі прыватныя фірмы ў сваёй працы арыентуюцца на прыбытак, лічыцца, што яны традыцыйна апярэджваюць дзяржпрадпрыемствы па прадукцыйнасці працы. Паводле падлікаў Сусветнага банка, у 2004–2010 гадах прадукцыйнасць працы ў дзяржаўным сектары Беларусі была ў сярэднім на 40% ніжэй у параўнанні з прыватным сектарам.

Аднак, з пункту гледжання падатковага ведамства, пакуль больш карысці ад дзяржпрадпрыемстваў і буйнага бізнесу.

Калі ўзяць кансалідаваны бюджэт за 100%, то 49,9% паступленняў у яго (96383,7 мільярда рублёў) забяспечылі арганізацыі дзяржаўнага сектара эканомікі, паведамляе Міністэрства па падатках і зборах. Арганізацыі недзяржаўнага сектара забяспечылі 44,4% (85795,2 мільярда рублёў).

Затое суб'екты малога і сярэдняга бізнесу напоўнілі дзяржбюджэт на 28,5% (55152,6 мільярда рублёў). У найменшай жа ступені кансалідаваны бюджэт напоўнілі фізічныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі (падаткавікі звялі іх у адну групу) — на 5,7%.

Я пацікавіўся ў першага намесніка міністра па падатках і зборах Ігара Клепчы: ці праводзіўся аналіз таго, якія прадпрыемствы больш плацяць падаткаў у пераліку на аднаго працаўніка — дзяржаўныя або прыватныя? Бо калі лічыцца, што прыватны бізнес працуе больш эфектыўна, то і кожны яго супрацоўнік, па логіцы, павінен прыносіць большыя прыбыткі бюджэту.

Адказ намесніка міністра быў дзіўны. «Я цяпер дакладныя лічбы вам, вядома, не назаву. Але такія падлікі, вядома, праводзіліся, — сказаў Ігар Клепча. — І на аднаго працаўніка, занятага ў дзяржаўным сектары эканомікі, падаткаў, вядома, прыходзіцца больш».

Дык хто ж працуе больш эфектыўна? Як кажуць эканамісты, тут усё залежыць ад таго, хто і як лічыць.

«Тут заўсёды ўзнікае пытанне методыкі падліку. Я не ведаю, якую методыку яны выкарысталі і якія прадпрыемствы адносіліся да дзяржаўнай, а якія — да прыватнай формы ўласнасці. Не ведаем мы і таго, якія падаткі браліся ў разлік. Гэта значыць, падыходзіць да ацэнак тут трэба вельмі асцярожна», — мяркуе эксперт «Ліберальнага клуба» Антон Болтачка.

На самай справе, нават ацэнкі долі занятых у прыватным сектары вельмі адрозніваюцца. Так, эксперты Сусветнага банка ў эканамічным мемарандуме для Беларусі паказваюць, што на долю дзяржпрадпрыемстваў прыходзіцца 69% ВУП, на іх працуе дзве траціны эканамічна актыўнага насельніцтва краіны. Таксама, па ацэнках экспертаў Сусветнага банка, у Беларусі на тыповым дзяржпрадпрыемстве у сярэднім 500 працаўнікоў, тады як на прыватным прадпрыемстве працуе 18 чалавек.

Яшчэ адна асаблівасць беларускага дзяржсектара ў тым, што яму падаюцца рознага кшталту прэферэнцыі. Дзяржпрадпрыемствам у Беларусі прадаюцца на палегчаных умовах энерганосьбіты, у іх ёсць падатковыя прэферэнцыі, доступ да танных крэдытных рэсурсаў, прывілеі падчас правядзення тэндараў», — канстатавала старшы эканаміст СБ Галіна Вінсэлет яшчэ ў 2012 годзе. І з таго часу нічога не змянілася.

Адпаведна, калі зыходзіць з ацэнак Сусветнага банка, то працаўнікі дзяржпрадпрыемстваў сапраўды забяспечваюць менш паступленняў у бюджэт у пераліку на аднаго чалавека: 2/3 беларускіх працаўнікоў даюць 49,9% прыбыткаў бюджэту. А 1/3 тых, што задзейнічаны ў прыватным бізнесе, — 44,4% прыбыткаў.

Але паводле дадзеных Белстата ў 2014 годзе (больш свежых лічбаў пакуль няма) са 100% занятага ў эканоміцы насельніцтва на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці працавала 39%, на прыватных прадпрыемствах — 57,8% (астатнія 3,2% — самазанятыя асобы, уключаючы ІП).

То бок, па Белстаце, 57,8% працаўнікоў у краіне даюць 44,4% прыбыткаў дзяржбюджэту. Няўжо першы намміністра па падатках і зборах мае рацыю, і агульнапрынятае меркаванне аб больш высокай эфектыўнасці прыватнага бізнесу — міф?

Наўрад ці. Па-першае, дзяржпрадпрыемствы ў Беларусі існуюць у нашмат больш лагодных умовах, пра якія згадваў Сусветны банк. Па-другое, афіцыйная статыстыка адносіць шматлікія прадпрыемствы АПК, пераўтвораныя з калгасаў у рознага тыпу аграрныя кааператывы, да прыватнага сектару эканомікі! А ў гэтым сектары з рэнтабельнасцю справы зусім кепскія.

# Гэты шанец мы павінны выкарыстаць


Алесь ЛАГВІНЕЦ

**З афіцыйным Мінскам спрабуюць размаўляць. Да яго спрабуюць падысці стратэгічна, паказаць, што еўрапейская альтэрнатыва — гэта выгадна. І дзеля гэтага ЕС прыняў стратэгічнае рашэнне ўцягваць Беларусь у больш шчыльнае супрацоўніцтва.**

Са свайго боку, афіцыйны Мінск сёння спрабуе паказаць, што ён дамоваздольны. Ён спрабуе гуляць у гэтую гульню, каб атрымаць большую колькасць грошай ад ЕС. І зразумела, што нейкія зрухі ў гэтым кірунку магчымыя. Магчыма, ЕС вылзеліць якія грошы на рэструктурызацыю беларускай эканомікі ці дафінансуе дзяржпраграмы або падтрымае праекты ў сацыяльнай ці экалагічнай сферах.

Мы ведаем, што гістарычна Еўрасаюз моцна паўплываў і паспрыяў рэструктурызацыі эканомік краінаў Цэнтральнай Еўропы. Выкарыстана была тая ж самая мадэль адносінаў — ЕС іншай і не ведае. Ён спрабуе дамаўляцца з дзяржаўнымі інстытуцыямі адносна наступных крокаў на шляху рэфармавання. Гэта стратэгічны падыход. Зразумела, што такі падыход не заўсёды ўлічвае асаблівасці ўлады, з якой ідзе супраца, і таксама жаданне гэтай улады. У нашым выпадку — аўтарытарнай улады, якая завяла краіну ў тупік.

І ў той жа час мы бачым, што ўлада ў Беларусі напужаная. Яна, відаць, усур'ёз занепакоеная пагрозай расійскай інкарпарацыі або эканамічнай катастрофы. Таму яна спрабуе гуляць з Захадам, абяцае пэўныя крокі насустрач. Нават нібыта змены і ў выбарчым заканадаўстве, прынамсі на ўзроўні правапрымяняльнай практыкі. Мы ведаем, што яны, хутчэй за ўсё, гэта не будуць рабіць, але будуць абяцаць і абмяркоўваць, карацей, зацягваць.

Тут Еўрасаюз спрабуе пачаць з чыстага аркуша; ён падводзіць умоўную рысу і імкнецца паказаць, што для Беларусі існуе еўрапейскі шлях, пэўная еўрапейская мадэль узаемаадносінаў. Няма сумневаў, што ўлады Беларусі наўрад ці здольныя да канца «разыграць» еўрапейскую карту. Але, зноў жа, нам павінна хапаць стратэгічнага мыслення, каб разумець, што калі мы сёння не дадзім магчымасці нашай краіне скарыстацца з гэтага шанцу большага адкрыцця на Еўрапейскі саюз, то, магчыма, пазней будзе ўжо і позна. Бо стратэгічнае мысленне — гэта бачыць, хто ёсць хаўруснікам у нашай справе.




Сёння Беларусь можа замацаваць сваю незалежнасць і зрабіць яе незваротнай, дзякуючы больш шчыльнаму ўзаемадзеянню з Еўрасаюзам. Каб нашы людзі не толькі ідэйна падзялялі еўрапейскія каштоўнасці, але і пачалі звязваць свой дабрабыт з больш шчыльнымі адносінамі з аб'яднанай Еўропай. І гэта даволі доўгі працэс. Ён займае час, і мне падаецца, што некаторыя беларускія апазіцыянеры грашаць тым, што спрабуюць секчы сук, на якім сядзяць, калі спрабуюць даваць урокі маральнасці Еўрасаюзу і праз гэта дыскрэдытаваць таго адзінага саюзніка, якога мы можам мець дзеля ўмацавання нашай незалежнасці і развіцця дэмакратычных інстытутаў Беларусі.

Незалежнасць і дэмакратыя могуць быць пабудаваныя ў Беларусі выключна самімі беларусамі. ЕС можа толькі спрыяць гэтаму. ЕС разнастайны. Там ёсць краіны і колы, у якіх больш акрэсленыя бізнес-інтарэсы, ёсць іншыя, якія кіруюцца геапалітычнымі разлікамі, ёсць яшчэ адны, што адстойваюць каштоўнасны падыход. І тут варта сапраўды шукаць партнёраў і мабілізаваць падтрымку, а не проста дыскрэдытаваць, абагульнена крытыкаваць, навешваць ярлыкі.

Варта цвёрда адстойваць сваю пазіцыю, але заўсёды памятаць, што гэта размова не дзеля таго, каб асудзіць альбо адмовіцца у якімсьці дзеянні, а гэта размова дзеля таго, каб уплываць і дасягнуць канкрэтнага выніку.

Ёсць уплывовыя гульцы ў Еўрасаюзе, якія жадаюць бачыць Беларусь еўрапейскай, незалежнай, дэмакратычнай. А без незалежнай прэсы, без развіцця грамадзянскай супольнасці і няўрадавых арганізацый, якія непадкантрольныя дзяржаве, гэта немагчыма зрабіць. Гэта трэба вельмі добра памятаць. Трэба проста больш мэтанакіравана працаваць з нашымі партнёрамі. Трэба таксама шукаць унутраныя рэсурсы. Яны ёсць. Тут, як кажуць, кропля камень точыць. Не ўсё так кепска ў Беларусі. Мы маем досвед 25-гадовай незалежнасці, шмат у чым аўтарытарнай, недэмакратычнай, антыгуманнай, але незалежнасці. У святле расійскай агрэсіі супраць Украіны незалежнасць у тым ліку азначае няўдзел у ваенных авантурах Крамля. Беларусь захавае сваю незалежнасць і адбудуе эканоміку праз інтэграцыю з заможнымі дэмакратычнымі краінамі. Думаю, бальшыня беларусаў гэта ўсведамляе ці пачынае ўсведамляць. Ёсць таксама новае пакаленне беларусаў, якія гатовыя гэтую незалежнасць бараніць і далей развіваць нацыянальную самастоенасць. І менавіта на гэтым падмурку ў нас ёсць шанец пабудаваць лепшую Беларусь.



Міхаіл Аршынскі з героямі дакументальнай стужкі





Кадры з фільма «Воін Святла» Міхаіла Аршынскага

# Я хацеў, каб людзі яго зразумелі

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У нашай краіне Міхаіл Жызнеўскі, беларус, які загінуў на Майдане, успрымаецца і як герой, і як бандыт. Фільм «Воін Святла» расказвае пра Жызнеўскага — звычайнага чалавека.**

Міхаіл Аршынскі, рэжысёр фільма, на працягу года кантактаваў з блізкімі і знаёмымі Жызнеўскага, каб данесці да беларусаў, што герой — гэта перадусім чалавек са сваімі недасканаласцямі і шкілетам у шафе.



Міхаіл Аршынскі

***— Міхаіл, чаму ў фільме вы вырашылі паказаць Жызнеўскага як звычайнага чалавека, а не як героя?***

— Калі з раіўся з рэжысёрамі-дакументалістамі яшчэ перад здымкамі фільма, яны аднaзначна мне сказалі: «Рабі з Жызнеўскага героя». Я не пагадзіўся з гэтай парадай, бо не захацеў удзельнічаць у прапагандзе, якая сёння актыўна прасоўваецца праз нашае жыццё — як па рускім, так і па беларускім тэлебачанні. Я захацеў зрабіць фільм для звычайнага гледача, які б, пабачыўшы яго на экране, паверыў мне як рэжысёру. Таму ў фільме я расказаў пра звычайнага хлопца, у якога быў цяжкі лёс. Хтосьці называе яго бандытам за тое, чым ён займаўся ў першыя гады жыцця на Украіне. І я згодны, што ў яго справах няма геройства, бо ён рабіў не зусім законныя рэчы. Але жыццё кожнага — гэта цяжкі выбар, які раней ці пазней прыходзіцца рабіць. І перыядычна Жызнеўскі абіраў не той шлях. Але ў гэтых шляхах і заключалася яго школа жыцця, пасля якой ён па-геройску загінуў на Майдане.

***— Раскажыце пра цяжкасці, якія вам сустрэліся на працягу здымак. Я ўпэўнена, што яны былі, бо тэма даволі такі слізкая...***

— Менавіта па гэтай прычыне я праводзіў здымкі ў рэжыме маўчання. Як ні дзіўна, я сустрэў супраціў не з боку дзяржавы, а з боку гомельскіх актывістаў, часткова дзякуючы якім у мяне сарваліся здымкі з маці Міхаіла — Нінай Жызнеўскай. На жаль, я запісаў толькі адно інтэрв'ю, пасля якога ёй параілі больш са мной не камунікаваць. У выніку Жызнеўская абарвала са мной усялякія кантакты і не пайшла насустрач. У фільме з ёй з'явіўся толькі адзін эпізод.

***— Гісторыя з Нінай Жызнеўскай наогул нейкая неадназначная... І ў фільме гэта добра паказана...***

— Перад тым, як ехаць да маці Міхаіла, я свята верыў, што ў іх з сынам былі сапраўды добрыя адносіны, нягледзячы на той факт, што за дзевяць гадоў жыцця ва Украіне ён ніводнага разу не прыехаў дадому. Я меркаваў, што бацькі Міхаіла будуць фігураваць на працягу ўсяго фільма. Але на пытанні, якія ўжо прывыкла чуць, маці адказвала штампамі, а на няёмкія пытанні ўводзіла мяне ўбок. І я зразумеў, што нешта тут не так. Таму вырашыў запытаць сябгоў і блізкіх знаёмых-украінцаў Міхаіла наконт таго, што тыя ведалі пра стасункі хлопца з бацькамі. Сябры Міхаіла мне казалі пра нацягнутыя адносіны з маці. Наогул, усе ўспрынялі Ніну Жызнеўскую як ахвяру абставінаў. Натуральна, я суперажываю ёй як маці. Але калі мы ўжо расказваем поўную гісторыю чалавека, то павінны казаць і пра пэўныя непрыемныя абставіны, якія былі ў яго жыцці. І калі ўлічваць, што за дзевяць гадоў ён ніводнага разу не прыехаў у Беларусь і не сустрэўся з маці, то я запытаўся: «Што адбылося?» Менавіта гэтае пытанне і было зададзена ўсім героям здымак. Ад маці Міхаіла адказ я не атрымаў. А сябры з неахвотай дзяліліся той інфармацыяй, якую яны ведалі толькі са слоў Міхаіла.



***— Якая была пазіцыя Ніны Жызнеўскай пасля выхаду фільма? Тое, што яна сказала вам на інтэрв'ю, поўнасцю зруйнавалася каментарамі іншых герояў...***

— Контраргументы ў фільме выказала Руслана, добрая сяброўка Міхаіла. Але пасля таго, як карціна была зроблена, ёй не спадабалася тое, што мы выкарысталі яе ў якасці чалавека, які будзе крытыкаваць маці Міхася. Яна, як і шмат хто яшчэ, пераконвала мяне прыбраць гэтыя фрагменты. Многія не хацелі, каб такія рэчы былі агучаны ў фільме. На самай справе, я суперажываю Ніне Жызнеўскай. Цяжка страціць сына аднойчы, а пасля ў другі раз — і ўжо назаўжды. Адзінае, мне не зусім зразумелая яе пазіцыя зараз, таму што ў сацыяльных сетках было шмат бруду, які выдавалі расійскія СМІ. Скажам шчыра, што і беларуская журналісты паказваліся не зусім карэктна. Напрыклад, назваць Жызнеўскага «бамжом», як гэта зрабіў Юры Зісер, — няправільна наогул. На гэта яна не рэагавала ніяк, але калі выйшаў фільм «Воін Святла», то адразу стала чамусьці абурацца. Яна пісала, што я не падымаю слухаўку, але тэлефанавання ад яе не паступала. Жызнеўская стала крыўдаваць, што я не даў ёй пераглядзець фільм перад пачаткам. Але як мне варта было паступіць? Даслаць ёй дыск поштай?

***— Ці шмат людзей адмовілася здымацца?***

— Было шмат людзей, якія, з аднаго боку, хацелі б паўдзельнічаць у здымках, а з іншага — баяліся. Але ў асноўным я пабачыў упэўненасць і падтрымку ў маіх героях. На жаль, далёка не ўсіх людзей я змог здымаць. Не змог паўдзельнічаць у здымках і такі важны чалавек, як Тарас Маленькі. Падчас Майдану ён бег за Міхаілам, калі ў таго стрэлілі. Тарас пайшоў служыць у АТА, таму чыста фізічна ён не змог удзельнічаць у здымках. Блізкая сяброўка Жызнеўскага таксама адмовілася даваць мне інтэрв'ю.

**Дэбют атрымаўся крыху скандальным, але ў мяне ёсць свае прынцыпы і погляды, за якія я буду стаяць да канца. Нашаму грамадству не хапае праўды, якая б казалася ў твар**

***— Значную частку фільма займае аповед пра баптысцкую царкву ў горадзе Белая Царква. Ці сапраўды вера ў жыцці Жызнеўскага займала важнае месца?***

— Драматызм гісторыі Жызнеўскага заключаецца ў тым, што ён, будучы сямнаццацігадовым падлеткам, з'ехаў ва Украіну. Там у яго было досыць бруднае жыццё, звязанае з крыміналам. І ён з сябрам-беларусам, які шмат фігуруе ў фільме, павінен быў нейкім чынам выжываць. Прынамсі, ім трэба было дзесьці начаваць. Але ў адзін момант іх жыццё змянілася. Яны прыйшлі ў баптысцкую царкву абсалютна стомленыя, і, напэўна, далі сабе абяцанне жыць па-іншаму. Пастыр і прыхаджане пабачылі іх прагу да зменаў. І Жызнеўскі пачаў хадзіць у гэтую царкву. Хтосьці з прыхаджан дапамог яму з працай, хтосьці — з жытлом. Праз некаторы час Міхаіл стаў актыўным удзельнікам трэніровак і чальцом пейнтбольнага клуба. А пасля ён стаў кіраўніком Белацаркоўнай «УНСА».

***— Ваш фільм быў паказаны на «Белсаце», прадэманстраваны арганізацыі «Украінскага свету» ў Варшаве, на «Youtube» яго паглядзела больш за 17 тысяч чалавек. Ці задаволены вы вынікамі працы або хочаце нешта змяніць?***

— Я проста шчаслівы ад таго, што я яго зрабіў. Я не паказаў некаторыя драматычныя моманты, якія б маглі зрабіць яго больш глыбокім і адчувальным. Некаторыя рэчы я наўпрост упусціў. Аднак гэта мой першы фільм, якога б не было, калі б не дапамога майго сцэнарыста і натхняльніка Аляксандра Буракова. Дзякуючы яму я знайшоў свой шлях, сваю мову, сваё бачанне. Я жадаў, каб людзі, якія б паглядзелі гэты фільм, змаглі пранікнуцца спачуваннем да гісторыі Жызнеўскага. Поўнай аддачы, якую чакаў, я не атрымаў, на жаль. Я б хацеў паспрабаваць паўдзельнічаць у фестывалях, паказаць фільм у іншых краінах. У карціне я хацеў адказаць на пытанне: «Што кіравала гэтым хлопцам? Чаму ён пайшоў на Майдан?» Мы ўключаем тэлебачанне і, па сутнасці, бачым толькі малюнак. Нам расказваюць: хто, дзе і ў якой колькасці загінуў. На вайне штодня нехта памірае, але мы не бачым гэтых людзей і не ведаем іх гісторый. Мой фільм — гэта намаганне перадаць боль і пакуты таго чалавека, які прайшоў Майдан. Я хацеў, каб людзі, для якіх тэма Майдана не ёсць блізкая, намагаліся зразумець гэтага хлопца.

***— Цяпер, можа быць, вы зробіце фільм пра Алеся Чаркашына?***

— Падчас мінулага года я вельмі паглыбіўся ў майданаўскую тэму. Мне трэба ад яе адпачыць. Дэбют атрымаўся крыху скандальным, але ў мяне ёсць свае прынцыпы і погляды, за якія я буду стаяць да канца. Нашаму грамадству не хапае праўды, якая б казалася ў твар. У нас ужо ўсталяваўся падзел на ўладу і яе апанентаў. Але і ў нас, прадстаўнікоў незалежных СМІ, ёсць свае маргіналы. Існуюць такія маргіналы і ў нашых апанентаў. Я ўспрымаю беларускае грамадства як адно цэлае. Калі трэба выказаць крытыку на адрас пэўнага чалавека, я не буду глядзець — з «нашых» ён ці «не з нашых». Я намагаюся заўжды трымацца праўды, таму, спадзяюся, што гісторыя Жызнеўскага зможа пасеяць нешта добрае ў нашым грамадстве.

# Падарожжа да гродзенскіх стараверaў



Могілкі ў лесе

Алесь КІРКЕВІЧ

**З'ездзіць на колішні хутар Куколі на беразе Нёмана нам параіў гродзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч. Маўляў, неаднойчы пасылаў туды знаёмых журналістаў, але так нічога з таго і не выйшла. А тэма ж цікавая: стараверы.**



Дансі казак Георгі Васільевіч Шлыкаў



Яўгенія Георгіеўна Шлыкава (Ранцава па маці)

Як вы сабе ўяўляеце старавераў? У мяне перад вачыма стаяў вобраз Агаф'і Лыкавай з «Таёжнага тупіка» Васіля Пяскова. Моцная гаспадарка сярод бязмежных кедравых лясоў, старыя кнігі ды іконы, а яшчэ хранічная сацыяпатыя.

## «Дзядуля Ау»

З дзясятак кіламетраў з Гродна ў бок Літвы, а пасля паварот налева ў бок Нёмана. Недзе ў тутэйшых лясах схаваны старадаўнія могілкі прыхільнікаў «старога абраду». Палі спяць пад снежным саванам, дачы на беразе Нёмана стаяць пустыя, маўчыць сасновы лес, ані гуку. Як мы тыя могілкі знойдзем?..

Паміж соснаў, нарэшце пачынаюць праглядаць вялізныя крыжы. Заходзім за паваленую агароджу. Рускія прозвішчы, партрэты мужчынаў з барадамі, васьміканцовыя крыжы ды схованкі для лампадак — у нас так не рабілі ніколі.

Якімавы, Ранцавы, Мурашовы, Шлыкавы... Фама, Назарыя, Васса... — імёны, нібы са святцаў XIX стагоддзя. А навокал лес, гурбы снегу, цішыня, ці ў Беларусі мы наогул?

Лясной дарогай едзем далей, у бок Літвы. Адразу за развілкай — дом з садам ды брахлівым сабакам. З коміну струменьчыкам цячэ дым — значыць, нам сюды. Адчыняе дзядзька, знешне падобны да «дзядулі Ау» з савецкага мульціка: барада, валасы да плячэй, адным словам — старавер.

Адмыслова пераходжу на рускую, распытваю, што ды як. Дзядзька ўсміхаецца ды на чысцюткай беларускай мове тлумачыць, маўляў, старавераў тут няма ўжо, павымiралі. Засталася сям'я на самым беразе Нёмана ды дзед 90-гадовы ў адваротным кірунку.

І тут пачынаецца містыка, «чорт хвастом накрыў», як кажуць пра зніклыя ў хаце рэчы. Але тое рэчы, а тут — цэлая калонія старавераў! Нібы і дом, і сабака, і кот на месцы, а людзей у той хаце няма. Едзем праз лес — да «90-гадовага» дзеда. Тое ж самае, ровар стаіць, ганак падмецены, але не адчыняе ніхто.

Так мы ездзілі пару разоў. Падумалі, вось, маўляў, чаму аніхто з журналістаў да тых старавераў так і не дагрукаўся. Пашчасціла толькі з трэцяга разу. У сенцах нехта пачаў тупаць, у замку зарыпеў ключ.

## «Зараз назад пойдзеце...»

«Тут няма старавераў, нічога я вам не буду распавядаць... Вы дарма прыехалі... Вы не разбувайцеся, бо зараз назад пойдзеце», — так нас сустрэла Яўгенія Георгіеўна. І так бы мы назад, мажліва, і паехалі б, каб не ўмяшалася яе малодшая сястра: «Ці яны дарма ногі білі?.. Сядайце, сядайце!»

Стараабрадцаў па веравызнанні ў Куколях сапраўды няма. Ёсць нашчадкі старавераў, якія спавядаюць ужо праваслаўе — веру, ад якой уцякалі некалі іх продкі. Адсюль і негатыў да такога звароту: «стараверы». Калі прагучала пра «нашчадкаў» — гаспадыня нібы палагаднела.

Першы старавер на беразе Нёмана прыехаў у 1823 годзе, Лук'ян Міхалыч Ранцаў. Прыехаў, дарэчы, не з Расіі, а з Польшчы, куды яго продкі трапілі з Наўгародчыны. Сюды Ранцаў падаўся на заробкі — працаваць пільшчыкам у Грандзічах да мясцовай шляхцянкі. Яна ж і падарыла працавітаму «русаку» 17 гектараў зямлі на нёманскім узбярэжжы: лес ды пясочак.

— Дзед меў тры сыны і дачку. Сыны: Антон, Аляксей і Епіфан, — распавядае спн. Яўгенія, — Памёр ён у 1864 годзе, надарваўся, жонка яго перажыла на 30 гадоў. Зямлю ён падзяліў паміж сынамі. Майму прадзеду дасталася ад Нёману да ўскрайку лесу. Усё пачалося з трох сем'яў, іншых стараабрадцаў не было на той час — пасля падаязджалі.

Бліжэйшы стараабрадскі прыход на той час быў у Сувалках. Туды ездзілі, каб зладзіць хрэсьбіны або заручыны. Жонак бралі сабе таксама адтуль.

— Абавязкова маліліся двойчы на дзень, — працягвае спадарыня Яўгенія, — Ранкам, калі ўставалі толькі, ды ўвечары. Мой бацька, калі прыйшоў сюды жыць, ён дансі казак, таксама пачаў маліцца...

— Так, я «ніканавіч», бо Нікан зрабіў рэформу, — урываецца ў тэалагічную дыскусію 90-гадовы Георгі Васілевіч. — Стараверы ўсе прыгонныя, яны не прынялі новай веры. А баяры прынялі... А інакш бы і не было старавераў.



Леставачка

— Гэта ваша версія, — махае рукой гаспадыня. — Дык вось, ён казаў, што таксама маліўся, разам з сям'ёй. Бо сорамна было не маліцца.

Цікава, што казак Георгі — зусім не старавер, а пасяліўся тут ужо пасля вайны, служыў у Горадні. Ён — бацька гаспадыні. Але, трапіўшы ў новае асяроддзе, засвоіў мясцовыя звычаі.

## Год зменаў — 1956-ты

— Калі мой бацька толькі прыйшоў у сям'ю ды паставіў нешта на стол чакушку, браты маёй маці пачалі пераглядацца: «Капіталіна за нейкага п'яніцу выйшла!»

Згодна расповедам, яшчэ паўстагоддзя таму тут панавала зусім іншая застольная культура: «самовар-чай, самовар-чай», не болей. Калі алкаголь і ўжывалі, дык толькі па святах. Праблема алкаголю з'явілася толькі ў 50-я, калі мясцовы сусвет разам з увядзеннем калгасаў пачаў раптоўна змяняцца...

— Да 1956-га кожны працаваў на сваёй гаспадарцы. Дзед лавіў рыбу, бабуля прадавала. Жылі з таго, што самі рукамі зараблялі. «Крэпка» жылі. Казалі, што недзе і голад быў, і таго не хапала, і гэтага... А тут нешта не адчувалася.

Змяняўся і знешні выгляд. Калі раней барада была абавязковай для мужчыны, дык зараз прыйсці на працу непаголеным было няёмка. Зноў запускаць бараду мужчыны пачыналі, хіба, як выходзілі на пенсію. Хаваць сябе запаветавалі, згодна звычаю, падпаясаным ды ў вышытай касаваротцы.

Дарэчы, могілкі, на якія мы трапілі раней, аказаліся аднosна познімі. Іх «адчыніў» у 1930-я дзед Яўгеніі Георгіеўны, бо да старых было няязручна дабірацца. На асвячэнне цвінтару запрасілі святара, зноў жа, з Сувалак. Паводле сямейнай легенды, святар спытаў у дзеда: «Ці не баішся, што твой род звядзецца»?

— Спытаўся, бо ён могілкі «адчыніў», — удакладняе гаспадыня. — Так і сталася, Ранцавых амаль не засталося. Дый стараабрадцаў не засталося. Я зараз праваслаўная. І мае дзеці праваслаўныя. Сястра, Надзя, таксама праваслаўная.

Яўгенія Георгіеўна прызнаецца, што сваіх дзяцей спачатку не хрысціла. За працу баялася. А пасля дзеці самі настаялі! Можна было па-старaверску пахрысціць, сястра Надзея сваіх хрысціла, напрыклад, у Каўнасе. Але дзе ж там наездзішся... Пахрысціла ў праваслаўнай царкве.

— Душа кожнага — хрысціянка, — тлумачыць Яўгенія Георгіеўна. — Трэба нейкі храм, каб маліцца. Таму вырашылі пайсці ў царкву праваслаўную, каб не сядзець, як падпольшчыкі. Я калі схадзіла на споведзь да бацюшкі, ён мне так і сказаў: «Дык вы сектантка!» Я так пакрыўдзілася, раней ганарылася сваёй верай...

Крыўда, відаць, сядзіць глыбока і зараз. А мажліва, наадварот, пачуццё няёмкасці за веру продкаў.

## Толькі за рускую!

Наогул, стараабрадцы заўжды трымаліся «сваім колам». Быў звычай выходзіць замуж ды жаніцца толькі на аднаверцах. Бабуля нашай гераіні казала яе дзядзьку, якому падабалася дзяўчына іншай веры: «Хоть за последнюю, но за русскую!» За рускую — то бок за сваю.

— Тут было недастаткова людзей, безумоўна. Таму нават некалькі маіх бабуляў і не выйшлі замуж, бо не было «сваіх». Сваталіся за іх мясцовыя, але безвынікова. Але мая маці ўжо выйшла не за старавера, усё расплылося з часам...

Прадзед Яўгеніі Епіфан напрыканцы XIX стагоддзя, каб быць на дзяржаўнай службе, мусіў перайсці са старавераў у праваслаўе. Працаваў жандарам ды нібы ахоўваў падчас паездкі ў Германію царыцу Аляксандру Фёдараўну. Там жа сабе знайшоў нявесту і жаніўся б... але не меў блаславення ад маці.

Прыехаўшы дадому, нарэшце спытаў блаславення, а маці ўсё і прыгадала: і змену веры, і выбар чужынкі... Пачуўшы адмову, Епіфан, згодна сямейнаму паданню, зняў фуражку і кінуў раз'юшана на зямлю.

Цікаўлюся, як мясцовыя называлі старавераў, а як — стараверы мясцовых. Па факту ж Куколі былі маленькай выспачкай у вялізным каталіцкім моры.

— «Мы рускія», так казалі. Ніколі не чула, каб казалі «мы стараабрадцы»... Мясцовыя называлі нас кацапамі. Мы ў адказ казалі: «А ты пшэк!» Маіх дзяцей, унукаў ужо ніхто не абзывае, а вось мы заўсёды былі для іх «кацапамі»!

Свае слова ў дыскусію ўстаўляе і Георгі Васілевіч, які праз дрэнны слых сядзіць з прыкладзенай да вуха далонню. Тлумачыць, што ў іх на Дану кацапамі называлі тых, хто прыехаў з Варонежу, а харкаўскіх — хахламі.

Надзея Георгіеўна прыносіць з суседняга пакою самаробны ружанец — з тканіны ды дапасаваных тонкіх галінак у якасці бубінак:

— Гэты ружанец мама сама рабіла. Называецца леставачка. Трымалі ў левай руцэ падчас малітвы. Сто бубінак — сто паклонаў. У кожнага была свая леставачка, нават у дзяцей. А як хавалі чалавека, дык павязвалі на левую руку...

Дзяцей па нядзелях вучылі чытаць «Псалтыр» — і грамата, і рэлігійная асвета адначасна. Мама нашай гераіні, Капіталіна, не даставала ў той час нават да стала — дык ёй ставілі табурэт. Затое чытаць навучылася ўжо ў пяць. За чытанне ўрыўкаў дзед узнагароджваў сваіх дзяцей — даваў па злотаму.

* * *

Вось так тыя, хто не хацеў нас і на парог пускаць, палагаднелі, пачалі ўсміхацца, гутарка завязалася не на адну гадзіну. Кажам, што трэба назад, у горад. Яўгенія Георгіеўна блаславяе, праводзіць на двор. На дарожку дае дзве пары яблыкаў.

**Фота Аляксандра Саенкі**

Новы Час | 26 лютага 2016 | № 8 (473) | **«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»** | **№ 2 (114)**



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №2 (114)
(люты)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

**lit-bel.org**
**novychas.by**

**Змест**



# Апошні верш Стральцова



Міхась СКОБЛА, SVABODA.ORG

**Укладаючы том Міхася Стральцова для «Беларускага кнігазбору», я ледзь не паддаўся на ўгаворы літаратурных усяведаў, якія настойліва раілі проста ўзяць і сасканаваць «Выбранае» 1987 года, а не бегаць па бібліятэках і архівах у пошуках новых тэкстаў. Маўляў, усё роўна нічога вартаснага не знойдзеш.**

Дый архіву пасля Стральцова практычна не засталося — не захоўваў ён рукапісаў, не сартаваў па тэчках папяровай непатрэбшчыны. Вопіс ягонага асабістага фонду ў Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ) танюткі, як вучнёўскі сшытак, дый там нічога нечаканага няма...

Выбранае з прадмовай Алеся Адамовіча я паціху сканаваў, патроху каментаваў, а сам думаў: буду апошнім лайдаком, калі не знайду ну хоць бы стральцоўскіх лістоў — эпісталярны раздзел у будучай кнізе адчайна пуставаў.

Дзе тыя лісты шукаць? Я прыехаў на вуліцу Прытыцкага, у дом № 6, падняўся на скрыпучым ліфце ў кватэру, дзе жыў «абраннік сонечнага Феба» (паводле Анатоля Сідарэвіча, артыкул якога чытайце ў гэтым выпуску «Літаратурнай Беларусі». — **Рэд.**).

Удава паэта Алена Дзмітраўна сустрэла мяне надзвычай гасцінна і — о дзіва! — ледзь не з парогу абнадзеіла. Аказваецца, стральцоўскі архіў быў падзелены на дзве часткі: адна трапіла ва ўжо згаданы БДАМЛіМ, а другую вывезлі на захаванне ў адну з падменскіх вёсак. Дзесьці пяць гадоў таму.

Кожны наступны дзень я даймаў Алену Дзмітраўну тэлефоннымі званкамі — калі паедзем на пошукі? Нарэшце яна знайшла гаспадароў дома, дамовілася. На месцы мяне адразу правялі ў падвал і паказалі гару хломазду пад самую столь — шукайце тут. Старое адзенне, посуд, заплеснелыя ад сырасці кнігі, ёлачная мішура, гаршкі з-пад вазонаў, веласіпедныя колы, абутак на ўсе сезоны, пустыя пляшкі і напоўненыя нечым падазроным флаконы — я раскопваў тую падвальную джамалунгму з імпэтам салігорскага шахцёра, якога паабяцалі прэміяваць за вагон прадукцыі звыш нормы.

Час ад часу вылазячы наверх хапянуць свежага паветра, я адчуваў, што цярпенне гаспадароў на сыходзе, мае лёгкія пратэстуюць і вочы слепнуць. Але, гнаны невядомай сілай, зноў спускаўся ў паўцёмны падвал і ледзь не вобмацкам перабіраў невядома з якой мэтай знесеныя туды клункі, скрынкі і рознае рыззё.

Паводле закона зямной гравітацыі тое, што я шукаў, аказалася на самым дне. Разгрэбшы пагрызеную мышамі дванаццацітомную «Историю второй мировой войны», я выцягнуў бліжэй да цьмянай лямпачкі прадаўгаватую важкую скрыню і з трымценнем у сэрцы прачытаў зроблены фламастарам надпіс: «Архіў М. Стральцова»...

На зваротнай дарозе ў Менск мы з Аленай Дзмітраўнай спявалі.

Ноччу я не заснуў — расклаў на падлозе змесціва скрыні і не спяшаючыся ўчытваўся ў пажаўцелыя старонкі. Нечакана шмат выявілася лістоў — многія з іх апублікаваныя ў «кнігазбораўскім» томе. У тэчцы з перакладамі зверху ляжаў Мікеланджэла па-беларуску — перакладзены ў пачатку 70-х для італьянскай паэтычнай анталогіі, ён чамусьці туды не ўвайшоў. Знайшліся ў скрыні і жартоўныя вершы, якія паэт адрасаваў дачцэ Алесі і сябрам. У асобнай капэрце ляжалі фотаздымкі.

Почырк у Стральцова далёка не каліграфічны — некаторыя чарнавікі не расчыталіся да гэтай пары. Пад адным скрэсленым рукапісам я звярнуў увагу на дату: 7.07.87. Паэт ужо ведаў пра свой дыягназ, меўся класціся ў бараўлянскую больніцу. Заставалася паўтара месяца жыцця...

«У скверы гэтым лугавінка...» Далей ішлі зусім нечытэльныя, шматкроць закрэсленыя радкі. Цалкам удалося прачытаць толькі адну страфу да заканчэння: «Касіў за двух і жыў за двух!».

Накід верша, зроблены, да таго ж, алоўкам, у вышэй згаданы том выбранага, зразумела, не трапіў. Ды нешта мне рупіла ў тым нерасчытаным рукапісе. Я насіў яго з сабою, расказваў пра яго ў слаўгарадскім доме культуры падчас прэзентацыі стральцоўскай кнігі, вазіў у Сычын — на радзіму паэта.

І Міхась Лявонавіч нада мной злітаваўся! Нядаўна ў дабраслаўлёным БДАМЛіМе мне прынеслі не тую справу. Замаўляў Сяднёва, а памылкова прынеслі Стральцова. Я машынальна зірнуў на дзясятак даследчыцкіх роспісаў на лісце карыстальнікаў і ледзь не здаў тую справу 36 з фонда 361 назад у сховішча.



Фота Уладзіміра Крука

Гартануўшы ўсё ж белы нататнік з вядомымі мне перакладамі, я нечакана ўбачыў — белавы варыянт таго адшуканага ў падвале верша! Старонка мела нумар 37 — год нараджэння Стральцова... Вось ён, невядомы чытачам апошні верш паэта, які пачуваўся выгнаным патрыцыем у беларускай савецкай літаратуры:

*У скверы гэтым лугавінка*
*Мне, што выпадкам, так сабе,*
*Задобрыў думку успамінкам*
*Аб даўняй ліпеньскай касьбе, —*
*Такая радасць і аддуха,*
*Такая горыч і журба!*
*Сядзі і ўласным сэрцам слухай,*
*Як адступае ціха скруха,*
*А з ёй — і гора, і бяда.*
*Няхай! Ды толькі дзе, мой хлопча,*
*Падстрэшак той і дзе каса?*
*Другі ўжо нехта копы топча,*
*Другі ў прыпар спачыну хоча,*
*Другія там — не ты ўжо сам.*
*Ах, божа мой! Чыёю верай*
*Перада мной той даўні луг*
*Паслаўся чыстаю паперай,*
*Каб я радком пракосы мераў,*
*Касіў за двух*
*І жыў за двух!*

Калі б ананімную раздрукоўку гэтага верша мне давялося выдавіць у закаркаванай бутэльцы дзе-небудзь на неабжытай выспе пасярод акіяну, то і тады не ўзнікла б аніякіх сумневаў наконт аўтарства — столькі ў гэтых дваццаці радках стральцоўскага дыхання, стральцоўскай гэтак зразумелай журбы!

Як і кожнаму творцу, Міхасю Стральцову хацелася быць пачутым. У тым апошнім для яго 87-м ён згаджаўся на ўсе выступы. У сталічным Доме літаратара прэзентаваўся ягоны зборнік «Мой свеце ясны» і кніга крытыкі «Пячатка майстра». А ўсяго за тры месяцы да смерці ён сустракаўся са сваімі чытачамі ў Горадні і Лідзе. І ў восеньскай журбе спрабаваў дапільнаваць імгненні жыццёвай весялосці...

Ужо са смяротнай ложніцы ён прашаптаў схіленаму над ім Янку Брылю: «Мне без вас нельга».

Сёння ўсім нам нельга абысціся без Стральцова. Дык часцей бывайма ў ягоным свеце ясным, каб стральцоўскай яснаты пабольшала і ў нашых душах.

## Украінскія кнігі не пусцілі ў Беларусь

**Аўтобус з 175 выданнямі, якія Украіна планавала прадставіць на лютаўскім Мінскім міжнародным кніжным кірмашы, не прапусціла беларуская мытня.**

Пра гэта беларускай службе «Радыё Свабода» паведаміла намеснік начальніка ўпраўлення выдавецкай справы Дзяржкамтэлерадыё Украіны Тацццяна Сівец. «Дзякуй Богу, хоць неяк мы запоўнілі наш стэнд — тымі кнігамі, якія прывезлі ва ўласных багажах», — сказала яна.

Асноўную машыну з кнігамі затрымалі, хоць усе дакументы былі афармленыя — з пячаткамі, паведамленнем, што кнігі вязуць на Мінскі міжнародны кніжны кірмаш для экспазіцыі на нацыянальным стэндзе Украіны.

«Матывацыя была наступная: маўляў, занадта шмат выданняў, гэта для камерцыйнага ўвозу, а мы везлі 175 найменняў кніг, — адзначыла Т. Сівец. — Там былі кнігі па гісторыі Украіны, мастацкія, навуковыя выданні, — усе вельмі «нейтральныя». Мы спецыяльна адбіралі гэтыя кнігі, там не было нічога такога, што магло б скампраметаваць Украіну ці Беларусь. Як патлумачылі мне людзі, якія суправаджалі груз, беларускія мытнікі вырашылі, што яны могуць чымсьці нашкодзіць нашым адносінам, і іх «завярнулі» назад ва Украіну».

Паводле яе слоў, у машыне, якую не прапусцілі праз мяжу, былі прадстаўлены дзяржаўныя выдавецтвы «Лыбидь», «Веселка», «Днипро» і іншыя.

## «Залаты апостраф»-2015

**Сталі вядомыя лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф», якая традыцыйна адзначае найлепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» за год.**

Уганараванне лаўрэатаў адбылося 24 лютага ў кнігарні «Галіяфы». У вечарыне ўзялі ўдзел дзеяслоўцы Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Андрэй Федарэнка, Анатоль Івашчанка, Усевалад Сцебурака, а таксама лаўрэаты прэміі ранейшых гадоў і музыкі Раман Абрамчук (спевы, гітара) ды Аляксандр Карабань (кантрабас).

З гэтага года намінавацца на прэмію маглі і тыя аўтары часопіса, якія былі лаўрэатамі «Залатога апострафа» і раней.

Лепшай «дзеяслоўнай» паэтычнай публікацыяй года стала нізка «Удары ў хвіліну» Віталя Рыжкова, празаічнай — аповесць «Танцы над горадам» Уладзімера Арлова. У «Дэбюце» журы адзначыла Валерыю Данілевіч (вершаваная нізка «Бойка чорнага з белым»). Асобнай прэміяй «Дзеяслова» і Алеся Усені за ўнёсак у развіццё сучаснай беларускай літаратуры ўганараваны Уладзімер Някляеў.

# Надзеі Артымовіч — 70!

**18 лютага беларуская літаратурная грамадскасць адзначыла 70-годдзе славутай паэткі з Беласточчыны Надзеі Артымовіч.**



Так сталася, што мы жывем у розных краінах, але ў адным часе і адной мове. І мова беларуская ўдзячная часу за існаванне высокай пластыкі і глыбіні, рэалізаванай у вершах пані Надзеі.

Колькасць напісанага ніколі не была для Надзеі Артымовіч прыярытэтам. Важнаю была духоўная дакладнасць верша, дзе спляталася беларуская песенная лірыка, «белыя пейзажы» роднага Бельску, інтэлектуальная традыцыя верлібра польскай паэзіі XX стагоддзя. Менавіта таму нячаста выходзяць яе паэтычныя кнігі і менавіта таму яны становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю, сапраўдным падарункам для аматараў лірыкі.

Беласточчына да канца 1980-х знаходзілася за культурнай заслонай, вывешанай савецкай уладай. І хоць не была тая заслона ў поўнай ступені жалезнай, творы Надзеі Артымовіч напоўніцу адкрыліся беларускай грамадскасці толькі з пачаткам перабудовы. Вершы яе прыйшліся якраз дарэчы ў часы паўставання новай інтэлектуальнай генерацыі літаратараў, аб'яднаных у таварыства «Тутэйшыя» і ТВЛ, якія шукалі абнаўлення паэтычнай традыцыі праз еўрапейскі досвед. Паэзія Надзеі Артымовіч трапіла якраз у нерв часу. Пэўным падагульненнем чытання Артымовіч у Беларусі і сыходжаннем двух пачаткаў стала кніга «Дзверы», у якой вершы паэткі з Бельску каментаваў філасофскімі знакамі лідар інтэлектуальнай генерацыі Алесь Разанаў.

Пані Надзея, грамадскае аб'яднанне «Саюз беларускіх пісьменнікаў» шчыра віншуе вас з днём нараджэння! Мы ўдзячныя лёсу, што вы з намі побач, што творчасць вашая, ацэненая і прызнаная ўсім паэтычным цэхам, працягваецца. Зычым вам моцнага здароўя, і каб ніколі не знаходзіліся «дакладныя адрасы».

**Ад імя Рады і Сакратарыята ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» – Барыс Пятровіч (Сачанка).**

# Святлана Алексіевіч па-ўкраінску



**Выдавецтва «Віват» заключыла эксклюзіўнае пагадненне з Нобелеўскім лаўрэатам 2015 года Святланай Алексіевіч на выданне двух яе кніг: «Цынкавыя хлопчыкі» і «У вайны не жаночы твар».**

За правы выдаваць названыя кнігі канкуравалі некалькі ўкраінскіх выдавецтваў. Менавіта гэтыя творы, а таксама публіцыстычныя кнігі-хронікі «Чарнобыльская малітва» і «Час сэканд-хэнд» прынеслі аўтарцы сусветную вядомасць.

«Раманы вядомай пісьменніцы будуць выдадзены на ўкраінскай мове. Абедзве кнігі ўжо рыхтуюцца да друку і будуць прадстаўленыя ў красавіку 2016 года падчас галоўнай нацыянальнай выставы ў Кіеве «Кніжны Арсенал», дзе будзе прысутнічаць, спадзяюся, і сама Святлана Алексіевіч. Працаваць з такім аўтарам – вялікі гонар і вялікая адказнасць для выдавецтва "Віват"», – распавяла генеральны дырэктар выдавецтва Юлія Арлова.

Сама Святлана Алексіевіч вызначае жанр сваіх твораў як «жанр чалавечых галасоў». Абедзве кнігі пра вайну і людзей на вайне грунтуюцца на сабраных аўтарам у розныя гады хроніках-інтэрв'ю. С. Алексіевіч адкрыта апісвае жорсткую і непрыемную праўду вайны. На сваім афіцыйным сайце яна адзначае: «Кожную сваю кнігу я пішу ад чатырох да сямі гадоў, сустракаюся і размаўляю, запісваю 500–700 чалавек. Мая хроніка ахоплівае дзясяткі пакаленняў. Яна пачынаецца з аповедаў людзей, якія памяталі рэвалюцыі, войны, сталінскія лагеры, і даходзіць да нашых дзён – амаль 100 гадоў».

Кніга «Цынкавыя хлопчыкі» распавядае пра трагедыю «схаванай ад уласнага народа» вайны ў Афганістане. Другая кніга «У вайны не жаночы твар» пра жанчын, якія змагаліся за сваю Радзіму ў войску, у партызанскіх атрадах і ў падполлі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Нагадаем, раман Алексіевіч «Час Second-Hand» у 2014 і 2015 гадах быў выдадзены ва Украіне ў выдавецтве «Дух і Літера». «Чарнобыльская малітва» (выдавецтва «Комора») у перакладзе Аксаны Забужка неўзабаве таксама з'явіцца ў крамах.



**Зала Ратушы.** Фота Алеся Сабалеўскага

# «Брама» ў Магілёве

**10 лютага ў Магілёве адбыліся дзве творчыя сустрэчы з нагоды выхаду трэцяга выпуска альманаха «Брама», які выдаецца Магілёўскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Першая прэзентацыя прайшла ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. Куляшова, дзе перад будучымі журналістамі выступілі старшыня філіі Мікола Яцкоў, які распавёў пра гісторыю выдання літаратурных штогоднікаў у горадзе над Дняпром.

Старшыня СБП Барыс Пятровіч і першы намеснік старшыні Алесь Пашкевіч павіншавалі грамаду з выхадам новага нумара ды азнаёмілі слухачоў з працай, якой займаецца творчая арганізацыя ў галіне кнігавыдання. Важнае месца ў дзейнасці СБП адводзіцца супрацоўніцтву і падтрымцы маладых літаратараў і чытачоў.

Асобны часткай сустрэчы стаў выступ паэта Сяргея Украінкі, які пазнаёміў публіку са сваёй новай кнігай вершаў «9 гранаў», што сёлета выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка» бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Цікавым тандэмам выступілі Міхась Булавацкі, які прадставіў сваю кнігу перакладаў Уладзіміра Высоцкага, і бард Зміцер Бартосік (праспяваў шэраг песень Высоцкага ў перакладах Рыгора Барадуліна і Міхася Булавацкага).

У імпрэзе бралі ўдзел таксама Віталь Еўмянькоў, Яраслаў Клімуць, Усевалад Сцебурака.

Актыўныя ўдзельнікі сустрэчы з ліку гледачоў атрымалі прэзенты ад грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Другая сустрэча прайшла ў галоўнай зале Магілёўскай гарадской ратушы, дзе шырокім колам сабраліся аўтары выдання і цікаўныя гараджане – прыхільнікі беларускага пісьменства.

Адкрыў вечарыну дырэктар Ратушы і аўтар альманаха «Брама» – Аляксей Бацюкоў.

У імпрэзе, якую вялі Яраслаў Клімуць і Мікола Яцкоў, узялі ўдзел Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Васіль Аўраменка, Тамара Аўсяннікава, Зміцер Бартосік, Міхась Булавацкі, Віталь Еўмянькоў, Базыль Камароў, Аляксей Карпенка, Усевалад Сцебурака, Сяргей Целеш.

Прагаік, адна з прызёраў прэміі імя Е. Гедройца мінулага года Таццяна Барысік зачытала на вечарыне свае абразкі, напісаныя ў запамінальным аўтарскім стылі. Літаратар, выкладчык, даследчык Сяргей Украінка прадставіў публіцы сваю новую паэтычную кнігу «9 гранаў».

# Свэн Нурдквіст. Блінны торт

**Пасля шумнага перадкаляднага дэбюту стары Пэтсан і яго верны сябра, кот Фіндус, зноў завітваюць да беларускіх дзетак.**





Новая кніга «Блінны торт», па вялікім рахунку, з'яўляецца пачаткам славутай серыі шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста. На беларускай мове яна ўпершыню выдаецца ў перакладзе Надзеі Кандрусевіч.

«Блінны торт» Свэна Нурдквіста стаў адзінаццатым выпускам серыі «Каляровы ровар» Бібліятэкі СБП «Кнігарня пісьменніка».

Як і ў мінулы раз, перакананыя вяскоўцы Пэтсан і Фіндус рыхтуюцца да свята. Аднак цяпер гэта ўжо не Каляды, а самы натуральны дзень народзінаў Фіндуса. Што праўда, каток святкуе яго тройчы на год, але гэта ніколі не перашкаджала добраму адзначэнню.

Асноўная і традыцыйная страва на гэтай Фіндусавай урачыстасці – салодкі блінны торт. Ды толькі як яго зрабіць, калі мука скончылася і за ёй трэба ехаць на ровары ў краму, а кола ў ровара лопнула, ды інструменты ўсе ляжаць у майстэрні, зачыненай на ключ, які згубіўся?

На шляху да святочнага абеда Пэтсана і Фіндуса чакаюць пасткі, непрыемнасці і суседскія курыі, што, праўда, зусім не азмрочвае іхняга добрага настрою. Бо, ўрэшце, дзень нараджэння атрымліваецца выдатны.

Шукайце «Блінны торт» Свэна Нурдквіста ў наступных менскіх кніжных крамах: «Акадэмкніга» (пр-т Незалежнасці, 72), кнігарня «ЛогвінаЎ» (пр-т Незалежнасці, 37А), «Кнігарня пісьменніка» (вул. Казлова, 2), «Веды» (вул. К. Маркса, 36), «Светач» (пр-т Перамажцаў, 11), «Цэнтральны кніжны» (пр-т Незалежнасці, 19), «Кніжная Шафа» (пр. Дзяржынскага, 9), «Кнігі & кніжачкі» (пр-т Незалежнасці, 14), Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг» (вул. Янкі Купалы, 27), а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і imbryk.by!

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Гарадзенскія пісьменнікі сабраліся разам

**Сёлета Гарадзенскае абласное аддзяленне СБП адзначае 70-годдзе з дня свайго ўтварэння.**



**Злева направа: В. Дубатоўка, а. Г. Рой, А. Петрушкевіч, Ю. Голуб, А. Пяткевіч, А. Бабіч**

Пра гэтую важную падзею, пра іншыя сёлетнія юбілеі ішла размова на сустрэчы пісьменнікаў з настаяцелем Свята-Пакроўскага сабора протаіерэем Георгіем Роем і іерэем Паўлам Каспяровічам.

Протаіерэй Георгій Рой расказаў пра культурна-асветніцкую дзейнасць, творчыя сустрэчы, вечарыны, удзельнікамі якіх не аднойчы былі паэт Анатоль Брусевіч і літаратуразнаўца Аляксей Пяткевіч.

На сустрэчы прысутнічала журналіст Алена Бабіч, рэдактар праваслаўнага часопіса «Пакаленне», які выходзіць з 2011 года. Гэтае прыгожы глянцавае выданне асвятляе не толькі рэлігійныя, але і культурныя, філасофскія тэмы.

**Ул. інф. Гродзенскага абласнога аддзялення СБП**

# Застаўся ў памяці маёй...

**У 1947 годзе, калі мне было сем гадоў, я ўпершыню ўбачыла Барыса Мікуліча ў вёсцы Церахавічы (ускраіна Лагойска) у свайго дзядулі — Вінцэся Антонавіча Мікуліча. Барыс мне запомніўся мужчынам сярэдняга росту, сівы, стройны, хуткі ў размове і рухах, таварыскі.**



Барыс Мікуліч

На ім быў пінжак у дробную клетку гарадскога крою. Такога адзення ў вясковых жыхароў не было. Барыс Міхайлавіч прыехаў па запрашэнні яго стрыечнага брата і майго дзядулі Вінцэся, а таксама маёй бабулі Анці Андрэеўны. Гэта адбылося пасля дзесяцігадовага адбыцця Барыса ў лагеры. Той час для яго быў цяжкім. Бабуля Анця, вельмі добрая, спагадная, часта наведвала царкву і спачувала сіротам з Бабруйска. Барыс Мікуліч ужо бываў у нас у юнацкім узросце, калі застаўся сіратой. Пазней у Церахавічы неаднаразова прыязджала і меншая сястра Барыса — Марыя Міхайлаўна (Мура).

У вёсцы побач з намі жылі два меншыя браты дзядулі — Міхась і Аляксандр. Недалёка, у вёсцы Міхалава, жыла сястра Анця (у замужжы Фурс). У Бабруйску ж пражывала сястра Вера Антонаўна, якая і даглядала малалетніх дзяцей — Барыса і Марыю. Братоў і сясцёр у дзядулі было шмат, ён быў старэйшым. Хата ў дзядулі складалася з двух паловаў (пяцісценак). У першай палове, пярэднім пакоі, дзе была печка, праводзіліся ўсе гаспадарчыя працы і жылі гаспадары, у другой, святліцы, жылі госці. Барыс Міхайлавіч наведваў усіх сваякоў, знаёмых, гутарыў з імі, прыходзілі і да яго сваякі, жыхары вёскі, журналісты, маладыя мясцовыя пісьменнікі, старшыня калгаса. Ён з усімі гутарыў, і атрыманы матэрыял увасабляў у творы.

У аповесці «Жыццяпіс Вінцэся Шастака» прататыпам галоўнай дзеючай асобы з'яўляецца мой дзядуля Вінцэсь, а прозвішча Шостак аўтар запазычыў у суседа. У аповесці «Зялёны луг» апісваецца побыт сялянаў таго часу. Назва была «запазычана» ў вёскі, якая размяшчалася праз рэчку ад дзядулевай хаты.

Для плённай працы пісьменніка ў нас ствараліся спрыяльныя ўмовы, і таму ў Церахавічах было напісана шмат твораў.

Пасля вайны наша сям'я, як і ўсе іншыя, жыла бедна, але дружна. Я ніколі не чула разладу, дзяльбы грошай, папрокаў. У гаспадарцы была карова, набытая пасля вайны, была свіння, але карміць яе не было чым, і мы, унукі, пасвілі яе на выгане, на траве. Натуральна, сала там не было, ды і тое, што вырастала, пакідалася на вялікія святы, напрыклад, Вялікдзень. Былі пчолы, якіх даглядаў дзед, а пасля яго смерці — бабуля. У калгасніках грошай не было, бо працадні не аплочваліся. На аплату падаткаў грошы высылаў сын Антон — ваенны лётчык, сябар і аднагодак Барыса Мікуліча. Мая маці працавала ў Лагойскай бальніцы медсястрой (а падчас вайны — у падпольным шпіталі) і атрымлівала пенсію за майго бацьку, які загінуў 10 красавіка 1945 года.

Нягледзячы на беднасць, усё лепшае для харчавання ішло гасцям. Малака ад каровы на ўсіх не хапала, але ніхто ў сям'і не абураўся.

У той час Барыс Мікуліч жыў у нас без дазволу ўладаў, таму даводзілася хавацца. Памятаю, як мая маці, Барыс Міхайлавіч і я абыходзілі бокам дом участковага міліцыянера...

У той час у Лагойску жыла сястра аднаго з ворагаў Барыса Міхайлавіча, які з'яўляўся крытыкам у Саюзе пісьменнікаў. Менавіта ён быў адным з тых, па чыёй прычыне Мікуліч апынуўся ў Сібіры...

У «Аповесці для сябе» Мікуліч часта згадваў мяне, маю маці Марыю Тарайкоўскую (Маню), якая прывозіла Міхасю Лынькову творы Барыса: «Вольга з двума дзецьмі, — пакутлівы, але усё такі ж тонкі, прыгожы твар. Маня — малайчына, і яе дачка (мая унучка!) вялікалобае, сінявокае дзіва», «Хадзіў з Томай у Лагойск... мае пакупкі абмежаваліся пячэннем для Томы», «Маня, прынесла «тое» (так гаворыць Тома, калі не ведае, як назва, ці не хоча назваць, — мама, дай «тога»), і гэта ўсё выклікала сумную ўсмешку — цана ўсім складанасцям!», «...разводы, скандалы, бацькі, дзеці, складаныя «інтрыгі», слёзы Томы...», «Потым злавілі велізарнага філанта, які ўчапіуся-такі за Томін дапытлівы палец...».

У нашым сямейным архіве ёсць сумесная фатаграфія з Барысам Міхайлавічам, зробленая восенню 1947 года, калі ён ад'язджаў ад дзядулі ў Бабруйск і маці яго праводзіла з Лагойска. У гэты дзень у Мінску ён атрымаў даведку аб рэабілітацыі і, на радасцях, яны зайшлі ў фотасалон на Камароўцы.

У 1946 годзе адразу пасля вызвалення Барыс адправіўся ў Ашхабад, да сваёй старэйшай сястры Каці. На жаль, яе фатаграфіі ў нас не захавалася. Пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, мой сусед па Вайсковаму завулку, успамінаў, што Каця была вельмі прыгожая і добра спявала, была опернай артысткай. (З 1962 года я жыла ў Мінску па Вайсковым завулку, дзе жыў і Барыс Мікуліч, а праз дарогу ад яго знаходзіўся дом Змітрака Бядулі, з якім ён сябраваў.) У Каці Барыс пражыў усяго паўгода, а ў 1948-м сястра разам з дзецьмі трагічна загінула падчас землятрусу. Малодшая сястра Барыса Марыя пасля смерці маці жыла ў Бабруйску ў сярэдняй сястры Жэні — настаўніцы Парыцкай школы, а пазней — у Мінску ў Барыса Мікуліча. Яна мне расказвала, што вучылася ў мінскай школе №20 па праспекце Незалежнасці (побач з плошчай Якуба Коласа). З сястрой Барыса Марыяй мы часам падтрымлівалі сувязь, але паколькі ва ўсіх былі ўжо свае сем'і, клопаты — не так часта, як хацелася б цяпер. Пасля Мінска яна з'ехала ў Бабруйск, дзе ў яе былі сябры, але бабруйчане яе сустрэлі няветліва пасля апублікавання «Аповесці для сябе», дзе згадваліся непажаданыя для некаторых моманты...

**У Саюзе пісьменнікаў былі здзіўленыя яго вяртаннем пасля 10-гадовай адсутнасці, але не вельмі радыя — ім не патрэбны быў таленавіты канкурэнт**

Пасля другога арышту Барыса вясной 1949 года бабуля, як магла, падтрымлівала яго. Памятаю, як рыхтаваліся тваражныя сыры для адпраўкі ў Сібір (іх папярэдне высушвалі ў печы, каб не папсаваліся ў дарозе). Барыс Мікуліч успамінаў, якім важным быў яму гэты клопат, хоць «каменныя посныя сыры было цяжка есці». Бабуля была непісьменная і не магла пісаць лісты. Гэта я, васьмі-дзевяцігадовая дзяўчынка, пад дыктоўку бабулі пісала яму лісты дзіцячымі крамзолямі. Адзін з такіх лістоў, на шматку паперы са школьнага сшытку, ён вельмі бярог. Гэты ліст пасля смерці Барыса яго жонка разам з іншымі паперамі даслала Муры, якая і перадала яго мне.



Марыя, Барыс і Вера Мікулічы, 1936 г.

Памятаю, як ён дасылаў віншавальныя паштоўкі і пісаў: «И вечный бой! Покой нам только снится!». Як я цяпер разумею, гэтыя фразы з яго любімага Аляксандра Блока, на якога ён быў падобны знешне...

Барыс быў даволі сціплы ў побыце і добразычлівы да навакольных. Калі да яго ў Мінск прыязджалі сваякі з вёскі Церахавічы, апранутыя ў «кажух», не па гарадскому, пляменнік і сябар Антон Мікуліч саромеўся іх, Барыс жа быў ветлівы, усюды суправаджаў.

З дзённіка і лістоў Барыса Міхайлавіча, з водгукаў пра яго я вымалёўваю сумленнага, справядлівага, таленавітага і працавітага чалавека. Міхась Лынькоў тое заўважыў і запрасіў яго, 19-гадовага, у сваю рэдакцыю ў Мінск (1929 год). Акрамя асноўнай працы ў рэдакцыі, за пяць гадоў Барыс Мікуліч выдаў сем кніг, надрукаваў вялікую колькасць нарысаў, рэцэнзій. У 1934–1936 гадах яму было даручана правядзенне з'езда пісьменнікаў, уступнае і заключнае слова. Бабуля Анця ўспамінала, што спачатку ў Мінску Барыса прытуліў адзін чуллівы чалавек, які жыў у маленечкім пакойчыку, таму спаць Барысу даводзілася на дыванку ля дзвярэй. Такое ж становішча было ў Барыса і пасля ссылкі ў 1947 годзе ў Бабруйску. Бацькоўская хата згарэла падчас вайны, і ён жыў у стрыечнай сястры Веры Антонаўны Мікуліч.

Барыс пісаў у вельмі складаных умовах, але гэта было для яго жыццёва неабходна, як дыхаць. Пасля рэабілітацыі ён спрабаваў друкаваць свае творы. Гэта было і сэнсам усяго яго жыцця, і матэрыяльнай крыніцай для існавання. Уся перапіска з Саюзам пісьменнікаў, рэдактарамі зводзілася да абяцанняў і зацягвання пытання аб публікацыі. У Саюзе пісьменнікаў былі здзіўленыя яго вяртаннем пасля 10-гадовай адсутнасці, але не вельмі радыя — ім не патрэбны быў таленавіты канкурэнт.

Да публікацыі твораў Барыса Мікуліча справа так і не дайшла. Пісьменнік быў паўторна сасланы ў Сібір, дзе і памёр у 42 гады. У адрозненне ад яго «добразычліўцаў», якія пражылі доўгае «сытнае» жыццё, былі забяспечаны спецпайкамі, паслугамі спецпаліклінікі, добрымі пасадамі для сябе і дзяцей...

Усё б так і засталося, калі б зусім чужыя людзі, якія не ведалі Барыса Мікуліча асабіста, сталі ўспамінаць пра яго. У Лагойскай сярэдняй школе №1 выкладчык беларускай мовы Вера Рыгораўна Саўрыцкая, мая зямлячка, сабрала матэрыял пра беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і пра Барыса Мікуліча, і адкрыла ў школе музей. Цяпер там праходзяць урокі па яго творах. У Краснаярскім краі, у вёсцы Машукоўка, дзе жыў апошнія гады і памёр Барыс Міхайлавіч, мясцовыя жыхары шануюць яго памяць, даглядаюць за магілай. Настаўнік гісторыі мясцовай школы Міхаіл Георгіевіч Захарцоў арганізаваў музей Барыса Мікуліча.

У 2012 годзе ў Лагойск разам са школьнікамі-краязнаўцамі прыехала загадчыца бібліятэкі №4 горада Бабруйска Святлана Віктараўна Калюта, каб пабываць у месцах, дзе пражываў Барыс Мікуліч. У гэты час я была там і арганізавала экскурсію. З тых часоў мы сябруем. Па яе запрашэнні я прымала ўдзел у мерапрыемстве, мэтай якога было прысваенне бібліятэцы імя Барыса Мікуліча ў снежні 2012 года.

Паколькі гісторыя жыцця і творчасці Барыса Мікуліча малавядомая і малавывучаная, я стала збіраць пра яго матэрыялы па бібліятэках і архівах, якія захаваліся з 1927 года. На жаль, зніклі ненадрукаваныя рукапісы твораў, лісты з архіву Акадэміі Навук. У 1936 годзе, спалохаўшысяператрусу, цешча спаліла ўсе яго рукапісы. У 1942-м зніклі перададзеныя на волю рукапісы праз вызваленую жанчыну. Пасля раптоўнай смерці Барыса Міхайлавіча ў Сібіры знік партфель з яго творамі, над якімі ён працаваў у вольны час. Таксама знік яго дзённік. Мемарыяльная дошка на доме дзядулі, дзе жыў Барыс Мікуліч, была скрадзена. «Злы рок» пераследаваў яго пры жыцці і не дае спакою пасля смерці.

Аднак праўда і справядлівасць павінны перамагчы, хоць і са спазненнем, і не толькі ў сэрцах землякоў, сваякоў, але і ў свядомасці беларускай нацыі.

**Тамара Сакалова**



# Саладкая мара дзяцінства

**Я стаяў у цэнтры Прагі, трымаў папяровы пакецік, і ветрык успамінаў, які прарваўся з мінуўшчыны, блытаў думкі, а разам з імі і рэдкія пэцалы, што выбіваліся з-пад капелюша**



Вінцэсь МУДРОЎ

**У далёкім юнацтве я любіў чытаць замежных аўтараў. Асабліва да душы былі французы, і маці, пабачыўшы ў маіх руках тыя кнігі, кожнага разу казала: «Табе яшчэ рана іх чытаць».**

Я панурваўся ў рэаліі французскага жыцця, уяўляў усіх тых маркізаў, што гойсалі па Парыжы ў кабрыялетах, і душу юначую халадніла ўсведамленне, што ніколі не забрыду ў Люксембургскі сад, не пачую пошчак конскіх капытоў на брукаванцы пляца Згоды, і ў кавярні пад адкрытым небам гарсон не прынясе мне труфелі ў соусе бешамель ды не нальe келіх пуліны-мантрашэ. Свет герояў Флабэра і Мапасана хваляваў сваёй экзатычнасцю і недасяжнасцю і ўадначас нараджаў жаданне хоць нейкім чынам да яго далучыцца.

Аднойчы бацька прынёс дахаты пацёханую кнігу французскага аўтара і некуды прыхаваў. Наступнага дня я яе адшукаў за сервантам і, у прадчуванні апісання любошчаў, похапкам стаў чытаць. Аднак нічога такога ў кнізе не было. Проста герой рамана, якога звалі Гастон, быў пакліканы на вайну з прусакамі і на працягу сарака старонак развітваўся са сваёй каханай — мадысткай Мадлен. Закаханыя блукалі па набярэжнай Сены, кармілі сварлівых парыжскіх кагарак, кідаючы ў ваду кавалкі круасана, а потым, заўважыўшы вазок прадаўца каштанаў, Гастон набыў для каханай пакет гарачай, толькі што з жароўні, смакошы.

Ад той хвіліны пражаныя каштаны апанавалі свядомасць. «Ну ладна, — падумаў я, адклаўшы кнігу, — пакаштаваць розных там рататуяў-прафітроляў наўрад ці давядзецца. А каштаны? Набіў імі кішэні, прынёс дахаты і смаж на патэльні».

Была якраз сярэдзіна верасня. Каштаны павінны былі паспець, але ў нашым маладым горадзе вялікіх дрэваў не было — тырчалі адны саджанцы. Таму вырашыў прайсціся ў пошуках французскага дэлікатэсу па наваколлі. Блукаць аднаму не было ахвоты, а таму падбіў да пошукаў свайго сябра Валеру, з якім вучыўся ў адным класе.

— Уяўляеш, — паведаміў сябру, — французы ядуць пражаныя каштаны, як мы ямо бульбу, — і паказаў тое месца ў кніжцы, дзе Гастон набыў пакецік смакошы.

— Дык яны, кажуць, горкія, — з інтанацыяй сумневу прамармытаў Валера.

— Сырыя, можа, і горкія, а папражыш — сама тое, — адказаў я, запіхваючы кнігу за сервант.

Мы цэлы дзень блукалі па навакольным лесе, потым па дзвінскім беразе, аж пакуль не знайшлі ля ракі жаўталісты каштан. Ён стаяў па-над стромаю, і на самай вяршаліне боўталіся на порсткім ветры тры зялёныя калючыя «бомбы». Сябар палез на дрэва, скінуў «бомбы» долу, і я спехам здзёр з іх каляныя лупіны. Тры гладкія, шакаладнага колеру арэхі лашчылі зрок і поўнілі рот асцою: такімі апетытнымі яны выглядалі.

Дахаты шыбавалі подбегам, і калі ў двары пачулі зычны свіст — аднагодкі клікалі гуляць у футбол, — мы толькі махнулі рукамі.

...Патэльня хутка нагрэлася і пачала патрэскваць, поўнячы кухню шызым курадымам.

— Трэба, відаць, алею падліць, — заўважыў сябар, прагнымі вачыма пазіраючы на каштаны. — З аднаго боку яны падгарэлі і таксама пачалі патрэскваць.

Давялося лезці ў кухонны шапік, выцягнуць бутэльку алею, пырснуць на патэльню, пасля чаго кухня напоўнілася злавесным сквірчэннем.

Неўзабаве каштаны трэснулі, паказаўшы свету зеленаватае нутро.

— Відаць, ужо можна есці, — прашаптаў Валера.

Мне і самому не цярпелася пакаштаваць смакоцця. Калі патэльня крыху астыла, мы падхапілі гарачыя каштаны на далоні і сталі падкідваць, дзьмухаючы на іх штосілы. Нарэшце, аблупіўшы шалупінне, укінулі ў рот і застылі з перакрыўленымі гімарамі. Ад такой страшнай гаркоты ў мяне нават уваччу пацямнела. Падляцеўшы да ракавіны, я здушана вякнуў, глынуў вады з-пад крана. Валера ж піхнуў галаву мне пад руку, таксама пачаў адплёўвацца і нават спрабаваў ванітаваць.

У гэты момант грукнулі ўваходныя дзверы і ў кухню забегла ўсхваляваная маці.

— Што вы тут робіце? — запыталася яна, адчыняючы фортку.

— Каштаны смажым, — буркнуў я, змахнуўшы з правага вока слязіну.

— Вы што... зусім ачмурэлі?! Яны ж такія горкія, што нават свінні не ядуць!

Маці піхнула патэльню пад кран, а мы з Валерам пераглянуліся і, выцершы рукавом апечаныя вусны, падаліся на двор.

— Можа, у французаў нейкія іншыя каштаны растуць, якія есці можна? — прамовіў сябрук, і я, уздыхнуўшы, каротка выдыхнуў:

— Можа...

***

Нашы пісьменнікі апошнім часам часцяком наведваюцца за мяжу, пасля чаго сядаюць пісаць дарожныя эсэ і нататкі. І, што адметна, героі тых нататак глядзяць на свет вачыма заўсёднікаў парыжскіх Вялікіх бульвараў, з панылай абыякавасцю цэдзячы віно за столікамі вулічных кавярняў.

Мне таксама лёсіла патрапіць... не, не ў Парыж, а ўсяго толькі ў чэшскую Прагу. Надарылася гэта 31 снежня 2000 года і, у адрозненне ад калегаў, я глядзеў на замежны свет шырокімі вачыма, час ад часу растуліўшы вусны, а аднаго разу, калі стаяў пасярод гранітнай брукаванкі і, задзёршы галаў, разглядаў архітэктурны югендштыль, ледзь не патрапіў пад трамвайныя колы. Пражскія трамваі гойсаюць даволі хутка, і з месца зрываюцца імгненна.

Апошнім вечарам XX стагоддзя людская плынь занесла мяне на Старамесцкі пляц. Тут бы напісаць штосьці пра музыку ў камні, пра флёр сярэднявечча, пра шматмоўны натоўп і пра старыя куранты, на якіх камічнага выгляду шкілет тузае вяроўчыну, а ягоны партнёр па часазлічэнні, злавеснага выгляду анёл, махае кордам. Але мяне ў цэнтры Прагі ўразіла іншае: задушны смурод нейкай смажаніны. І чым бліжэй набліжаўся да цэнтра пляцу, тым мацней і ноздраказытлівей ён рабіўся.

У самым цэнтры пляцу стаяў доўгі шэраг драўляных летамак, у якіх штосьці вогнепырска смажылася, булькатліва варылася і са стрыманым поканнем пражылася. Вакол тоўпіліся людзі. Я матлянуўся ўбок ды заўважыў, як нейкі ці то кітаец, ці то японец, наставіўшы на мяне пляскаты, падобны на масленічны наліснік твар, дастаў з кулька і падкінуў на далоні штосьці круглявае і страшэнна гарачае. Вока слізганула па шыльдзе «Kaštany», і сэрца, абуджанае салодкай марай дзяцінства, пачало парывіста біцца...

Мара дзяцінства пахла не надта прыемна. А што да смаку, дык печаныя шайморы, якія аднойчы давялося пакаштаваць, і то былі смачнейшымі. Хаця напачатку ніякага смаку наогул не адчуў, бо абпаліў язык, а разам з ім паднябенне і вусны.

Я стаяў у цэнтры Прагі, трымаў папяровы пакецік, і ветрык успамінаў, які прарваўся з мінуўшчыны, блытаў думкі, а разам з імі і рэдкія пэцалы, што выбіваліся з-пад капелюша. І прыгадалася, як калісьці, чатырнаццацігадовым юнаком, глядзеў па тэлевізіі на кудлатых хлопцаў, што сядзелі вось тут, вакол помніка Гусу, пратэстуючы супраць савецкага ўварвання ў Чэхаславаччыну. Голас за кадрам паведамляў, што імперыялістычныя сілы Захаду актыўна выкарыстоўваюць моладзь у сваіх цёмных мэтах, а я тым часам прагнуў апынуцца сярод сваіх чэшскіх аднагодкаў, якія насілі даўгія валасы і слухалі Beatles ды Rolling Stones. Згадаў таксама, як сакавіцкай ноччу 1969-га глядзеў хакей са Стакгольму, дзе «нашы» гралі з чэхаславацкай дружынай, і ўпотай хварэў за апошніх. Чэхі выйгралі тады 4:3, нехта з іхных гульцоў паваліўся і стаў цалаваць лёд, і сусед па пад'ездзе, які прыйшоў да нас «на хакей», страшным голасам выдыхнуў: «С-сукі! У вайну немцаў півам паілі ды танкі ім рамантавалі, а цяпер пад Амерыку захацелася!» Прозвішча суседа было Іваноў, ён быў адстаўніком, паходзіў з Наўгародскай вобласці і, як усякі адстаўнік, люта ненавідзеў усё «нерусское». «Палякі таксама сукі, — гукаў сусед-адстаўнік, — але ж немцаў півам не частавалі, таму Варшаву спляжылі, а Прага цэлай засталася».

І вось я на Старамесцкім пляцы. Стаю і задуменна грызу каштаны. Тым часам людскі тлум падхоплівае мяне і цягне да ратушы. Хутка восьмая вечара, і ўсе прагнуць зірнуць на гарадскія куранты з рухавымі фігуркамі чалавечых заганаў. Пнуся, каб выбіцца з натоўпу, да помніка Яну Гусу. Паліты смарагдавай пацінай ідэолаг чэшскай Рэфармацыі з дакорам глядзіць услед натоўпу. Ды яно і зразумела: людзям, што тут сабраліся, зусім не цікавыя ягоныя казані, як не цікавыя ім і падзеі прамінулай «пражскай вясны».

Ніколі, нават у дзяцінстве, не меў звычкі есці на вуліцы, але тут асаблівы выпадак. Ачышчаю ад шалупіння ўжо ледзь цёплы каштан, укідваю ў рот і адчуваю, што пражаная смакоша ўсё менш і менш смакуе.

«Зрэшты, мне ў жыцці пашанцавала, — з гэтаю думкай уздымаю каўнер плашча, — пакаштаваў тых праклятушчых каштанаў. А вось сябру Валеру не пашанцавала: памёр, так і не ўведаўшы іх паху і смаку».

Навагодняя елка, што стаіць перад Тынскім касцёлам, выбухае зыркімі агнямі, і пляц скаланаецца ад галасу. Нейкія карузлікі з жоўта-васковымі тварамі — відаць, в'етнамцы — атачаюць мяне з усіх бакоў і штосьці гучна гарлаюць па-свойму. «Дзенлансао! Дзенлансао!» — выдыхае мне ў вуха маладая в'етнамка, і я, нават не ведаючы в'етнамскай мовы, чую ў гэтым воклічы слова «Прыгожа!»

Тынскі касцёл тыцкае ў цёмнае неба свае вострыя спічакі. Здаецца, што ён падсвечаны не звонку, а знутры, і зыркае, сіняватай водцені святло навылёт працінае ягоныя празрыстыя сцены.

«Як добра, што Прагу не спляжылі, як тую Варшаву», — думаю я, згадваючы былога суседа па пад'ездзе.

Каштаны сталі халоднымі, агіднымі на смак, і пакет з недаедкам ляціць у бліжэйшую сметніцу. Разам са мной у сметніцу кідае пластмасавы кубак тая самая маладая в'етнамка. Маладзіца на знявечанай ангельшчыне кажа, што Прага — лепшы горад у свеце, — я на такой жа знявечанай ангельшчыне дадаю: «Бо тут спраўджваюцца салодкія мары дзяцінства», — і в'етнамка, нічога не зразумеўшы, задаволена бліскае чорнымі, як вільготныя парэчкі, вачыма.

# Між небам і снегам



Марыя БАРАВІК

### Барвянаслоў

*Сыры настрой у восені.*
*Не мае ніткі просіні.*
*Вадою восень пышная*
*І топіць зрок вачэй.*
*Як гэты ліст асінавы,*
*Брызглінава-крушынавы,*
*Так сум ідзе з душы маёй —*
*Барвянаслоў цячэ.*

*Сумелася. Парыў мой сціх.*
*Якая сырасць думнасці!..*
*Як дажджавая нітка, я.*
*Палётная яшчэ.*
*Даруй, лісток любімы мой,*
*Няма ўжо й восені тваёй.*
*Дажджыць сон памяці маёй —*
*Барвянаслоў цячэ.*

### Чаканне святла

*У хвілю, як зямля нясе ад сонца,*
*І родны свет трапляе ў цемнату,*
*Мая любоў блукае ў зорнай гронцы*
*І ўвесь мой дух імкнецца ў яснату.*

*Вунь, у блакіце бледным, маладзёнак*
*Спыніўся белай яснасцю на мне.*
*Як цудна жыць, штоночна і штодзённа,*
*І сніць святло, і ўвачавідкі днець!*

*Як зашарэе першая надзея,*
*І знак агню праявіцца ў акне,*
*Давайце, людзі, разам паяснеем*
*І радасцю цямнечу захлынем!*

*Які там бок зямлі прыгрэла сонца?*
*Да нас хвіліна светлая ідзе?*
*О, маладзік! О зоркі ў зорнай гронцы!*
*Дапамажыце прычакаць мне дзень!*

### Заблытана надвор'е

*Зіма з вясной заблыталіся ў часе.*
*Вясна чамусьці ў лютым пачалася.*
*Схапілася зіма ў сакавіку*
*І запусціла снежную муку.*

*І так трасе, перамагае рухам!*
*Раскрыліўся вятрыла за вакном.*
*Ад неба і да долу — завіруха.*
*Акрыўся дзень сівенькім палатном.*

*Дзень Канстытуцыі? І гэткі сімвалічны?*
*Няма выразнасці ні ў лёсе, ні ў вакне.*
*І дзе гракі, што прыляцелі зычна?*
*Няхай бы іхні лёс палагаднеў!*

*І тоўшчу снегу сонца растапіла.*
*Зямля сагрэла цела чарвяка,*
*І ён бы стаў здабычай для грака —*
*Працоўнаму граку патрэбны сілы.*

*Зіма-вясна. Заблытана надвор'е.*
*Схапілася зіма ў сакавіку.*
*Паземка скача і пушыць пагор'е.*
*І шлях псуе майму чаравіку.*

**2013 г.**

* * *

*Углядваюся думнымі вачамі,*
*І сню святой ідэі ўвасабленне.*
*Няпраўда, што малітва —*
*для маўчання...*
*І дзея — толькі гнуткія калені.*

*Ісусе, Ты ж мне кажаш (не на вуха):*
*«Не дай пакоры стаць перад аблудам,*
*Сваёй душы танюткі гук паслухай —*
*Мяне пачуеш, я з табою буду».*

*Малітва ж — дзеяслоў, адухаўленне.*
*Малітва — рада з Госпадам Ісусам —*
*Ад цёмнага бяздзеяння збаўленне,*
*Усіх. І нас, няўцямных беларусаў.*

### Маміна сляза

*Бяссільная і музыка — сказаць,*
*І блёкне паэтычны светласлоў*
*Перад слязой, бо гэтая сляза —*
*Святая ззяннем — маміна любоў.*

*Даўно сляза матулі не цячэ —*
*Няма яе пранклівых вачэй.*
*І толькі Богу я магу сказаць,*
*Што і ўва мне — матуліна сляза.*

* * *

*Мова знікла, шчодрая, як ласка,*
*У цячэнні нашай гаманы?..*
*Я раблюся беларускай казкай —*
*Ува мне мой родны свет заныў.*

*Сцежкі зніклі, мяккія, як ласка,*
*Бо па іх няма каму хадзіць.*
*Беларусь мая, ты станеш казкай?*
*На цябе, у жальбе, Бог глядзіць.*

### Кажы

*Не кажы, што сцямнелася,*
*Кажы: «Развіднеецца»,*
*Бо на чарзе — світанне...*

### Няма адкуль прыйсці

*Здаецца — гэта праз вякі прысню:*
*«Не, ні адзін не паказаўся ўрач...*
*І нечага сказаць табе... Не плач.*
*Як будзе, што сказаць, я пазваню.*
*Ты ад мяне спачні.»*
*І вось я ад Цябе адпачываю.*
*Ды толькі Ты цяпер настолькі сціх,*
*Што ліст святла жалоба абрывае —*
*Табе дамоў няма адкуль прыйсці.*

* * *

*І змрок наўсцяж —*
*З Белаазёрска змрок?..*
*Няма Мацяш,*
*Спыніўся думкі крок*
*І прамяня яе узнёслы зрок,*
*Які ніяк не пойдзе пад грудок?*
*Няма яе гаротных дзён, начніны?*
*Дзень спозў на дол,*
*Да дамавіны Ніны.*

*І лёгкая цяпер душа яе.*
*І цела лёгкім быць бы захацела,*
*Ды моцны дух перамагае цела,*
*Калі ён мужна Неба пазнае.*
*І лёгкая цяпер душа яе.*
*Анёл нясе на крылах і пяе.*
*Усё бяссілле ўкрые дамавіна.*
*А Неба сустракае Дух Твой, Ніна.*

* * *

*Мацней гучаць? А для каго распеў?..*
*Няўжо наш дом аглух і так сцямнеў?*
*На беспраменных, стомленых людзей*
*Зляцела ноч няспраўджаных надзей?*
*А я хачу агонь свой выкрасаць.*
*Ты пачакай гасіць яго, сляза!*
*Мая Радзіма мовай не сцякла.*
*Я б'юся думкай-жылкай ад святла —*
*Пульсуе ж ува мне мая любоў.*
*Няма нідзе такой другой, любой...*
*І ў гэтай простай ісціне старой*
*Дзве-тры іскрынкі моляцца зарой...*
*Ты пачакай гасіць агонь, сляза —*
*Мой дух гатовы песню выкрасаць!*

### Люблю я дзень

*Люблю я дзень, калі выразны цень!*
*Былі ж, як промні, і гады, і дзень...*
*І промніліся зырка летуценні;*
*Была душа ў палёце-захапленні.*



*...Падумалася, што не бачу ценю,*
*свайго... І гэтых кронавых спляценняў...*
*Маё святло, ды ў раўнавазе з дзённым?..*
*Як гэты дзень, нявеплівы і цёмны?*
*І ледзьве свеціцца мая дарога?*
*Тады ж якая з'ява я для Бога?..*
*Без ценю, можа, я вадой плыву?*
*І гэта называецца — «жыву»?*
*А як жа грэх?..*
*(Ой, невыразны ранак!..)*
*Недараваны?!.*

### Памінаю

***Будзеце вы мяне ўспамінаць...***
***Сяргей***

*...Таго светлага не прамінаю.*
*Ўспамінаю цябе, ўспамінаю.*
*Ды маўклівая сцежка, якая*
*У бярозавым маі...*
*Ўспамінаю цябе, ўспамінаю...*
*І — адна без зялёнага сна я.*

### Спавядаюся

*Палыхнулі ў царкве два радкі...*
*І агеньчык танюткі з рукі.*
*Да падсвечніка ён не прывык,*
*Да агульнай малітвы царквы.*
*Ад мяне Ты, Ісусе, ў журбе?..*
*Спавядаюся, Божа, Табе...*
*Стала свечкай растопленай я.*
*Уваскрэсла пытальнасць мая...*
*Той (з дзяцінства) царквы не пазнаць,*
*Не чуваць, нібы, звонкай яе,*
*Дзе «з-пад Яна» гаворыць вада,*
*І нібыта матуля пяе...*
*...І пра тое Табе гавару,*
*Што не дойдзе сказаць святару...*
*Мо святар ад мяне — у журбе?..*
*Спавядаюся, Божа, Табе:*
*Перад светам усёй Дабрыні,*
*Перад светам усёй Чысціні.*
*Мае вершы-малітвы прымі!*
*І даруй адзіноту! Амін.*

* * *

*Там зазвініць пчала,*
*дзе я ў суніцах з Табой была.*
*Узыйдзе сонца на той абшар*
*без нашых мар.*
*Жывому без сонца нияк,*
*няхай жа днее.*
*Але і ў веры,*
*і на паперы*
*пішу я верш,*
*што ніколі не пазавеш,*
*не паклічаш*
*з палян сунічных —*
*не станеш рэхам.*
*Не зацікавішся арэхам...*
*Не азірнешся, дзе я...*
*Заплача надзея.*
*Якраз гэта*
*і трэба помніць*
*жывым,*
*пакуль датыкаемся*
*да травы,*
*да ветру*
*і вецер да нас.*
*Ляціць час...*
*І ў часе пчала...*
*І думка такая*
*ляцець пачала.*
*Запозна.*
*Але — ці ж віна?*
*Пакута...*
*За нешта?..*

* * *

*Ад слёз я думкай тонкая, як ліст.*
*Яны нахлынуць, каб агонь заліць...*
*Ён у грудзях зашчэміцца ў адхланні...*
*Каля дыхання.*

### Вячэрняе

*Між небам і снегам — святліца,*
*Агонь яе ў вочы — прамы.*
*І здольнае ў зрок мой змясціцца*
*Блакітнае поле зімы.*
*Вунь тоўпяцца сосны ў жаўцечы —*
*На макаўках сонца гарыць...*
*І дзень перакінуўся ў вечар,*
*У рух, ад зары да зары.*

*І соснаў паўстала чарнеча.*
*Яе так выразніць зара.*
*Ад зоркі цямнюткай сінечы*
*Пара мне ўспамін паўтараць.*

*Даўжэзнасць зімовай цямнечы,*
*І выбух іскрысты тугі:*
*Аб розным...*
*Аб позным...*
*Аб нечым...*
*Аб страчаным сне дарагім.*

**10 снежня 2009 г.**

* * *

*Гэта ўздых па шолаху бярозак,*
*Успаміну подых ад красы.*
*Лёзна ззяюць восеньскія слёзы,*
*І сцямнелі дрэўцаў валасы.*

*З нейкай думкі точыцца маркота*
*І калыша тое, што на дне.*
*Агарнула сумная пяшчота —*
*Час пражыты раптам павідней.*

*У душы балючай і наіўнай,*
*Крыху недаспелым адкрыццём,*
*Думкам адгукаецца так дзіўна*
*З шэрых крон пражытае жыццё.*

***22 лютага Марыя Якаўлеўна Баравік адзначыла свой юбілейны дзень нараджэння. Сардэчна віншуем нашую паважаную аўтарку і жадаем ёй светлага і доўгага жыцця, радасці і новых кніг!***

# Нудысцкі пляж

## Фрагмент рамана «Дваістая душа Алісы»



Марта ЛОКІС

Пляж непадалёк, трэба толькі прайсціся да канца прамvenаду, падняцца ўгару да гатычнай гарадской брамы, а потым спусціцца ў бухту па высечаных у скале сходах. Я нават бачу іх пачатак.

«Ты, Аліса, хочаш сказаць, што пойдзеш зараз на нудысцкі пляж?» — пачынаю я традыцыйную спрэчку сама з сабою.

«А што такога? Абсалютна правільнае рашэнне, — прачынаецца мой унутраны голас. — Купальніка ў цябе няма. Чамадан з пляжнымі прычындаламі застаўся ў гатэльнай камеры захоўвання. У нумар цябе заселяць толькі пасля чатырнаццаці. А там усе галяком адпачываюць».

«Дазволіць іншым сузіраць мае інтымныя месцы?» — жахаюся я.

«Ну… гэта не забойчы аргумент, — не здаецца ўнутраны голас. — Урэшце, наўзамен ты атрымаеш мажлівасць сузіраць інтымныя месцы іншых людзей. Усё сумленна».

«Мне гэта трэба?»

«У цябе няма купальніка. Хочаш, сядзі да чатырнаццатай гадзіны на спякотным бульвары пад чэзлымі каталонскімі пальмамі. Хочаш, купайся ў нігліжэ. Зрэшты, цябе тут ніхто не ведае. Вырашай».

Маўчу, прыслухоўваюся да адчуванняў. Я баюся, што магу здзейсніць чарговы незваротны ўчынак і потым стану шкадаваць да канца дзён. Унутраны голас зноў спакушае.

«Ты журналістка. І мусіш быць кампетэнтнай у кожным пытанні».

«Ты мне параіш і наркотыкі пакаштаваць, і ў павеі запісацца?» — пярэчу я.

«Навошта скрайнасці? Што кепскага ў нудызме? Скупацца аголенай. Ты ж любіш падчас начнога радыё-эфіру, калі застаешся адна, распранацца ў студыі перад мікрафонам?» — нагадвае мне ўнутраны голас.

З ім цяжка спрачацца, ён ведае пра мяне ўсё. Ад яго не можа быць таямніц і нават маленькіх сакрэтаў. І ён гэтым падступна карыстаецца.

«Час сплывае, як пясок скрозь пальцы, — нагадвае голас. — Навошта ты перад адлётам шчыравала машынкай над сваім інтымным «лужком», дбайна падстрыгала яго? А?»

«Добра. Толькі потым не папікай мяне, што я раблю глупствы і здзяйсняю безразважныя ўчынкі».

«Маўчу, маўчу».

Чым бліжэй я падыходжу да сходаў, высечаных у скале, тым мацней хвалююся. Мне здаецца, што людзі з асуджэннем азіраюцца на мяне. Яны ведаюць, куды я накіроўваюся! Калі б у мяне быў купальнік, ні завошта не пайшла б туды. Але не станеш жа апраўдвацца перад сустрэчнымі, распавядаць ім пра замкнёны ў гатэлі чамадан з пляжнымі прычындаламі.

Вось і запаветныя сходы. Стаўлю нагу на верхнюю прыступку. Мне хочацца вярнуцца, але я супыняю сябе.

«Аліса, — кажу сама сабе. — Ты далёка зайшла, будзе крыўдна не паглядзець хоць адным вокам. Ты журналістка. Раптам хтосьці з радыёслухачоў патэлефануе ў прамым эфіры, завядзе гаворку пра нудысцкія пляжы, а табе няма чаго сказаць? Спусцішся да пляцоўкі, паглядзіш зверху і, калі зразумееш, што гэта не тваё, павяртайся».

Набліжаюся да пляцоўкі, там аголеная дзяўчына, у яе за плячыма пляцачок у выглядзе пацешнага мядзведзіка. Запавольваю рух і гляджу на яе занадта пільна, больш пільна, чым трэба было б. Яна весела ўсміхаецца ў адказ.

Людзей у пясчанай бухце, адгароджанай ад гарадскога пляжу скаламі, няшмат. Некаторыя з дзецьмі. Людзі як людзі — толькі голыя. Праўда, не ўсе. Тры жанчыны топлес. Па журналісцкай звычцы прыдумляю ім матывацыі. Хутчэй за ўсё, крытычныя дні. Каму захочацца паказваць, што ў цябе з аднаго месца, як у хлапушкі, вытыркаецца мышыны хвосцік вяровачкі тампона?

І вось ужо пад нагамі перасыпаецца пясок. Я магу разгледзець аголеных людзей у дэталях. Яны блізка ад мяне. Стараюся не затрымліваць позірк, удаю з сябе абазнаную нудыстку, для якой тут няма і не можа быць нічога нязвыклага. Мне трэба будзе на бліжэйшы час стаць адной з іх! Ці хопіць рашучасці? Я жудасна хвалююся, выбіраю месца бліжэй да лініі прыбою, далей ад людзей.

**«Аліса, — кажу сама сабе. — Ты далёка зайшла, будзе крыўдна не паглядзець хоць адным вокам. Ты журналістка. Раптам хтосьці з радыёслухачоў патэлефануе ў прамым эфіры, завядзе гаворку пра нудысцкія пляжы, а табе няма чаго сказаць?**

«Аліса, — звяртаюся да сябе. — Нічога гэткага не адбываецца, ты агалялася тысячы разоў. Уяві, што ты на самоце».

Ніхто да мяне асабліва не прыглядаецца. Апускаю на жвір пляцачок. Скідаю абутак. Няспешна вылузваюся з джынсаў. Калі б я распраналася на адзіноце або ў выключна жаночай кампаніі, то абавязкова б скінула спачатку майткі, а ўжо потым блузку. Але я адчуваю, што не магу так хутка перайначыць сябе, падставіць чужым позіркам свае патаемныя месцы. Бяруся нетаропка расшпільваць маленькія гузікі блузкі. Вецер абцякае мае грудзі.



Я стаю топлес. Мае цыцкі пышная, адзін са смокчаў злёгку «правалены» ўнутр. Але гэта менавіта тая разынка, якая прысутнічае ў кожнай дасканаласці. Калі я ўзбуджаюся, ён выходзіць вонкі. Пазіраюць на мяне не гэтулькі мужчыны, колькі жанчыны.

І тут я разумею: нішто на свеце не прымусіць мяне цяпер скінуць майткі. Я і так зрабіла дастаткова, каб перамагчы сябе, адолець сорам. Усяму існуе мяжа. Не дапамагаюць і лагічныя хітрыкі, кшталту, «карона з галавы не зваліцца», «большасць мужчын прыйшлі са сваімі паненкамі», «голых дупаў тут і без тваёй аж занадта»…

«Мае майткі, — разважаю я, — калі глядзець на іх з адлегласці, цалкам могуць сысці за ніжнюю частку купальніка. Яны не карункавыя, светлы трыкатаж класічнага крою».

Так і не наважваюся распрануцца канчаткова.

Тое, што я белая, як гліста, ратуе. Інакш бы неапаленая паска выдала б мяне — ніякая я не нудыстка, проста прымазалася да чужых у безвыходнай сітуацыі. Мора вабіць. Іду ў хвалі.

Плаваць я амаль не ўмею. Таму, заграбаючы вакол сябе рукамі, хаджу па дне, пазіраю на пакінутыя на беразе рэчы. Ува мне з’явілася адчуванне волі, аголеныя грудзі зусім не бянтэжаць мяне.

На беразе з жахам выяўляю, што мокрыя майткі сталі празрыстымі, пад імі выразна праступае цёмны трохкутнік. Трэба ратавацца, на мяне глядзяць. Валюся жыватом на пясок. Цыноўкі або ручніка ў мяне няма, а заплечніка стае толькі на тое, каб пакласці на яго галаву. Ляжу са шчыльна зведзенымі нагамі. Адчуваю, як мая белая пасля беларускай зімы і змрочнай вясны скура ўсмоктвае міжземнаморскае сонца.

Мне хацелася б загарэць паболей. Не ўстаючы, заводжу руку за спіну і падкасваю майткі. Цяпер ужо і большая частка маіх клубоў «харчуецца» сонцам.

Ускладаю сонечныя акуляры. Цяпер ніхто не зможа дакладна вызначыць, куды я гляджу. Выдатна бачу тое, што зазвычай хаваюць бялізна і адзенне. Частка жанчын, маладыя і ва ўзросце, такіх тут таксама нямала, сядзяць, ляжаць, шчыльна звёўшы ногі. Але большасць абсалютна не турбуецца з тае прычыны, што яны дэманструюць свае геніталіі ва ўсёй пышнасці, падстаўляюць позіркам і сонцу старанна паголеныя «кляйноты». Набіраюся нахабства і бяруся цішком разглядаць мужчын.

Сярэдняга веку таўстун стаіць каля самай вады, раз-пораз кратае свой «струк», быццам бы правярае, ці не згубіў яго. Не дзіва, небарака з-за жывата не ў стане ўбачыць яго.

Столькі чэлясаў я не бачыла не тое, што ў адной прасторы, але і за ўсё сваё жыццё. Я, вядома, падазравала, што існуе пэўная разнастайнасць, але рэальнасць пераўзыходзіць мае фантазіі. Даўжыня, таўшчыня, форма, выгнутыя… І ані ў каго няма эрэкцыі, хоць побач поўна распранутых жанчын, некаторыя ледзь не павыварочвалі свае похвы вонкі. Заўважаю, як у аднаго з мужчын «струк» усё ж пачынае наліваццa, на вачах пакрысе набракае. Ёсць ад чаго, непадалёк ад яго пульхная красуня шаруецца малачком для загару, яна без комплексаў нашмароўвае сябе і паміж ног. Мужчына, які стаў міжвольнай ахвярай, асцярожна перакульваецца на жывот.

Адзначаю, што полавыя органы і ў мужчын, і ў жанчын больш загарэлыя, чым іншыя часткі цела. Шукаю гэтаму тлумачэнне і знаходжу яго. Скура ў тых месцах цяпер зморшчаная, сцягнулася, а варта ёй распрастацца, загар зраўняецца па тоне. Працягваю цікавыя даследаванні, але пры гэтым не забываюся і пра сябе. Перакульваюся на спіну, трэба ж апаліцца і з другога боку. Мяне ўжо не турбуе, што мае грудзі аголеныя, дасяжныя чужым позіркам. Ляжу з заплюшчанымі вачыма, сонца шалёнае, нават цёмныя акуляры не дапамагаюць. Падхінаю беражкі майткаў, каб болей скуры падставіць прамяням. І дапінаю, як па-дурному выглядаю. Хочаш вызваліць больш скуры — проста скінь майткі. Тут так усе робяць. Навошта ж іх падкасваць? Тым больш, што мае майткі ператварыліся ўжо ў дзве мокрыя пераплеценыя вяровачкі і даўно праваліліся ў лагчынку паміж клубамі. Яны нічога не затуляюць, нават дагледжаную «расліннасць»! Варта зірнуць на мяне, і зразумееш: ніякая я не нудыстка.

Імкнуся не прываблівацЬ увагу, валтужуся на пяску, вызваляюся ад майткоў. Адчуванні дзіўныя. З аднаго боку, палёгка, нібыта, моцна страціла ў вазе. Але, з іншага боку, адчуваю няёмкасць, якая ўбівае мяне ў пясок глыбей. Пакуль яшчэ я не гатовая ў такім выглядзе ляжаць на спіне. Сорам перад уласным голым целам прышчэплівалі мне выхаваннем, літаратурай. Ад яго так проста не пазбавішся.

Я ляжу нагамі да вады і да сонца.

«За мной нікога няма», — кажу я сама сабе і злёгку рассоўваю ногі.

Яшчэ шырэй, яшчэ, і вось я ўжо адчуваю, як сонечныя прамяні кранаюць мяне ў апошнім недасяжным для іх раней месцы, а вецер абдзімае, лашчыць вільготную скуру. І гэта асалода. Ляжу з заплюшчанымі вачыма, рыхтую сябе да таго, каб пайсці купацца. Я павінна зрабіць гэта абсалютна натуральна, без усялякага інстынктыўнага прыкрыцця далонню. Хай, хто хоча, глядзіць. Мне няма чаго саромеецца.

«Я самая разумная, самая прыгожая, самая рашучая і адважная…» — накручваю сябе на чарговае «геройства».

І тут чую, як нехта падыходзіць да мяне і спыняецца. Па кроках, ды і жаночым целам сваім адчуваю, што з’явіўся мужчына. Гэтага яшчэ не ставала. Адбываецца нахабнае парушэнне звычаёвых правілаў паводзін на нудысцкім пляжы: «Не заведзена, каб мужчыны падыходзілі да незнаёмых жанчын. У скрайнім выпадку, гэта дапушчальна, калі жанчына знаходзіцца ў кампаніі іншых мужчын».

Складаю ў галаве словы, якімі адпрэчу нахабу. Мае клубы шчыльна сціскаюцца. Зсоўваю ногі і прыўздымаю галаву. Гэта не вельмі зручна, калі ляжыш на жываце. Першае, што бачу — мужчынскія, злёгку парослыя валасінкамі ногі і паміж імі пагойдваецца загарэлы амаль да чорнага «струк», ён такі ж цёмны, як і раслiннасць, якая яго атачае, у ёй серабрыцца колькі сівых валаскоў.

Злёгку прыўздымаюся на локцях і ніякавею. Па-нада мною ўзвышаецца Герман Жарнасек. Той чалавек, які і выклікаў мяне ў Барселону, аплаціў маю паездку, каб я ўзяла ў яго інтэрв'ю, напісала артыкул. Яго трэніраванае цела пакрывае роўны загар.

— Рады, што не памыліўся, і гэта вы, — прамаўляе ён сваім характэрным, злёгку хрыпатым, нізкім голасам. — Бо тут не заведзена падыходзіць да самотных незнаёмых жанчын. Як даляцелі?

— Я... Вы ... Я ... — выціскаю з сябе невыразнае.

Імкліва чырванею. Кроў хваляй прылівае да твару, вушэй і чамусьці да клубоў. Мільгае вар'яцкая думка, што чырвоныя плямы, якімі ўпрыгожана мая дупа, у выпадку чаго можна растлумачыць уздзеяннем сонца, маўляў, перагрэлася. Але навошта мне яму такое тлумачыць? Ад гэтага стане лягчэй? Мінулы раз мне ўдалося-такі выкруціцца з няёмкай сітуацыі, а цяпер мяне заспелі на гарачым.

— Дазвольце прысесці? Калі, вядома, не перашкаджаю. Можа, вы хацелі пабыць на самоце? — пытаецца ён так, нібыта мы зноў знаходзімся ў радыйнай студыі і ён просіць дазволу апусціцца ў крэсла перад мікрафонам.

Няпэўна кручу галавой, прыціскаюся да пяску і дазваляю:

— Зразумела.

Герман садзіцца побач. Ён спакойны. Нават голы — годны. Калені злёгку разведзеныя, яго «сябра» кранаецца пяску. Я ліхаманкава цямлю. Але прымусіць сябе сесці я пакуль яшчэ не здольная.

— Ваш шафёр сказаў, што вы будзеце занятыя да заходу сонца. Вось я і вырашыла... — змаўкаю, не ведаючы дакладна, як сфармуляваць гэта самае «вырашыла».

— Менавіта, да заходу сонца. А што рабіць на пляжы пасля змяркання?

— Я меркавала, у вас справы, сустрэчы, — вярзу чарговае глупства. — Пэўна, ваш час дорага каштуе.

Здаецца, сяброўка Марта мела рацыю, калі ў аэрапорце папярэджвала мяне, каб я не нарабіла глупстваў.

У мяне па-ранейшаму не стае рашучасці сесці. Але ж выцягваю шыю, кручуся. Трэба ж неяк выказваць ветлівасць. Адная цыцка выслізгвае з-пад мяне, «глядзіць» у бок спадара Германа. Злёгку прыўздымаюся на локцях, непаслухмянка зноў трапляе ў пясчаную лунку.

Спадар Герман усміхаецца аднымі вачыма так, як гэта могуць рабіць толькі мужчыны за сорак, з якімі ў жыцці здарылася ўсё, што толькі можа здарыцца з мужчынам. Апроч смерці, зразумела.

— Я цаню свой час. Асабліва вольны, такі, як цяпер. Але, калі вы таксама тут, можам пачаць працу над інтэрв'ю і артыкулам. Вы не супраць, спадарыня Аліса?

У мяне ў галаве дзеецца чорт ведама што. Мозг, літаральна, плыве. Лезу ў заплечнік.

— Вядома, не супраць. Я ж прыляцела сюды працаваць, — лапачу я. — У мяне і дыктафон з сабою.

Для радыёперадачы трэба карыстацца вынасным мікрафонам, каб гук быў якасным. Заміраю з дыктафонам у адной руцэ і вынасным мікрафонам з кліпсай у другой, паколькі разумею, што раблю чарговае глупства. Калі б спадар Герман быў апрануты, я б прымацавала кліпсу на кашулю або на пінжак. Але ён голы! Ад сораму я апускаю вочы, позірк спыняецца на загарэлым да чарнаты «сябры». Дзякаваць Богу, з-за цёмных акуляраў мой візаві гэтага не бачыць. Шляхетны Герман імкнецца мне дапамагчы. Ці мне тое здаецца? Магчыма, ён проста сілкуецца маёй разгубленасцю.

— Мяркую, — ён глядзіць на мора, — не варта адразу ж весці запіс для радыёперадачы.

— Чаму?

— Існуе колькі прычын. Чуеце, Аліса, як шуміць мора?

Зразумела, я чую хвалі.

— Гэты шум потым ні на адным кампутары не прыбярэш. Давядзецца тлумачыць слухачам, што мы гутарым на пляжы. Гэта не вельмі добра. Да сутнасці размовы не мае ніякага дачынення.

— Згодная.

— Прычына другая, — прамаўляе Герман. — Для інтэрв'ю, для шчырай размовы, мы павінны наладзіцца на адну хвалю.

— У сэнсе? — пытаюся.

Я ўжо трохі супакоілася, ва ўсялякім выпадку, настолькі, каб схаваць дыктафон у заплечнік. Мой позірк зноў чапляецца за загарэлы чэлес. Мне пачынае здавацца, што ён крыху адхіліўся ў мой бок. Але гэта не эрэкцыя, я ўпэўненая, што Герман занадта стрыманы для таго, каб дазволіць сабе гэта на публіцы.

— Прыкладна так часам робяць акцёры на рэпетыцыі. Проста разам спяваюць песню. Гэта зблізае, стварае агульны настрой. Не жадаеце выпрабаваць?

Уяўляю сабе карціну. Мы з Германам зацягваем беларускую народную песню на каталонскім нудысцкім пляжы, трапляем у цэнтр увагі.

— Не, я кепска спяваю, — знаходжу нязграбнае апраўданне.

— Шкада. Мне здавалася інакш. Ёсць яшчэ адно — радыкальнае, рашэнне разбурэння бар'ераў у зносінах. Мы можам абмяняцца ўспамінамі пра свой першы сексуальны досвед. Падзяліўшыся патаемным, мы здолеем пасля казаць пра больш складаныя рэчы шчыра. Менавіта так потым у перадачы і ў інтэрв'ю ўзнікнуць падтэксты.

Мой першы сексуальны досвед, у сэнсе адносін з процілеглым полам, з'яўляецца аднaчасова і апошнім, катастрафічна няўдалым. Усялякія пазнейшыя сексуальныя фантазіі і свавольствы не бяру ў рахубу. Не магу ж я распавесці яму пра тое, як на другім курсе ўніверсітэта я нечакана для сябе напілася і апынулася ў адным ложку з тым хлопцам, імя якога нават не хачу цяпер згадваць. Я спазнала толькі боль. Пара мітуслівых рухаў, вось і ўсё. Ён атрымаў задавальненне, а пра мяне не падумаў. Не, ён сказаў-такі мне «дзякуй». Ідыёт. У мяне было такое адчуванне, нібы ў мяне справілі патрэбу. З таго часу я ніколі больш не імкнулася паўтарыць той досвед. Баялася расчаравацца...

— Здаецца, радыкальны спосаб вас не вабіць, Аліса, — прамаўляе спадар Герман і мае рацыю. — Што ж. Для пачатку прапаную адкінуць звароты на ўсялякія «спадар», «спадарыня» і перайсці на «ты».

Я пагаджаюся. Насамрэч, неяк па-дурному гутарыць голымі і выконваць падобныя фармальнасці этыкету.

— Тады ў мяне да цябе, Аліса, ёсць прапанова пайсці ў мора. Да таго ж, твая спіна неўзабаве пачне шкварчэць пад сонцам.

Не ведаю, што і сказаць. Для таго, каб пайсці ў мора, давядзецца падняцца... і «ўсё» яму паказаць. Але нельга спрэс ляжаць на жываце. Герман мае рацыю, спіну мне ўжо ладна прыпякло. Назаўтра скура палезе лахманамі. Пачынаю сябе ўгаворваць.

«Аліса, ты дзясяткі разоў сядзела аголенай у радыйнай студыі падчас начных эфіраў, уяўляла, нібыта нехта бачыць цябе. Ты ўжо наважылася і распранулася на нудысцкім пляжы. Што зменіцца, калі ты падымешся? Ты яшчэ галаву ў жоўты пясочак закапай, пакінуўшы наверсе свае счырванелыя ад сораму і сонца клубы».

— Хадзем? — пытаецца ён.

— Рэчы тут так і пакінем? — раблю я апошнюю спробу адступлення.

— На гэтым пляжы не заведзена красці рэчы. Магчыма, таму, што злодзею няма куды іх схаваць, — усміхаецца Герман.

Мужчына падае мне руку, каб дапамагчы падняцца. Адмоўлюся, значыць, пакрыўджу. Раблю цяжкае фізічнае практыкаванне. Самым арганічным і натуральным было б стаць на калені і пасля гэтага падняцца. Але гэта ў выпадку, калі б на мне былі б майткі. Таму даводзіцца перакаціцца на бок, сагнуць нагу, стаць на калена і толькі потым, скарыстаўшыся дапамогай, падняцца.

Я жудасна хвалююся, нягледзячы на тое, што прабавіла на нудысцкім пляжы ладны кавалак часу. Адна рэч, калі на цябе глядзяць незнаёмыя людзі, якіх ты потым у жыцці ніколі не сустрэнеш, і зусім іншая, калі побач з табой крыху знаёмы, значна старэйшы мужчына, з якім давядзецца сустракацца і, магчыма, працаваць надалей. У мяне імгненна ўзнікае жаданне зноў прыціснуцца да пяску. Цыцкі, жывот і асабліва «лужок» аблепленыя дробным пяском, нібы адбіўныя — паніроўкай. Інстынктыўна бяруся абцярушваць пясчынкі, але яны не жадаюць порстка высыпацца з кучаравых валасінак — сыплюцца і сыплюцца. Збянтэжаная, кідаю гэты занятак.

— Прымружся, — звяртаецца Герман да мяне.

— Навошта?

Ён двума пальцамі здымае з мяне сонцаахоўныя акуляры.

— Яны могуць патануць у моры.

Сонца слепіць вочы. Цяпер Герман не здаецца такім моцна загарэлым. Нашыя позіркі перакрыжоўваюцца. Я павінна стаць больш асцярожнай. Ён бачыць, куды менавіта я гляджу. Дзіўнае адчуванне, у мяне проста вочы свярбяць, так хочацца паглядзець ніжэй, а нельга.

Герман крочыць перада мной. Магчыма, ужо адчуў маю нудысцкую няспрактыкаванасць і збянтэжанасць, таму і дае мне кароткую пярэрву. У яго трэніраваныя, падцягнутыя клубы, яны пругка сціскаюцца пры кожным кроку, з іх хутка абсыпаецца наліплы пясок. Спадар Герман рухаецца вельмі натуральна. Я лаўлю позіркам, як разгойдваецца паміж яго нагамі «струк». Але не паспяваю зрабіць з гэтага лагічных высноў.

Мы стаім на мокрым пяску. Накочваюць хвалі. Я саромеюся таго, што адмыслова разглядала яго ззаду.



— Аліса, як далёка сёння ты гатовая заплысці? — пытаецца мужчына.

Пытанне застае мяне знянацку. Яно гучыць двaіста. З аднаго боку, яно быццам бы бяскрыўдна тычыцца адлегласці. Але, з другога боку, ёсць у ім іншы сэнс, той самы падтэкст, пра які паспеў сказаць Герман. Так, я ўжо далёка сёння «заплыла», а дзень яшчэ не скончыўся.

Калі нават апранутыя жанчына і мужчына стаяць блізка адно да аднаго, самі сабой у галаве складаюцца пэўныя думкі. Мы заўсёды «прымерваем» сябе да іншых. А тут мы стаім аголеныя, зусім побач. І я не магу не думаць пра тое, ці падыходзіць Герман да мяне, ці падыходжу яму я. Яшчэ нічога дакладна не ведаю, але мне прыемна на яго глядзець, прыемна знаходзіцца побач. Брыдкі ўспамін з мінулага, па-ранейшаму, не пакідае мяне, я памятаю свой першы і апошні сексуальны досвед у дэталях, дотыках.

— Я кепска плаваю. Дакладней, амаль не плаваю, — прызнаюся.

Ну вось, Аліса, ты сама зніжаеш свой кошт. Пару хвілін таму прызналася, што кепска спяваеш, цяпер — плаваеш. А што ты наогул умееш рабіць дасканала? Прызнайся яшчэ ў тым, што панічна баішся блізкасці з мужчынам.

— Я не дазволю табе патануць, хадзем.

Хваля змывае з мяне наліплы пясок. Крадком праводжу далонню па «лужку», пяску няма і там. Спыняемся. Вада то падымаецца мне да шыі, то спадае па талію. Герман трымаецца тварам да мяне, бокам да хвалі. Я бачу яго злёгку парослыя жорсткімі валасінкамі грудзі.

— Асцярожна! Падскоквай! — папярэджвае мяне Герман.

На нас коціць высокая хваля. Яшчэ не дайшоўшы, яна ўскіпае шумам. Я падскокваю, грэбень б'е мне ў плячо, хваля хоча пацягнуць да берага. Але Герман паспявае схапіць мяне за руку. Вадзяная плынь падхоплівае нас, закручвае, на імгненне зблізае, сутыкае нашыя целы. Я хачу адхіліцца, заграбаю рукой, але плынь, якая ўжо адыходзіць ад берага, мяне выварочвае. Адзін неасцярожны рух, і далонню я датыкаюся яго. Мне здаецца, плоць крыху напружаная. А можа, я проста даткнулася яго нагі, рукі? Хваля сыходзіць. Вада цяпер мне па пояс. Пена не дае разгледзець, што ж дзеецца ў Германа там — ніжэй. Лаўлю сябе на думцы, што мне карціць пабачыць, ну... хоць бы злёгку набраклую плоць. Павінна ж я яго хваляваць, проста, як жанчына.

Мы ўжо не дакранаемся адна да аднаго, дотык доўжыўся крыху больш за секунду, але яна, ва ўсякім выпадку, для мяне стала электрычным разрадам, працяла розум. Цяпер і адчуванні мае ў вадзе сталі іншымі. Я, літаральна, скурай, геніталіямі адчуваю, што нашы целы абцякае адна і тая ж вада. Адна на дваіх. Праз яе я адчуваю і Германа, хоць і стаіць ён на адлегласці.

«Як далёка ты гатовая заплысці сёння?» — згадваю я пытанне.

А я і сама не ведаю. Бо плаваю зусім кепска. Добра, калі не патану.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (114) | 26 лютага 2016 | № 8 (473) Новы Час

# Эра выраджэння



### Пра існаванне

*1*
*Трывожным пульсам б'ецца ў скронь*
*Жыццё — повязь Зямлі і Неба!*
*З якой павагай кладзеш на далонь*
*Кавалак надзённага хлеба.*
*З тых першабытных часоў нелады,*
*Як грымнула райская драма:*
*Сыходы, сыходы (сюды і туды)*
*З напісанай небам праграмы.*

*2*
*Роўныя перад ім і шасцёрка і туз!*
*У жорнах Вечнасці без намаганняў*
*Пераціраe рэальнасці груз*
*У друз успамінаў і памінанняў.*

*3*
*Дом.*
*Работа.*
*Ад панядзелка і да суботы*
*Замураваныя мы ў турботы.*

*4*
*Без боскасці і без натхнення!*
*Як змучаны пагоняю алень…*
*Сон.*
*Летаніна.*
*Манітор.*
*Скупое сукупленне.*
*Сплін, спараны з нудой,*
*Як з ноччу дзень…*

*5*
*Забег, даўжынёю ў жыццё…*
*Бяжыш!*
*Бяжыш!*
*Змаганне ног і локцяў.*
*Штурхай і абганяй кагосьці!*
*Уся ільгота:*
*Да вычарпання поту*
*Ад павароту да павароту,*
*Рыпіш,*
*Пыхціш,*
*Але бяжыш!*

*6*
*Не мною адкрыта: жыццё — гульня!*
*Ды толькі выпадак кур'ёзны:*
*У сцэнах змагання Дабра і Зла*
*Выконваем ролі сур'ёзна.*

### Пра нязменнасць чалавечай натуры

*1*
*На нашых вачах*
*Адбілі паклоны вякі*
*І суха паціснулі адзін аднаму рукі*
*Напышлівыя тысячагоддзі.*
*Але і сучасны чалавек валачэ закарэлую лямку мітусні!*
*Ні веды, ні Запаветы яго не навучаюць:*
*З чыёй падачы з году ў год*
*Сабе падобных вынішчае?*

*2*
*З тых часоў, як нізрынулі Сталіна,*
*Хіба крыху дабрэйшымі сталі мы?*
*Аб'яві толькі конкурс даносаў —*
*І пасыплюцца, нібыта проса.*
*Пад замком сядзяць подласць і зайздрасць,*
*Адчыні ім — памкнуцца на двор,*
*Дзе з ранейшым імпэтам паставіць*
*Тую ж п'есу другі рэжысёр.*

### Пра айчынную бюракратыю

*Кур'ёзамі гісторыя багата!*
*Не шчасціць пралетарыяту:*
*Не маючы ніякага мандата*
*Уладу захапіла дыктатура бюракрата.*

### Пра лічбакратыю

*Стол*
*Крэсла.*
*Экран манітора.*
*Тэлефоны…*
*Паперы горы.*
*Дэбет.*
*Крэдэт.*
*Улік.*
*Справаздача…*
*Сэрца ад манатоннасці плача!*
*Так, пад лічбаў бясконцыя скокі,*
*З нас штодзённа выціскваюць сокі.*

### Пра хваробы грамадства

*1*
*Што гэта робіць стагоддзе з намі?*
*Грэбуюць многія бульбай, баршчамі —*
*Кухні заморскія ў значнай пашане.*
*Мір на прасторах. Пакоі прасторныя.*
*Не галадаем. Адзеты прыстойна,*
*Толькі няўтульна і неспакойна…*
*І абганяе «Пежо» з «Мэрсэдэсамі»*
*Эпідэмічная хваля дэпрэсіі.*

*2*
*Мы выйгралі бітвы з нястачай,*
*мікробамі…*
*Мы зрынулі з трона наказы БОГАВЫ,*
*Ды сілы няма ў нас змагацца з хваробаю,*
*Якую завем трывіяльна — трывогаю.*

*3*
*Да іголкі з траўкай прывучыўся сплін,*
*Кіч вычварэнства розных масцяў,*
*Век моцных жонак і аслабленых мужчын,*
*Век дагараючых любоўных жарсцяў…*

*4*
*Нас прыручылі: у вольны час*
*Зачаравана глядзім на экран,*
*Дзе, вочы мазолячы, кожны раз*
*Глупства з бяздарнасцю скача канкан.*

*5*
*Змяніўся культ працы й высокай культуры*
*Культмасавым апашленнем:*
*Вядуць нас упэўнена гуру гламуру*
*Наўпрост да эры Выраджэння…*

### Пра цяжар часу

*1*
*Праносяцца зімы, вёсны…*
*Няўхільна за нашым лёсам*
*На тройцы ляціць безгалоса*
*Усюдыісны тлен.*
*Пазнакі наносіць*
*Нябачны пануры вазніца.*
*Спрабуеш дарма затуліцца*
*Ад руxаў няўмольнай правіцы,*
*А на старонках -«маўкліцах»*
*Альбомаў старых весяліцца*
*Сведка паніклых амбіцый —*
*След паступовых змен.*

*2*
*Зрываць захапленне з паглядаў мужчын —*
*Жанчын запаветная мара.*
*Зарокся хтосьці — ёсць шэраг прычын*
*Зміріцца з будзённасці карай.*
*Але ад прыросту узростных слядоў*
*На сэрцы і сум і знямога.*
*З пакорай цела дыктату гадоў*
*Душа не пагодзіцца доўга.*

### Пра неспазнанасць часу

*Загадкавасць боская ў танцы агністым*
*Парывістага імгнення!*
*Як ні цікуй за яго трыадзінствам —*
*Не ўсочыш за пераўтварэннем!*

*З разгону ўразаецца ў Вечнасці гліну —*
*Без цяжкасці лепіць існае!*
*З фрагментаў надзей, падзей і быліна ў*
*Былому робіць маністы…*

*Кружэнне стагоддзяў, сузор'яў, планет*
*Пад лінзамі назірання!*
*Складае з квяцістых імгненняў санет*
*Боскага існавання.*

# Побач будзь…



Алесь
ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

### Адна

*І было каханне нечаканым,*
*і было да болю яго мала.*
*Зорка з тваім іменем жаданым*
*над зямлёю ціха праляцела.*

*Як спяшаўся я яе разглядзець,*
*наталіцца тым святлом нябесным!*
*Ды яна сярод аблокаў недзе*
*ўсё знікала, як анёлаў песня.*

*І шаптаў я ціха, як малітву:*
*«Ты адна — маё наканаванне!*
*Ты адна!.. З табою толькі бітву*
*выйграць я здалею за каханне!..»*

**2012**

### Стамлёны анёл

*Няма мне ад неба міласці,*
*усё зноў як у цяжкім сне,*
*бо ты ад мяне стамілася,*
*не можаш бачыць мяне!..*

*Не хочаш ты болей дотыку*
*рук і вуснаў маіх…*
*Ляцяць, бы ў бездань, зноў покатам*
*хвілі, гадзіны, дні!..*

*Каб быў наперад я здольны*
*сэрца ўчуць твайго холад,*
*то жарсных мар няўтольных*
*я затушыў бы золак.*

*Перапыніў бы споведзь*
*нашых вачэй у слязах,*
*рваў бы граху повязь,*
*лёс нас якой звязаў…*

*Кліч, душой тваёй кінуты,*
*я б, напэўна, пачуў…*
*Але, і табой адрынуты,*
*ўсё-ткі спытаць хачу:*

*«Скуль жа, з якое высі*
*ўпала ты ў наша жыццё,*
*калі змагла апячыся,*
*йшчэ й не расклаўшы касцёр?»*

### Чорныя вочы

**Вочы чорныя — спякота,**
**Часам — сонных зор адбітак…**
**Рад'ярд Кіплінг**

*Вочы чорныя — як выйсце —*
*я сустрэў у час пякельны,*
*погляд іх дзіцячы, чысты —*
*счараваў мяне ён вельмі!*

*І адвёў ён ад прысуду*
*цёмных сіл у веры далеч…*
*Вочы чорныя… Я думаў,*
*што заўсёды ў іх уладзе*

*застануся… Ды дарога*
*залюляла, закружыла…*
*Вочы чорныя другога*
*сёння грэюць з той жа сілай…*

### Ахвяра

*Ўсё як сон дурны, як злыя чары,*
*бо мяне прынеслі у ахвяру,*
*і маё напоўненае сэрца*
*выкінулі, як пакет са смеццем.*

*А ў тым сэрцы горкае каханне,*
*йшчэ жывое, плакала да рання…*
*Але потым сціхла ўраз, без словаў —*
*згінула без роднае паловы!..*

*******

*Проста ты мне вер,*
*хоць на сэрцы скрабе,*
*хай мой дзіўны намер*
*не бянтэжыць цябе.*

*Проста ты мне вер,*
*як ні горка ў душы —*
*твой адзіна давер*
*можа ўсё-ўсё рашыць!*

*Проста побач будзь,*
*быццам частка мяне —*
*і асядзе ўся муць,*
*цемра больш не кране…*

*Проста ты мне вер,*
*Веру каб утрымаць…*
*Ўсё, жыву чым цяпер,*
*тваё носіць імя!..*

*******

*Бога больш дарэмна не малю,*
*хоць у сэрцы нож смяротнай стомы…*
*Як жа я цябе яшчэ люблю,*
*як жа цяжка рваць мне па-жывому!.*
*Болей не ўзляцець ні ў ноч, ні ў дзень*
*нам з табой у восеньскае неба,*
*і ад нашай песні толькі цень*
*недарэчны — побач без патрэбы…*

### Расстанне з каханнем

*Адмаўляюся ад цябе*
*беззваротна, мілая, любая…*
*Маёй песні гук аслабеў,*
*бо ўмяшаўся зноў лёс грубы.*

*Адмаўляюся ад цябе,*
*калі ты даражэй за жыццё мне,*
*і правальваюся ўсё глыбей*
*ў змрочны свет самоты халоднай.*

*Адмаўляюся ад цябе —*
*сваёй часткі, цёплай, роднай.*
*Для мяне збіўся часу бег,*
*што з табой быў лёгкі, свабодны!*

*Ён спыніўся, бяздушны час,*
*без тваіх слоў выкшталцоных,*
*больш не будзе на свеце Нас,*
*будуць «Я» і «Ты». Асобна…*

*Адмаўляюся ад цябе,*
*ад тваіх найцёплых адбымкаў,*
*застанецца ад шчасця след*
*на выявах халодных здымкаў.*

*Бо між намі ў спакой цішыні*
*воля лёсу Трэцяга ўставіла,*
*і ён сэрца тваё спаланіў*
*ўсім насуперак правілам…*

*Адмаўляюся ад цябе —*
*пра сябе ж я даўно забыўся.*
*Ды нязбытная думка скрабе:*
*«Ну а раптам я… памыліўся?»*

# Любоў па-шведску

**Доўгі час, страціўшы старыя, «цэнтралізаваныя» стасункі з замежнымі выдавецтвамі, айчынныя не рашаліся на дыялог з калегамі з краін бліжэйшых і далёкіх.**

Прычыны навідавоку: сціслае кола беларускамоўных чытачоў; кніжны рынак, запоўнены кнігамі перакладаў на рускую мову; нежаданне вялікіх выдавецтваў наладжваць стасункі з замежнымі партнёрамі; адсутнасць спецыялістаў, якія могуць весці прафесійны дыялог.

Хочацца засяродзіцца на шведскіх дзіцячых кнігах, якія ўсё часцей расквечваюць беларускую кнігавыдавецкую прастору, бо прыклад працы з беларускамоўнымі версіямі шведскіх дзіцячых кніг — яскравае сведчанне таго, як трэба працаваць дзеля папулярызацыі, рэкламы і прасоўвання прадукта (кнігі) на рынак.

Гісторыя перакладаў шведскіх кніг для дзяцей на беларускую мову пачынаецца з апавядання «Лота» (1995) і казачнай аповесці «Браты Львінае Сэрца» (1997) Астрыд Ліндгрэн (пераклад быў здзейснены з англійскай мовы С. Лузгінай і Т. Лукшай). Урэшце, у 2000 годзе ў Вільні выдаецца кніга «Усе нашы дзеці з Булербю», перакладзеная са шведскай Л. Баршчэўскім, а пасля — зноў жа непасрэдна з мовы арыгінала — «Малы і Карлсан-з-даху» (пераклад Ю. Жалезкі. — 2007) і «Піпі Доўгаяпанчоха» (пераклад Дз. Плакса. — 2008) — усе пералічаныя творы таксама належаць зорцы і шведскай, і сусветнай дзіцячай літаратуры Астрыд Ліндгрэн.

Але палова справы — падрыхтаваць і выдаць кнігу. Прэзентаваць яе свету, данесці да чытача, каб не пылілася яна маўклівым грузам на паліцах бібліятэк і ў кнігарнях — вось другая палова складніка, без якога немагчымы поспех найлепшага выдання.

Пасля выхаду «Піпі Доўгайпанчохі» па-беларуску ў Мінск прыехала дачка Астрыд Ліндгрэн Карын — тая самая, якой у маленстве маці расказвала на сон казкі і якая аднойчы прыдумала незвычайную гераіню. Спадарыню Карын віталі і ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы (там, дзе на той момант ужо жыў Карлсан), і ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

А неўзабаве здарыўся цуд у маім асабістым жыцці. Я не магу абмінуць яго, не расказаўшы ў падрабязнасцях, бо гэта — яскравы прыклад фантастычнага прафесіяналізму, які злучае ў сабе і яснае разуменне пастаўленай мэты, і валоданне сітуацыяй, якое ёсць вынікам нястомнай аналітычнай работы, і здольнасць працаваць наўпрост, без пасярэднікаў... Аднойчы мне патэлефанаваў пасол Швецыі Стэфан Эрыксан, з якім да той пары асабіста мы не былі знаёмыя, і запрасіў у амбасаду пагаварыць пра магчымасці выдання па-беларуску сучасных шведскіх аўтараў. «Я часта чую, як вы расказваеце пра дзіцячую літаратуру на радыё, — сказаў спадар Стэфан, — і бібліятэкары пацвердзілі, што ведаюць вас як апантанага дзіцячай кнігай чалавека. Акурат з такім мы ў амбасадзе і хацелі б пазнаёміцца!»



Пры сустрэчы мне прапанавалі ў складзе невялікай дэлегацыі ад Беларусі наведаць Швецыю, пабываць на цырымоніі ўзнагароджання прэміяй Астрыд Ліндгрэн-2009, а таксама наведацца ў шэраг шведскіх выдавецтваў, каб — на свой густ — адабраць штосьці з кніг з перспектывай выдання па-беларуску. «Астрыд Ліндгрэн — гэта наша зорка, класік, але ў Швецыі шмат іншых цікавых аўтараў, хочацца пазнаёміць беларусаў з імі!» — наказаў спадар Эрыксан.

О, гэта была задача дык задача! Калі ты апынаешся ў краіне, дзе статыстыка аджывае і лічба ў 1300-1500 выдадзеных штогод кніг для дзяцей візуалізуецца і прапануецца як магчымасці перакладу ў сябе на радзіме, галава кругам ідзе! Вось выдавецтва, якое спецыялізуецца на пазнавальных кнігах для дзяцей — і ты не ведаеш, за што хапацца: кнігі пра зямлю і зоркі, жывую прыроду і нежывыя прадметы... Вось кнігі, якія маляўніча апавядаюць пра тое, як працуе пабытовая тэхніка — пыласос, тэлевізар... І ўсё так яскрава і даходліва, што, начытаўшыся, экзамен на рамонтніка можна пайсці здаваць... Вось выдавецтва, дзе працавала сама Астрыд Ліндгрэн — яны гатовыя да супрацы, прапануюць і класіку, і сучасных аўтараў... Вось яшчэ і яшчэ выдавецтвы з рознай спецыялізацыяй, арыентаваныя на розныя ўзроставыя групы дзяцей...

Хочацца — усё! Але ўрэшце абіраю кнігі Юі і Томаса Вісландэраў для самых маленькіх — «Малы і Мядзведзік» і «Малы і Білан» у выдавецтве «Natur och Kultur». Разлік просты: беларускія дзяржаўныя выдавецтвы, якія адвыклі ад перакладной літаратуры, будзе прасцей угаварыць на выданне кніжачак са сціплымі нешматлікімі лінейнымі малюнкамі... Кнігі пра Маму Му і Крумкача Юі Вісландэр і Свэна Нурдквіста меліся на ўвазе на перспектыву праз тое, што гэта паўнаколерныя кніжкі-карцінкі, дарагія ў выданні...

На момант, пра які я апавядаю, найважнейшай задачай у Беларусі было знайсці выдаўца на гэтыя кнігі. Беларускія выдавецтвы друкавалі беларускіх аўтараў альбо тых замежных, якія даўно адышлі ў іншы свет і правы на іх творы ўжо былі міжнароднымі. Дзеля кантактавання з замежжам патрабаваліся спецыялісты, якія разбіраюцца і ў аўтарскім праве, і мову замежную ведаюць — а яны аказаліся ў дэфіцыце.

Аднак пры спрыянні амбасады Швецыі ў Беларусі і Шведскага інстытута ў Стакгольме выданне спачатку «Малога і Мядзведзіка», а пасля «Малога і Білана» стала магчымым — кнігі выйшлі ў 2011 і 2012 гадах адпаведна (пераклад Н. Кандрусевіч).

У Беларусь прыязджае Юя Вісландэр. Я ладзіла прэзентацыю кніг на пляцоўцы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Запрошаным прапаноўвалася прыйсці з мядзведзікамі, цацкамі свайго дзяцінства... Быў на ёй і мядзведзь адной з супрацоўніц Нацыянальнай бібліятэкі, якому за шэсцьдзясят гадоў. І спадар Стэфан быў з мядзведзікам — улюбёнай цацкай свайго сына! Было хораша, весела. Шмат пра кнігі і прэзентацыю напісалі беларускія СМІ...

А вось першая з серыі кніжак-карцінак пра Маму Му — «Мама Му чытае» — выйшла ў 2012 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Штораз мяне скараў прыклад Стэфана Эрыксана, які асабіста апекаваўся лёсам шведскіх выданняў для дзяцей па-беларуску.



Кнігі гэтыя — а іх на сённяшні дзень шэсць! — бяруць у палон сэрцы беларускіх чытачоў не толькі праз лаканічнасць і захапляльнасць аповеду, не толькі праз майстэрства мастака-ілюстратара Свэна Нурдквіста, але і дзякуючы яскраваму дзейству, якое вакол кнігі стварае тэатрык «Лямцавая батлейка» Веранікі Фаміной (першы спектакль ладзіўся пры ўдзеле акторкі і рэжысёра Святланы Бень). «Нараджэнне» тэатрыка таксама падтрымала амбасада Швецыі, і вось пастаноўка «Мама Му чытае» дэманструецца падчас другога прыезду Юі Вісландэр у Беларусь. Пасля амбасада Швецыі падтрымае і шэраг гастрольных паездак тэатрыка па Беларусі, і пастаноўку спектакляў па наступных кнігах...

Творы, вакол якіх ствараецца цікавае дзейства, цяжка не любіць! І можна толькі пазайздросціць шведскім аўтарам, якім надаецца столькі ўвагі і аказваецца такая магутная падтрымка! У выніку ёсць і моцная шведская дзіцячая літаратура, і асобы, аўтары.

Гэтыя традыцыі клапатліва пераняў Саюз беларускіх пісьменнікаў. З 2010 года ён ладзіць шэраг майстр-класаў са шведскімі дзіцячымі пісьменнікамі і мастакамі. Прыязджалі да нас і выбітны крытык шведскай дзіцячай літаратуры прафесар Яніна Арлов, і пісьменнік Ульф Старк — прэзентаваць выдадзеную кнігу «Дыктатар»... У серыі «Каляровы ровар» Саюза беларускіх пісьменнікаў пачынаюць выдавацца наступныя цікавыя кнігі сучасных шведскіх аўтараў: «Снежны чалавек» Эвы Сусы і «Найлепшы спявак у свеце» Ульфа Нільсана (у перакладзе А. Башарымавай), «Віта Белая Крэска» Сары Лундберг, «Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды» і «Блінны торт» Свэна Нурдквіста (у перакладзе Н. Кандрусевіч).

Кожны раз выхад шведскай кнігі для дзяцей па-беларуску — незабыўнае, яскравае свята. Традыцыя, закладзеная ў дачыненні да прэзентацыі шведскіх дзіцячых кніг, працуе безадказна. Штораз выхад кнігі суправаджаецца прыездам у Беларусь аўтара. Ладзяцца сустрэчы ў школах, круглыя сталы па пытаннях сучаснай дзіцячай літаратуры, майстар-класы, творы шведскіх пісьменнікаў на імпрэзах чытаюць папулярныя акторы...

І ўсё ж ёсць адно «але», якое вельмі часта азмрачае настрой на такіх святах. Гэтае «але» аніяк не тычыцца шведаў — яны малайцы: далікатныя інтэлегентныя людзі, таленавітыя творцы, якіх падтрымлівае ўласная краіна, а па-за яе межамі — амбасады ды выдавецтвы, якія прасоўваюць сваіх аўтараў і свае кнігі на сусветны рынак.

У мяне ўзнікаюць пытанні да нас, беларусаў. Паралельна з ушанаваннем шведскіх кніг і шведскіх аўтараў у нас паўстае і трывалая традыцыя павальнага шальмавання свайго. «Беларускія пісьменнікі» наогул і «беларускія дзіцячыя пісьменнікі» ў прыватнасці, як і само словазлучэнне «беларуская дзіцячая літаратура», часта гучаць як лаянка ўжо падчас саміх прэзентацый і сустрэч са шведскімі аўтарамі. Даходзіць да таго, што запрашаюць на прэс-канферэнцыю са шведскім калегам беларускіх пісьменнікаў, каб патлумачыць ім, якія яны замшэлыя і адсталыя.

Працытую Эву Сусу пасля яе спатканняў з Беларуссю і беларускімі літаратарамі на сустрэчах і майстр-класах: «Мне бачыцца, таленавітых творцаў у вас шмат. Але беларускія дзіцячыя пісьменнікі жывуць у значна больш складаных умовах, чым мы, і няма той свабоды, якую я маю ў сваёй прафесійнай дзейнасці ў Швецыі. Уражанне, што апроч усяго іншага, ёсць праблемы і з мэтавай групай — усё менш і менш дзяцей гавораць па-беларуску. Да ўсяго, выконваць задачы стварэння і пошуку мэтавай аўдыторыі — гэта вельмі шмат для пісьменніка. Калі я прыязджаю сюды, я стараюся сябе паставіць на месца беларускіх пісьменнікаў і аналізую сваё становішча ў Швецыі — які б лёс быў бы ў мяне, калі б ад мяне чакалася так многа? Я думаю, што дзейнасць пісьменніка найперш палягае ў жаданні і магчымасці праз мастацкае слова данесці сваё адчуванне і ўспрыяцце свету, жыцця... Гэта ўжо — шмат. А яшчэ стаяць на барыкадах, мець нейкую грамадсказначную задачу... Гэта занадта і — дзве розныя рэчы».

Дык вось згадваючы, якімі намаганнямі і з якімі матэрыяльнымі ўкладаннямі, на якім высокім узроўні з боку шведаў замацоўваліся і працягваюць замацоўвацца пазіцыі дзіцячай шведскай кнігі на беларускай прасторы, хачу заўважыць, што нам варта вучыцца любіць не толькі і не столькі іх кнігі, іх літаратуру: не дужа складаны занятак любіць прызнанае, шанаванае, тое, у што ўкладаюцца не малыя сілы і сродкі. Такая любоў — суцэльная асалода!

А вось разумець і бачыць, колькі працы і намаганняў патрабуецца для лакальнай «раскруткі» нават добра вядомых сваіх імёнаў і твораў — варта. Вучыцца ў шведаў прафесійнаму падыходу ў дробязях, стратэгічнаму мысленню, паслядоўнасці ў дзеяннях — і праецыраваць гэта на сваю прастору, на сваю літаратуру. Глядзіш, можа і адшукаецца ў ёй тое, што не сорамна і шведам, і ўсяму свету паказаць.

Вучыцца любові па-шведску, якая вымагае тытанічнай працы, веры ў сілы і поспех таго, чаму служыш.

**Алена Масла**

# Абраннік сонечнага феба

Прадмова да выдання Міхася Стральцова «Выбраныя творы» (Мінск, «Беларуская навука», 2015, серыя «Беларускі кнігазбор»)*

...Каралішчавічы. Не вёска, з якое родам Язэп Пушча, а Дом творчасці і адпачынку пісьменнікаў, што непадалёк ад вёскі. У гэтых Каралішчавічах у лістападзе 1964 года мы і сустрэліся першы раз.

Хто «мы»? Міхась Стральцоў і я. Бо трошкі раней, у доме № 9 па вуліцы Энгельса, дзе месціўся Саюз пісьменнікаў, а ў часе вайны была рэзідэнцыя Вільгельма Кубэ, я пазнаёміўся з двума крышачку старэйшымі хлопцамі. Аднаго — ружавашчокага ды бялява-кучаравага з дробнымі кудзеркамі — звалі Алесем. Калі б ён быў яшчэ кірпаты, круглатвары, невысокі ды пульхны, выглядаў бы як анёлак. Але быў Алесь рослы і меў ледзь не класічны профіль. Алесевага земляка з Бярозаўскага раёна — сімпатычнага, невысокага — звалі Толем, Толікам. Прозвішчы іхныя — Разанаў ды Казловіч. Нас ды яшчэ два дзясяткі старэйшых (а некаторыя нам здаваліся і зусім старымі) паклікалі на нараду маладых — страшна сказаць у шаснаццаць-сямнаццаць гадоў — пісьменнікаў...

Галоўным заняткам на нарадзе былі творчыя семінары: чытанне і разбор вершаў, апавяданняў і да т. п. Тут з намі працавалі рэдактары ды загадчыкі аддзелаў у рэдакцыях часопісаў ды кансультанты СП.

Аддзелам прозы ў «Маладосці» загадваў М. Стральцоў. Тады і там, у Каралішчавічах, мы і пазнаёміліся.

Да восені 1964-га я ўжо ведаў, што ёсць пісьменнік М. Стральцоў, яшчэ малады, не сацрэаліст, бо ў апавяданнях ягоных няма камсамольцаў, партыйцаў, трыбуннасці і лозунгаў. Такая літаратура вабіла мяне.

...я купіў кніжачку «Блакітны вецер». А на паўгода раней — напрадвесні 1964-га — прачытаў у «Маладосці» апавяданне «Сена на асфальце», загаловак якога крытыка ўзяла «на ўзбраенне»: сенам на асфальце пачалі называць учорашніх вяскоўцаў, што ўцяклі ад фінагентаў і калгасных пустапарожніх працадзён у горад. У апавяданні літаральна адным мазком быў напісаны і вобраз фінагента, што здзіраў з вяскоўцаў падаткі, забіраў у іх за нядоімкі дабро. Звалі таго фінагента Куфар. Можна ўявіць, як ён вышуквае ў куфрах нядоімшчыкаў рэчы, прыдатныя для продажу ў гарадскіх камісійных крамах...

«Сена на асфальце» — гэта пакаленне, якое не магло прыжыцца або кепска прыжывалася ў месце. Гэта пакаленне і М. Стральцова, і маё...

Тады і там, у Каралішчавічах, у мяне з М. Стральцовым, здаецца, не было ніякіх літаратурных размоў. Затое ён навучыў мяне гуляць з пушкаю з-пад запалкаў: пакласці пушку этыкеткаю дагары на краёк стала і знізу даць пстрычку; калі, падляцеўшы, пушка ўпадзе этыкеткаю дагары, гульня пераходзіць да твайго партнёра, а калі на этыкетку — 5 пунктаў, на доўгі вузкі кант — 10, на кароткі вузкі кант — 15.



**Пачатак. Міхась Стральцоў і Рыгор Барадулін.** Фота з сямейнага архіва

Хударлявы, светлагаловы, з трохі хвалістымі валасамі, шляхетна белатвары М. Стральцоў меў нягучны голас. Не прамоўца. Мог нешта казаць, казаць лагічна, паслядоўна, адале збіцца з тэмпу, нібыта збянтэжыцца і ўжо гаварыць больш самому сабе, каб змоўкнуць.

Яго турбавала адвечная праблема адэкватнасці, сумеру думкі і слова, пачуцця і слова, праблема правільнага разумення ды інтэрпрэтацыі выказвання суразмоўцам. Калі падчас размовы не знаходзіў патрэбнага вызначэння ці параўнання, бянтэжыўся. Гэтым я тлумачу ягоную пэўную скаванасць у дыялогу. Гэтым я часткова тлумачу і непладавітасць, неразмашыстасць Стральцова-празаіка, Стральцова-крытыка.

Я не мог яшчэ сфармуляваць, але інтуіцыя мне падказвала, што пісьменніцтва для Стральцова — справа інтымная, духоўная. Але разам з тым і грамадская. Не ў тым вульгарным разуменні гэтага слова, што мастак, маўляў, павінен служыць грамадству, вызнаваць прынцыпы партыйнасці і народнасці, а грамадская ў тым значэнні, што Стральцоў служыў слову...

Яшчэ да асабістае сустрэчы з М. Стральцовым я ўжо вёў дыялог з ім.

Так здарылася, што кожны празаічны твор М. Стральцова, напісаны ў 1965–1973 гадах, быў (прынамсі для нас, маладзейшых) падзеяй.

«Свет Іванавіч, былы донжуан»... Апавяданне з'явілася ў «Маладосці» пад канец 1965-га. Ужо не было Хрушчова. Патыхала палітычнымі замаразкамі. Вось-вось на лаву падсудных пойдуць Андрэй Сіняўскі і Юлі Даніэль, а з Масквы прагоняць Алеся Адамовіча.

У гэтым апавяданні вабіла фронда. І тая галантнасць, дасціпнасць, з якою яна была прадэманстравана.

Зноў чытаю тыя радкі — і ахоплівае журба. Гэта не толькі пра пакаленне, што нарадзілася да вайны. Гэта і пра нашае, на дзесяць–дванаццаць гадоў маладзейшае за Стральцова. Тады прыўзнялася «жалезная заслона». Пасля Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве (1957) з'явіліся «стылягі». Катастрафічна вузелі штаны не толькі ў кавалераў, але і ў нас, падшпаркаў. А ў дзевак — спадніцы...

Мы прыйшлі ў самастойнае жыццё, калі насталі замаразкі і маразм, але ў нас быў ужо сякі-такі набытак, але «жалезную заслону» ўжо нельга было апусціць дарэшты, а побач з намі былі старэйшыя — і аднадумцы, і суддзі. ...мы тым часам прачытаем аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь» са свабоднымі вершамі на пачатку і ў канцы твора і з малітваю дзеда Міхалкі ў пятым раздзеле. Я і цяпер не магу знайсці адказу на пытанне: як яе, тую малітву, прапусцілі ў друк? Пачытайце яе — гэта сапраўды хрысціянства. Мо я памыляюся, але мне здаецца, што гэтая малітва можа быць самастойным творам. Ва ўсякім разе я не сустракаў у найноўшай беларускай літаратуры твора, роўнага ёй, такога камернага, інтымнага дыялогу чалавека (кроплі хваляў) з Богам. «Магутны Божа» Наталлі Арсенневай надаецца для калектыўнага, харавога выканання, бо там просім мы для нас, для Беларусі, а тут чалавек, выспавядаўшыся Богу, просіць для сваіх унука-сіраты, дачкі-ўдавы і жонкі. Для сябе — адно «Даруй мне, божа...»

Пакаленне тых хлопцаў, што адпускалі доўгія валасы і падымалі каўняры куртак ды пінжакоў, расло без рэлігіі, было ў пераважнай большасці сваёй атэістычным. І Стральцоў быў у ім ці не адзіным празаікам, хто пэўным чынам пераадолеў уплыў атэістычнае школы, камсамолу, партыі.

Жыццё складвалася так, як складвалася. Пераадольванне ўплыву школы, камсамолу і партыі, мусіць, не магло пачацца раней, чым пачалося. Юны М. Стральцоў верыў у Сталіна. Першы надрукаваны ягоны твор меў загаловак «Товарищу Сталину». Аўтару тады, у 1952-м, было пятнаццаць гадоў. Але «недзе на трэцім курсе» ён (а ў Свет Іванавічу, ведама ж, нямала ёсць ад аўтара) не толькі «адпусціў доўгія валасы» і «падняў каўнер курткі». У ягонай свядомасці адбываецца пераварот. На трэці курс М. Стральцоў пайшоў пасля XX з'езду КПСС, пасля пачутага на камсамольскім (ці партыйна-камсамольскім) сходзе закрытага пісьма ЦК КПСС пра культ асобы Сталіна, пасля адпаведнае пастановы ЦК.

Стральцоў адыходзіць і ад бальшавіцкае ідэалогіі, і ад спароджанай ёю эстэтыкі сацрэалізму. Ён шукае іншую эстэтыку, і дзеля гэтага чытае французскія раманы і замежныя раманы наагул.

...Ён не быў у ліку шумных франдзёраў канца 50-х — пачатку 60-х, ён не ўступіў у КПСС і не стаў сацрэалістам.

З другое паловы 60-х я пачаў раўнаваць Стральцова. Да паэзіі. Ніяк не мог пагадзіцца, што ён яшчэ і паэт. Нават і сказаць не магу, хто з добрых празаікаў пераходзіў у паэты. А тут чалавек пачаў пісаць рыфмаваныя тэксты... Мо да яго стасуюцца перайначаныя словы Ганны Ахматавай: «Паэзія заўсёды здавалася мне і таямніцай і спакусай»? А мо потребовал поэта к священной жертве Апполон? А мо яго чытанне Багдановічавых вершаў натхніла? Шкадую, не папытаўся.

Так і не ведаю адказу: Багдановіч натхніў Стральцова пісаць вершы ці так само па сабе атрымалася. Адно магу сказаць: стральцоўская «Загадка Багдановіча» спрычынілася да рэнесансу Багдановічавай паэзіі.

Тое, што Стральцоў піша вершы, настройвала на мінорны лад. А тое, што ў адным годзе ўбачылі свет і паэтычны зборнік «Ядлоўцавы куст», і апавяданне «Смаленне вепрука», падказвала мне, што празаік Стральцоў больш нічога не напіша. Дарма кружлялі чуткі пра аповесць «Конь гуляў на волі», якую нібыта піша Міхась Лявонавіч. Чытаючы «Смаленне вепрука», бліскучае апавяданне, жанр якога сам аўтар вызначыў як «эпітафію апавяданню», я ўнутрана — нават у грудзёх зашчымела — зразумеў: круг замкнуўся. Не хацелася верыць прадчуванню. Кволая надзея яшчэ была. Не ў аднаго мяне. Быў жа ў Стральцова-паэта радок «Люблю я прозы дух цвярозы»...

**Стральцоў адыходзіць і ад бальшавіцкае ідэалогіі, і ад спароджанай ёю эстэтыкі сацрэалізму. Ён шукае іншую эстэтыку, і дзеля гэтага чытае французскія раманы і замежныя раманы наагул**

З 1973 года перанясуся амаль на дзесяць гадоў наперад — у 1982 год.

Пінск. У гатэлі «Прыпяць», у нумары, у якім спыніўся Уладзімір Калеснік, сабралася немаленькая грамада беларускіх ды ўкраінскіх літаратараў, якія прыехалі на святкаванне 100-х угодкаў з дня нараджэння Якуба Коласа. Была і чарка. Узнікла нагода пагаманіць і пра тое, чаму не адзін пісьменнік меў такую слабасць — выпіваць на шкоду свайму здароўю, творчасці, дабрабыту. Дацэнт Калеснік, спасылаючыся на прыклад Міхася Рудкоўскага, генералізаваў ды выводзіў прычыну гэтага з'явішча з таго, што чалавек, бачачы прорву паміж належным і рэальным, не можа прыстасавацца да гэтага рэальнага. Адсюль я рабіў выснову, што такі чалавек не мог стаць і не быў маральным рэлятывістам: не меў аднае маралі ў адных выпадках і іншае — у іншых. Але гэты чалавек і не змагар, не прапаведнік. Бачачы разрыў паміж належным і сапраўдным, ён не фармулюе палітычных, эканамічных, сацыяльных ідэяў, не кліча да змагання за іх здзяйсненне. Дацэнт Калеснік даў зразумець: былі б іншыя магчымасці для самарэалізацыі чалавека, мажліва, больш спрыяльна склаўся б і ягоны асабісты лёс.

У 1982-м Стральцоў быў там — у Мазыры, у ЛТП (абыдземся расійскаю абрэвіятураю словаў «лячэбна-працоўны прафілакторый»).

Вестка пра тое, што Стральцоў там, не прагучала для мяне навіною...

Мусіць, першасная бяда Стральцова была ў тым, што ён не мог адмовіць напорыстым аўтарам. І рабіў з іх пісьменнікаў, г. зн. перапісваў іхнія тэксты. Мне называлі імёны тых людзей. Тыя людзі — Брыль з іншае трагічнае прычыны назваў іх памочнікамі (у сэнсе: памочнікі смерці) — дзякавалі свайму рэдактару.

Ведама, апынуўшыся на «вольным хлебе», стаўшы «вольным мастаком», можна было пражыць і літаратурнымі заробкамі, але пры трох умовах: што ты шмат пішаш, што ў цябе выходзяць кніжкі, што ты жывеш сціпла. У час «вольнага мастакоўства» (бяру 1973–1980 гг.) у Стральцова выйшлі тры арыгінальныя зборнікі паэзіі і крытыкі («Ядлоўцавы куст», «У полі зроку», «Цень ад вясла») і кніга выбранага «У чаканні радасці». І ў перакладах нешта было. Быццам і няблага, але...

Другая палавіна 70-х. 1977 ці 1978 год. (У «ЛіМе» — Асіпенка. Газета аджывае, і ўжо можна зайсці ў рэдакцыю. Да гэтага і прывязваецца дата.) Славуты «подыум» — узвышэнне, з якога пачынаецца шлях у калідоры «ЛіМа», «Беларусі» і «Полымя». Ці не пяць літаратурных нікчэмнасцяў і іхні дабрадзей Стральцоў. Усе яны, нават малодшы за мяне ці не на дзесяць гадоў П., з ім на «ты». І гэтае Міша...

І собіла ж мне са Стральцовым на іх натрапіць!.. Акружылі Міхася Лявонавіча, гаворка адразу ж пайшла пра адно. Я не магу і не хачу бачыць Міхася Лявонавіча ў застоллі з гэтымі людзьмі, у кепскім стане, а

таму паціхеньку сыходжу. Не развітваючыся. І не мецьму з ім кантактаў да 1982 года.

І вось 1982-гі, і мы размаўляем у гасцінічным нумары Уладзіміра Калесніка. А потым я адкрыю для сябе, што ў Стральцова папросту не было сябра. Не было душэўнага сябра. Што ён, кажучы словамі дзеда Міхалкі, быў сіратою між людзей.

Жахлівая сітуацыя: ёсць кампанія — і няма сяброў, ёсць размовы, выпіўкі — і няма бяседаў. Не было каму пастаяць каля душы. Не было каму сяброўскім словам накіраваць, як кажуць, на шлях ісціны і падтрымаць на гэтым шляху. Чалавек застаўся адзін…

Было яно гэтак. Генадзь Пашкоў выпусціў зборнік сваіх вершаў і вельмі хацеў, каб у «ЛіМе» з'явілася рэцэнзія на яго. Добрая рэцэнзія. І за рэцэнзента ён абраў сабе М. Стральцова. Было ў яго такое спадзяванне, і жаданне, і, мусіць, дамоўленасць была, што Стральцоў напіша. І ўсё «даставаў» ён нас, лімаўцаў: калі? Галоўны рэдактар тыднёвіка Алесь Жук сказаў, каб я напісаў адпаведны ліст Стральцову. Туды. І я такі ліст напісаў (хто даў той мазырскі адрас — не памятаю; магчыма, так і сказалі: Мазыр, ЛТП, Стральцову). Алесь Пісьмянкоў, з якім я разам працаваў у аддзеле крытыкі і бібліяграфіі, прасіў перадаць Міхасю Лявонавічу прывітанне. І я склаў ліст ад нас абодвух. Звычайны ліст-заказ аўтару. Незвычайнае ў ім толькі тое, што аўтары яго — абодва супрацоўнікі аддзела. Мы разумелі, што гэта не проста ліст-заказ, а пэўным чынам — дэманстрацыя салідарнасці і спагады.

Адказ прыйшоў 19 траўня 1982 года. Рэцэнзіі не было — быў ліст, і былі вершы. Усё змесціва канверта сакратарка рэдакцыі Тамара Нікіціна пазначыла нумарамі 1367—1371, а на лісце, адрасаваным мне з Пісьмянковым, Алесь Жук напісаў рэзалюцыю: «Скажыце Міхасю сваю думку пра яго вершы… Я іх надрукую». Алесь намякаў: пахваліце Стральцу (такая была мянушка ў Міхася Лявонавіча) ягоныя вершы.

Ці трэба казаць, што той аркуш-ліст з рэзалюцыяй я ў Тамары выпрасіў?

Цяпер мушу прызнацца як на споведзі: да таго дня, да 19 траўня 1982 года, я не прачытаў аніводнага верша паэта М. Стральцова ад пачатку да канца. Матыў просты: любячы празаіка і крытыка Стральцова, я баяўся расчаравацца ў Стральцове-паэце. Дый рэўнасць да паэзіі. Такі псіхалагічны суплёт…

19 траўня 1982 года я мусіў прачытаць дасланыя вершы. Прачытаў. І Пісьмянок прачытаў. Пісьмянок быў захоплена-ўзрадаваны (не equal перавёўся порах у парахаўніцы!), я — задаволены: добрыя вершы, не давялося расчаравацца. Вось з гэтым набыткам я пайшоў да стральцоўскага аднакурсніка і спачувальніка, намесніка галоўнага рэдактара Міколы Гіля. Тым болей, што сам Міхась Лявонавіч прасіў паказаць ягоныя творы Гілю. Настрой у мяне быў радасны, мне хацелася жартаваць, а таму я звярнуўся да Міколы па-расійску (а мог бы і па-польску):

— Николай Семенович, тут у меня написались стишата. Послушайте. Может, в них есть толк. Вот…

Што я чытаў? «Два подступы да верша», «Экспромт», «Міцкевіч на Беларусі», «Пара асвойваць і прагрэс…», «Хоць ад пары, калі мяне…»? Дальбог, не памятаю. У мяне быў добры настрой, я чытаў добры верш, у мяне быў уважлівы, удзячны слухач. І гэта было галоўнае.

Калі я скончыў чытанне, Мікола сказаў:

— Здаецца мне, Анатоль Міхайлавіч, што гэты верш напісаў не ты, а хтосьці іншы. Ці не Міхась Лявонавіч Стральцоў?

— Мікола! — у здзіўленні выгукнуў я. — Як ты здагадаўся?

І мы загаманілі пра Міхася Лявонавіча…

Стральцоўскія вершы (названыя вышэй) былі апублікаваныя 6 жніўня. Наш фотакарэспандэнт, фоталетапісец літаратуры і мастацтва Беларусі Уладзімір Андрэевіч Крук дзеля гэтае публікацыі дастаў са свайго архіва фота маладога, прыгажэннага — абраннік сонечнага Феба! — Міхася Стральцова. Вера Сямёнаўна Палтаран была ў захапленні ад тае публікацыі. Слова «прыгажэнны» — ейнае. (А мо яна сказала харашэнны?)



Янка Брыль, Мікола Аўрамчык і Міхась Стральцоў. Дом літаратара, Мінск

А публікацыі стральцоўскіх вершаў у «Полымі», пра якія аўтар турбаваўся ў лістах да Пісьмянка і да мяне, у 1982 годзе не было. Яна з'явілася там ці не ўвесну наступнага года, калі, зарабіўшы «на дарогу ды на штаны», пісьменнік вярнуўся ў Менск…

А хада падзей была такая. Недзе ў канцы 1983-га ці на пачатку 1984-га, недзе праз год па вяртанні Міхася Лявонавіча адтуль, быў у Саюзе пісьменнікаў адкрыты партыйны сход, на якім па абавязку службы прысутнічаў і я. Памятаю, як Віктар Карамазаў (ён быў сакратаром партбюро) упікнуў кіраўніцтва часопіса «Полымя»: у рэдакцыі ёсць вакантнае месца ў аддзеле крытыкі, а добры крытык Стральцоў ходзіць без працы. Слова ўзяў намеснік галоўнага рэдактара «Полымя» Генадзь Пашкоў і сказаў такое: мы з павагай ставіліся да Мішы і тады, калі ён піў, і зараз яго паважаем… У зале ўсталявалася цішыня, трывожлівая, напятая. Генадзь зразумеў, што сказаў не тое, што ляпнуў. Заірдзеўся і збіўся (а так добра пачаў!). Скончыў тэму словамі накшталт: мы не супраць, уладкуем.

Генадзь не падумаў пра маштабы творчае асобы Стральцова і Пашкова. І проста асобы — таксама. Гэтыя Міша і піў, прамоўленыя з трыбуны, зала ўспрыняла як абразу. Так я зразумеў тую напятую цішыню. І парадаваўся за Міхася Лявонавіча: калегі паважаюць яго.

Не вытанцавалася ў М. Стральцова рэцэнзія на кнігу Генадзя Пашкова. Не натхніўся крытык. Але ж і не пайшоў Стральцоў працаваць у «Полымя». Неўзабаве ён стаў загадчык аддзелам у «Нёмане». Анатоль Кудравец прыняў яго адразу ж, як адкрылася вакансія…

Мы — сябры, таварышы, прыяцелі — ледзь не маліліся: хаця б устаяў, не сарваўся.

Калі Міхась Лявонавіч быў там, маладыя літаратары на сустрэчы з Янкам Брылём спыталіся, як ён глядзіць на стральцоўскую праблему. «Міхась — мой боль», — адказаў класік, і аўдыторыя, было відаць, падзяляла ягоныя пачуцці.

Калі Міхась Лявонавіч вярнуўся, мы баяліся ў ягонай прысутнасці прамовіць словы «гарэлка», «віно», «выпіўка» і г. д…

Хто зрабіў той здымак, якім адкрываецца кніга выбраных твораў М. Стральцова (1987), які змешчаны і ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», і ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»? Здымак сталага чалавека, які нямала перажыў і перадумаў, чалавека з глыбокаю складкаю паміж бровамі. І чалавека, які ўсё ж здольны ўсміхнуцца вясёлаю ўсмешкаю.

Усё складвалася добра.

Была праца. Была павага калегаў. Былі добразычлівыя і душэўныя сябры.

У тую пару я ўжо не абмінаў стральцоўскія вершы, чытаў іх уважліва. Чытаў і напісаныя раней. А ў глыбіні, ці не ў падсвядомасці, было: ці вернецца Міхась Лявонавіч да прозы?

Нельга было не радавацца творчым поспехам Стральцова. На пачатку 1986 года Міхась Лявонавіч падпісаў мне свой новы, цудоўна аздоблены зборнік — «Мой свеце ясны». Калі падпісваў яго, я сказаў: прэмія імя Аркадзя Куляшова кнізе гарантаваная. «А дзяржаўная, Купалаўская?» — спытаўся паэт у мяне. «Дык нібыта спачатку Куляшоўская ідзе…» Вось не памятаю дакладна, што сказаў Міхась Лявонавіч, але выказаўся ён у тым сэнсе, што «Мой свеце ясны» — той выпадак, калі магчымае выключэнне з правілаў.

Цяпер, калі чытаю зборнік, бачу: сапраўды, ён — выключэнне. У паэтычным патоку таго часу ягоны зборнік вылучаўся роздумам пра вечныя загадкі быцця. Ведама, чалавек, паэт не можа не пытацца ў сябе: што будзе потым? Здаецца, і адказ маецца («…болей чым імгненне не прыме вечнасць ад цябе»), але ж нешта і не дае спакою: і «непрыкметна, спакваля расце і шырыцца трывога», і «скаланецца раптам сэрца, ліхой збаяўшыся мяжы». Хоць і не верыцца зусім «у тое наша адцвітанне», але апаноўваюць сумлевы: «Вось год мінуў. Яшчэ міне?» І як бы там ні было, «ужо і сэрца абняла, і пранізала тайны сіла».

Ці было ў тых вершах прадчуванне? Няма ў мяне адказу. Гэта цяпер я такое пытанне фармулюю, а тады, у 1986-м, такія матывы ў стральцоўскай паэзіі ўспрымаліся як філасофская лірыка.

У студзені 1986 года выйшаў зборнік вершаў, а недзе праз месяц у друк была падпісаная яго кніжка крытыкі і эсэ «Пячатка майстра». А яшчэ Міхасю Лявонавічу належала ўкласці кнігу выбранага: набліжаліся пяцідзясятыя ўгодкі, і паводле звычаю належала падсумаваць зробленае. Напачатку меркавалася, што гэта будзе двухтомнік. Але на двух- ці шматтомнік патрабаваліся ўзгадненні ў шмат якіх інстанцыях. Інстанцыі ж вырашылі, што Стральцоў да двухтомніка «не даспеў».

І ўсё ж, нягледзячы на дробныя прыкрасці, у сярэдзіне 1980-х Міхась Лявонавіч меў прыемны клопат: чытаў карэктуру аднае кнігі, чакаў карэктуру другое і рыхтаваў для выдавецтва трэцюю. І думаў — не мог не думаць — пра наступныя.

І ў асабістым жыцці ўсё складвалася нязгорш. Здаецца, спраўджвалася тое, пра што пісаў сам Стральцоў:

*А будзе час, калі і без нагоды,*
*А проста так, ад шчодрасці быцця,*
*Успомняцца ранейшыя нягоды*
*Раней нязнанай мерай пачуцця.*
*І тое, што ўсё некалі балела*
*І што гняло варожай варажбой,*
*Падасца смуткам — скрухай пераспелай,*
*А ўвогуле — харошаю журбой.*

«Пры ўсёй складанасці іхніх адносін яна яму патрэбна была вельмі…» Гэта — зноў цытата з Брыля. Гаворка — пра жонку Міхася Стральцова, пра Лену. Цешыла Міхася Лявонавіча меншая дачушка, Алеся. Бацьку за сорак пяць, а яна — малая (Кнопкаю называў). У такім узросце бацька ўжо па-дзедаўску мудры, ведае псіхалогію маленькага чалавека, умее з ім паразумецца.

…Ад каго я пачуў пра хваробу М. Стральцова? Ці не ад Карласа Шэрмана? Ці ад Віктара Карамазава? «Цяжка гэта — ілгаць замоўчваннем блізкаму чалавеку… пра хваробу». Цытата з Брыля. Сябры замоўчваюць, родныя — кажуць няпраўду, а яны, хворыя, «калі не ведаюць, дык здагадваюцца пра сваю асуджанасць». Ды як не здагадвацца? Адно слова «Бараўляны» можа каторага забіць. Бо ў рэшце рэшт дактары вымушаныя будуць сказаць: «Вам трэба легчы на абследаванне». Яны ўжо напэўна ведаюць дыягназ, і гэтае «абследаванне» гучыць для супакаення: маўляў, нічога страшнага пакуль яшчэ няма.

Гэтае журботнае падарожжа ў Бараўляны з Алаю Сямёнавай і Карласам. Мы ведаем дыягназ: рак страватода. Прычыны? А хто ведае прычыны? Мо і курэнне (маглі мы напусціць поўны кабінет дыму; з форткі, як з коміна, ішоў).

Стральцоўская ўсмешка (няўжо ён не ведае праўды?). І мы, удавана бадзёранькія. Ага, Карлас узяў з сабою фотаапарат. Па ўсмешцы відаць: яшчэ кволіцца надзея.

А потым Карлас паведаміць мне пра аперацыю і пра ўскладненне пасля яе. Медыкі ў такіх выпадках кажуць, што аперацыю рабілі нямытымі рукамі. Быў занесены нейкі кок. Патрабаваліся і моцныя антыбіётыкі, і інтэнсіўная тэрапія. Неабходна было лячыць ад дзвюх хвароб адразу…

24 жніўня 1987 года Янка Брыль і я ішлі па вуліцы Румянцава. І тут, амаль ля Саюза журналістаў, адбылася прызначаная сустрэча Брыля з жонкаю Стральцова. Я першы раз бачыў яе. Яна казала, у які касцюм адзене Міхася Лявонавіча, ягонае цела… Казала, што развітанне будзе заўтра і што будзе яно нядоўгае, бо занесеная інфекцыя такая, што нельга, каб цела больш працяглы час ляжала ў нармальных — пакаёвых — умовах.

…Раніцай у дзень пахавання я зразумеў, што мне лепш не ісці на грамадзянскую паніхіду. Мне не хацелася бачыць памочнікаў, якія — я гэта ведаў — абавязкова прыйдуць, каб вынесці Мішу. Але, мусіць, я больш баяўся бачыць мёртвага Міхася Стральцова.

Міхась Стральцоў застаўся ў маёй памяці жывым.

**Анатоль Сідарэвіч**

* **Друкуецца ў скароце**

# Пяснярка паталагічнага кахання: Марыя Роўда

**Запозненая дэбютная кніга, не важна — прозы ці паэзіі, у нечым заўсёды мае падабенства з аднатомным зборам твораў. Ледзь не акадэмічным — з рубрыкацыяй, храналагічным прынцыпам падачы матэрыялу і падрадковымі каментарамі, якія хочацца падаць, але не дазваляе прыжыццёвы статус выдання.**




Таму падрадковы каментар ператвараецца ў падтэкставы, расчытваючы які крытык можа па-свойму сканструяваць адцінкі «жыццёвага і творчага шляху імярэка». Сёння мы маем магчымасць не тыцкаць пальцам у неба, а наўпрост задаць пытанні Марыі Роўдзе — аўтарцы грунтоўнай дэбютнай кнігі прозы «Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі». Яна нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор» у Бібліятэчцы Саюза беларускіх пісьменнікаў.

***— Марыя, як так сталася, што пасля прыкметных выхадаў на публіку ў 1990-х і пачатку 2000-х у «НН» і «ARCHE» Вас выкінула на ўзбочыну літаратурнага жыцця? Бадай, не памылюся, калі скажу, што імя Вашае староннняму чытачу беларускай прозы — а нават і больш-менш абазнанаму — не скажа нічога. Гэта быў свядомы выбар шуфляднага пісьма ці непрыняцце глыбаў і слаёў тагачаснага літпрацэсу — што?***

— Шмат што ўплывала, змяняўся перш за ўсё сам стыль. Найперш гэта была лірычная проза, потым мне стала цікава пісаць нешта псіхалагічна завостранае, потым нешта сатырычна-крытычнае. Пасля была вучоба ў аспірантуры, напісанне і абарона дысертацыі, што надоўга зацягнулася, выкладанне ў Лінгвістычным універсітэце. Урэшце, я выйшла ў дэкрэтны адпачынак, гадавала дзіцяця. Хаця, трэба сказаць, што дзеці хутчэй дапамагаюць пісаць, чым перашкаджаюць. Бо ты сядзіш дома, фактычна нікуды не выходзіш, у цябе строгі рэжым, а калі ты на працы, то з'яўляецца тысяча розных спраў, зацікаўленасцяў…

***— Так ці інакш, кніга выйшла. Бібліяграфію Вашых публікацый пакуль скласці няпроста. Можа, прасвяціце тады: наколькі творы, тут змешчаныя, вядомыя з газет ці часопісаў. Ці, па-іншаму сказаўшы, у якой ступені кніга будзе нечаканай для чытача, які ведаў вас у 90-я? Шмат ён знойдзе новага?***

— Я думаю, што кніга будзе даволі новай для яго. Напрыклад, з трох аповесцяў дзве нідзе абсалютна не друкаваліся. Апошнія апавяданні, пачынаючы з «Ваўкалака» і далей па змесце — таксама новыя рэчы. Мне падаецца, менавіта ў іх з'яўляюцца зусім новыя для мяне аспекты. Калі ў ранніх апавяданнях гэта быў хутчэй пошук сябе праз каханне, пошук таго, як і ў чым мне рэалізавацца, то ў гэтых аповедах асноўнае — як я сумяшчаюся з гэтым соцыумам, што мяне прываблівае, што мне ў ім не падабаецца; тут маё месца ці мне трэба некуды адсюль уцякаць; як мяняецца горад, мяняецца жыццё, людзі? У кнізе тры мадэлі свету, якія пераходзяць адна ў адну і змяняюцца разам са мной з 1990-х у 2010-ыя: лірычна-філасофская, сацыяльна-псіхалагічная… Што мяне цяпер хвалюе найбольш — ужо нешта зусім новае. Цяпер мне хочацца ведаць, чаму ўсё так сталася. І дзе мае карані.

Напрыклад, у аповесці «Чорная лінія» я ў пэўнай ступені мадэлюю свет герояў — якім ён быў і якім ён мог бы стаць. Напрыклад, тыя выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі, пра якіх я пішу: нехта з іх застаўся ў гісторыі Беларусі, іх усе ведаюць, нехта быў рэпрэсаваны, нехта загінуў на вайне, хтосьці з'ехаў у эміграцыю. Але пра шмат каго з іх мы не ведаем наогул нічога.

***— Храналагічна творы ідуць ад 1993 да 2015 года. Прамежак часу ў 22 гады, выдатковы на адну кнігу. Цяпер шмат гаворыцца пра гендэрны складнік у літаратуры, пра тое, ці магчымая жаночая проза як такая. Ці чыталі вы, чакаючы выхаду сваёй кнігі, апавяданні Евы Вежнавец, напрыклад, альбо арыентаваліся, можа, на аповесці Алены Брава, з тым жа моцным псіхалагічным фактарам напісання? Ці адчувалі сябе часткай жаночага літаратурнага працэсу тады і ці адчуваеце цяпер?***

— Цяжка гаварыць пра ўплывы, да таго ж не скажу, што я чытаю ўсю беларускую літаратуру. Я вельмі паважаю творы Евы Вежнавец, але хутчэй ведаю яе па ранніх публікацыях і мала што магу распавесці пра яе найноўшую прозу. Значна больш на мяне паўплывала Сью Таўнсэнд, я б пра гэта гаварыла больш ахвотна.


Фота Ц.Чарнякевіча

Жанчына-гераіня мне цікавая найбольш праз аналіз псіхалогіі. Калі будзе сацыяльная крытыка, то абавязкова з іроніяй. Я гляджу: вось ёсць такі чалавек, вось такі характар, лёс развіваецца пэўным чынам: выйшла дзяўчына замуж ці не выйшла, напрыклад. Муж, сям'я, дом — тыповая гісторыя. Што яна ў гэтым знаходзіць ці не знаходзіць? Як на яе ўплывае гэтая сітуацыя альбо не ўплывае? Атрымлівае яна сваю самарэалізацыю ў гэтым як чалавек ці не, у якіх момантах? Тады атрымліваецца тое люстэрка, у якое можна глядзецца. Альбо чорна-белая фатаграфія, якую можна разглядаць і чытаць характар, не адхіляючыся на колер.

***— Як пачынаеш чытаць ад найранейшых тэкстаў — апавяданняў першай яшчэ паловы 1990-х — і пакрысе рухаешся далей, то міжволі адчуваеш змены ў метадзе пісьма. Можна сказаць, гэта паступовы сыход ад ускладненага мадэрнісцкага сінестэтычнага пісьма, з далейшым паглыбленнем у рэфлексію, за якой досыць цяжка бывае ўпільнавацца. Аповесці нядаўнія — гэта хутчэй сямейная сага — родавыя паданні, фамільнае дрэва. З чым у літаратуры сама сябе звязваеце, з якімі «сусветнымі фамільнымі дрэвамі»?***

— Пачалося гэта з Ліцэя пры БДУ. Там добра вывучалася літаратура, на той час — згубленая, схаваная, страчаная, якая вярталася ў першай палове 1990-х. Потым быў Лінгвістычны ўніверсітэт, проста шыкоўныя курсы англійскай літаратуры. Гэта быў і Моэм, і Вірджынія Вулф, і Фаўлз, і Джойс. Дыплом я пісала па Джойсе. Тады нават думалася: нашто пісаць, калі ўсё ўжо напісана, усе словы пахапалі і няма чым новым карыстацца. Напачатку мне было важна спрабаваць пісаць так, як не пісалі іншыя. Ужывіцца ў тэкст, у характар, недзе ўжыць замест дзеяслова метафарычнае дзеянне, ствараць карціну асобнымі фарбамі, калі параўноўваць ужо з выяўленчым мастацтвам. Таму тут былі важныя і мадэрністы, і мастакі. Я цяпер думаю пра Селешчука, Бушчыка, вось такі метад…

***— Калі кажаце «не пісаць так, як іншыя», то гаворыце пра сусветную літаратуру ці ўсё ж пра беларускае пісьменства 1980-х — 1990-х?***

— Хутчэй пра літаратуру наогул. Што да беларускіх аўтараў, то на той момант я вельмі паважала Васіля Быкава, які й цяпер стаіць для мяне побач з Сартрам. Я думаю, што гэта прыкладна той самы ўзровень. Для беларускай літаратуры вялікі гонар, што ёсць такі аўтар. Потым Янка Брыль, які па мастацкіх сродках, па адважнасці, па псіхалагізме таксама неперавызыдзены аўтар. Гэта і Міхась Стральцоў, які і новыя тэмы ўводзіць, і ставіць новыя пытанні, напрыклад: хто я — мастак ці рамеснік?

Якраз у ліцэі я прачытала апавяданне «Швэдар» Уладзіміра Сцяпана. Уразілася. Маўляў, нічога сабе, і ў нас ёсць літаратура з чалавечым тварам. Ну і потым быў Глобус. Не было раней інтэрнэту, мабільных тэлефонаў, нічога, толькі кнігі…

Калі гаварыць пра беларускасць, то ў мяне ніякіх пытанняў не паўстае. Я яе бачыла. Бачыла тагачасных гарадскіх аўтараў, мы сустракаліся, размаўлялі па-беларуску. Зрэшты, і ў сям'і гэта было натуральным. Мой дзед, дырыжор Віктар Роўда, вучыўся ў Вільні да вайны, а бабуля Соф'я Ваяводская, ягоная жонка, наогул скончыла Віленскую беларускую гімназію. Яны і паміж сабой размаўлялі на некалькіх мовах — па-беларуску, па-руску, па-літоўску, па-польску, а калі высвятлялі адносіны, то пераходзілі на лаціну, каб мы іх не зразумелі і не наслухаліся чаго.

***— Цяпер дэбютных кніжак выходзіць нямала, ёсць нават прэстыжная грашовая прэмія імя Максіма Багдановіча. Для часоў вашага першага прарыву ў літаратуру, на пачатку 90-х, гэтак падтрымліваць зусім маладых аўтараў было не прынята. Тым не менш, у 18 гадоў вам удалося надрукавацца ў дубаўцоўскай «Нашай Ніве». Можа, распавядзеце, як гэтак атрымалася?***

— Атрымалася выпадкова і містычна. Тады мы сябравалі з Севярынам Квяткоўскім, у ягонага бацькі Алеся Квяткоўскага я займалася жывапісам. У нас была вясёлая кампанія, і Севярын тады пастаянна рэкламаваў «Нашу Ніву», усюды з ёю хадзіў, таму і я пачала за ім чытаць. Трэба было хадзіць на праспект, там стаяў знакаміты шапік, дзе прадавалася беларуская літаратура, газеты. Гэта быў цэлы рытуал — прыйсці на праспект і купіць новую «Нашу Ніву».

І вось я напісала апавяданне «Вырві гэта з мяне». Не ведаю, што мяне падбухторыла, але ўзяла і даслала яго на адрас «Нашай Нівы», без фатаграфіі, без якіх звестак пра сябе. Была вясна 1993 года, ніякага водгуку не сталася, ды я ўжо і забылася на гэта. І вось неяк увосень ідзем мы з сяброўкай, рытуальна купляем «Нашу Ніву», між іншым, для таго, каб пачытаць новы артыкул Севярына Квяткоўскага. І вось я разгарнула газету, чытаю Севярына, і тут мне сяброўка кажа: «Слухай, а Марыя Роўда — гэта не ты?» — «Ну так, так, я» — «Дык а «Вырві гэта з мяне» ты напісала?» — «Ну, я, я, а чаму ты пытаешся?» — «Дык ты ж на першай старонцы!»

***— Хвіліна славы!***

— Так, сапраўды. Гэта быў аванс на будучыню. Вельмі здорава, калі ёсць людзі, якія падтрымаюць на самым пачатку. Скажам, гледзячы на цяперашніх 30-гадовых, бачыш, што з'явіўся цэлы пласт людзей, і яны ўжо настолькі шмат зрабілі, выдалі кнігі. І ўсё гэта якасныя рэчы, няма прахадных тэкстаў. Гэта вельмі радуе, вялікая праца робіцца.

***— Цяпер, пасля выдання «Клінічнага выпадку», грунтоўнага, можна сказаць, вычарпальнага падагульнення, чым жыве Марыя Роўда? Ці пішацца штосьці?***

— Новае пішацца. Магчыма, у выніку будзе нешта буйнафарматнае, прынамсі пакуль што разрастаецца і разрастаецца. Ідэя такая: з цудоўнага стварэння, дзяўчынкі-Зосі коласаўскай, вырастае постсавецкая пачвара-жанчына. Як гэта ўсё атрымліваецца? Як такое наогул можа быць? Мы забываем часта праблему эмацыйнага гвалту — тое, што нельга толкам спраўдзіць, тое, пра што цяжка бывае расказаць у судзе. У чым прычына эмацыйнага гвалту: у соцыуме, у гісторыі, у радавода? Можа, засталіся ў нас нашчадкі шляхты, ці нясём мы на сабе грахі продкаў? Вось прыкладна такія пытанні мяне хвалююць цяпер, калі я пішу новую рэч.

**Ціхан Чарнякевіч**

Літаратурная Беларусь
**Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.**
Тэлефон для даведак: **(8-017) 200-80-91.** Адрас электроннай пошты: **sbp@tut.by**

# Антырасійскі Майдан



Зміцер ГАЛКО




**Майдан пачынаўся не з нянавісці, а з мары жыць па-людску.**

Два гады таму, 18 лютага 2014 года, былы прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч з тагачасным кіраўніцтвам СБУ і МУС прынялі рашэнне аб пачатку так званай «Антытэрарыстычнай аперацыі» для сілавога разгону Майдана. Пасля жорсткіх сутычак на працягу дня ва ўрадавым квартале вечарам пачаўся ваенізаваны штурм асноўнага лагеру пратэстоўцаў. Барыкады, БТРы і Дом прафсаюзаў у полымі, беспрапынныя выбухі рознакаляровых феерверкаў, ляскат і грукат, крыкі болю і спевы гімна...

Наперадзе чакалі тры самыя страшныя дні Рэвалюцыі Годнасці. Яны аказаліся настолькі крывавымі, што ўжо тады можна было казаць пра вельмі вялікую цану, якую давялося заплаціць украінцам за сваю мару.

## Хабару не бяруць

Нядобразычліўцы казалі, што гэтай марай, наіўнай і ганебнай, была «халява». Спакусілі, маўляў, украінцаў прывідам лёгкага еўрапейскага перніка.

Калі б тое сапраўды было так, рэвалюцыя расмакталася б пасля таго, як Януковіч атрымаў пуцінскую прэмію ў выглядзе 15 мільярдаў долараў і зніжкі на газ за правал асацыяцыі з ЕС. Грэшным чынам, я быў тады амаль упэўнены, што гэты шчодры хабар спыніць пратэсты. Пагатоў, Еўропа адмовілася ўдзельнічаць у аўкцыёне, які прапаноўвалі тагачасныя ўкраінскія ўлады, і не запрапанавала большай сумы. Украінцы не купіліся. Ні ад каго на Майдане я не чуў, каб абмяркоўвалі тыя мільярды — многа гэта ці мала, браць ці не браць, хто б даў болей. Бо шукалі, як выявілася, зусім не «халявы».

Магчыма, лепей бы ўзялі 15 мільярдаў? Жылі б сабе ціха-мірна, без сонму мёртвых герояў, са сваім Крымам і без крывавай раны Данбасу, няхай бедна, але стабільна. У сям'і, можна сказаць, брацкіх народаў.

Наогул, дзіўна, што ўкраінцы іх не ўзялі. Бо гэта нармальнае абывацельскае жаданне — жыць тут і цяпер, а не калі-небудзь потым. Без усіх вось гэтых узрушэнняў і хваляванняў, ад якіх адзін толькі беспарадак. Карыстацца тым, што даюць, прыстасоўвацца.

Яны ж не звышчалавекі якія-небудзь, каб станавіцца на цярністы шлях, які яшчэ не вядома куды прывядзе. Зусім не, у большасці сваёй такія самыя абывацелі, як і мы. І чаго толькі на ражон палезлі?

## Ад мары да бунту

Магчыма, справа ў нянавісці да цяперашняга, якую ўкраінскі публіцыст, луганчанін Аляксандр Валадарскі лічыць асноўнай прычынай любога бунту: «Бунт нараджаецца з нянавісці і адчаю, а не з высакароднага жадання «зрабіць свет лепш». Бунт нараджаецца не з любові да будучыні, а праз нянавісць да цяперашняга. Ён нараджаецца з разумення, што цмока забіць трэба не дзеля дабрабыту яго падданых, а проста дзеля таго, каб цмок памёр».

Майдан пачынаўся не з нянавісці, ён нараджаецца з мары жыць па-людску. Але скончыўся Майдан сапраўды лютай нянавісцю і гвалтам.

Менавіта гэтым выбухам гвалту расіяне тлумачылі неабходнасць «вярнуць Крым у родную гавань», на яго спісвалі «грамадзянскую вайну на Данбасе». Нават многія найразумнейшыя з іх, зусім не мацёрыя пуціністы, так лічаць. Што немагчыма было іначай, бо яны мусілі выратаваць крымчанаў ад лёсу судэцкіх немцаў. Вайна ж на Данбасе заканамерна пачалася праз тое, што мясцовае насельніцтва паставілі перад фактам кардынальных зменаў у краіне, непажаданых для іх, не ўлічылі яго меркаванне. То бок у першым выпадку адбыўся трыумф гуманізму, у другім — дэмакратыі.

Гэта хітрыкі або самападман. Нават калі гвалтоўныя пратэсты на Майдане лічыць каталізатарам наступных падзеяў, справа да іх дайшла праз дзеянні Расіі, а значыць, яна сама сябе справакавала і змусіла да агрэсіі супраць Украіны.

## Свабода супраць прымусу

Я не магу з пэўнасцю сцвярджаць, што ў падаўленні пратэстаў прымалі ўдзел байцы або інструктары расійскіх спецслужбаў. Не ведаю, ці кіравалі дзеяннямі тагачаснай украінскай улады з Крамлю ў тэлефонным рэжыме. Гаворка толькі пра адкрытую расійскую палітыку ў дачыненні да Украіны.

Хто, як не Расія, падсадзіў у прэзідэнцкае крэсла Януковіча — постаць канфліктную і адыёзную? Чалавека з крымінальным мінулым, неразумнага і нягнуткага. Палітыка, які заігрываў з сепаратызмам і шантажаваў расколам краіны, а галоўнае — меў дыктатарскія замашкі. Зрэшты, калі першапачатковай мэтай Расіі быў бунт, які б пацягнуў за сабой раскол, — выбар амаль ідэальны.

Цяжка было ўявіць, што з такім наборам характарыстык Януковіч зможа стаць аб'ядноўчай фігурай. Аднак ён ледзьве ёй не стаў, калі раптоўна ўзяў курс на еўраінтэграцыю. Гэты курс падтрымала большая частка ўкраінцаў. (Так, не аднолькава ў розных рэгіёнах, але пазней нават Еўрамайдан на Поўдні і на Усходзе падтрымлівалі 20% і 30% насельніцтва, лічба вельмі сур'ёзная.) І што зрабіла Расія, улічыла меркаванне «брацкага народа»? Не, яна развязала гандлёвую вайну. Пачала выломліваць рукі і пагражаць, на што Януковіч нават скардзіўся Меркель у нефармальнай размове.

У чым палягала галоўная розніца паміж асацыяцыяй з ЕС і ўступленнем у Мытны саюз? У тым, што выбар першай быў свабодным, да яго ніхто не прымушаў, яго рабілі таму, што ён проста выглядаў больш прываблівым і перспектыўным.

## Вырвацца з лапаў цмока

Няздольная быць прываблівай, Расія бярэ сілай. Калі ж падманутыя ў сваіх надзеях украінцы выходзяць пратэставаць, расійскае тэлебачанне штодзённа пра іх хлусіць у істэрычнай танальнасці, мяшае іх з брудам, прымалёўвае ім рогі і хвасты. А неразумны і нягнуткі расійскі стаўленік, загнаны ў кут, пачынае рабіць памылку за памылкай, усё вышэй падымаючы градус раздражнення і нянавісці. Тым часам Расія тлумачыць тое, што адбываецца, як кінуты ёй выклік, антырасійскую правакацыю, неабвешчаную вайну, замах на яе законную вотчыну.

Так, урэшце Майдан стаў антырасійскім. Толькі зусім не ў сэнсе этнічнай непрыязнасці. Проста многім украінцам стала некамфортна ў лапах цмока, які лічыць, што яны належаць яму па праву, і ён лепш ведае, які выбар яны маюць зрабіць.

Не тое, каб мы таго не ведалі раней, але цяпер стала ясна з усёй відавочнасцю, што такое інтэгратарская палітыка ў расійскім выкананні — гэта падпарадкаванне і прымус.

Ну і што, скажуць нам яны, часам трэба падпарадкавацца, гэта прыкмета дарослайсці — уменне падпарадкоўвацца, для вашай карысці стараемся, мы ж вас выратаваць хочам! Ад чаго? Ды ад усёй гэтай еўрабрыдоты. І ўвогуле, гэта так дробна, так нізка — шукаць лепшага жыцця, мяняючы на яго братэрства, славянскі саюз!

Дарэчы, варта звярнуць увагу, што Расія, якая вельмі часта вінаваціць суседзяў у этнацэнтрычнасці, калі яны спрабуюць саскочыць з яе арбіты, прапануе ў якасці нібыта прагрэсіўнай ідэю «братэрства», замяшанага менавіта на этнічнасці. Плюс іерархію, плюс сацыяльны кансерватызм, плюс мары пра светлае ўчора.

Што ў выніку атрымліваецца? Класічны набор мацёрага нацыяналіста, нават з фашысцкім прысмакам. І гэтыя людзі забаранялі ўкраінцам крычаць: «Хто не скача, той маскаль!»

## Тэст на прыналежнасць да «рускага свету»

І ўсё-ткі праслаўуты «рускі свет» не вычэрпваецца пералічанымі вышэй характарыстыкамі. Ёсць у ім адна вельмі своеасаблівая і важная разынчака — прынцыповае непрыманне наладжвання і добраўпарадкавання жыцця. Нейкая ірацыянальная любоў да існавання ў рэжыме катастрофы.

У Крыме гэтая цяга не так ярка была выяўлена, там збольшага марылі якраз пра халяву (светлае ўчора і бацюшку-цара), на Данбасе ж я часта сутыкаўся менавіта з гэтай глыбіннай уласцівасцю «рускага свету».

Яго данбаскіх прыхільнікаў часцяком цікавілі не столькі магчымыя пазітыўныя змены ў жыцці са зменай дзяржаўнага статусу, колькі надта свярбела нешта такое падсвядомае: «Хай яно ўсё ляснецца!»

Каб было лепей зразумела, што гэта за свярбячка такая дзіўная, працытую, на мой погляд, самага рускага аўтара. Ён бачыць і адчувае свет вельмі па-руску. Калі яго словы здадуцца вам нейкім трызненнем або кепікамі, значыць, вам не ў «рускі свет».

Вось урывак з артыкула Льва Пірагова «Руская вясна — 2»:

«Два гады таму, калі пасля Крыму стала ясна, што свет нарэшце пакаціўся ў абдымкі Халоднай вайны, запомнілася пачуццё прахалоднай, трохі зябкай — яна халадзіла калені, — але надзіва прыемнай свабоды. Вясновай лёгкасці.

Вось і цяпер: пакуль нафта павольна і ліпка спаўзала ўніз, а ўрадавыя чыноўнікі тужліва бляялі, як яна вось-вось «адскочыць», пакуль усё гэта адбывалася, была туга, была трывога... Цяпер, калі нафта нарэшце рашуча абвалілася, з душы быццам камень зваліўся. Госпадзе, як добра не мець!.. Зноў адчуваеш сябе маладым, свабодным і гатовым да разнастайных здзяйсненняў.

Ці станем мы ад гэтага лепей жыць? Божа барані. А навошта? Руская вясна не для гэтага. Хто стаў лепей жыць пасля таго разу — данбасцы? Мы, расіяне? А лепей, тым не менш, стала. Не «жыць» — проста лепей. Наогул».

Каб стала яшчэ больш зразумела ці, наадварот, канчаткова заблыталася, згадаю тэкст таго самага аўтара «Дзэерцы вечнасці». У ім ён крытыкаваў тых рускіх нацыяналістаў, якія «хацелі бачыць рускі народ такім дзябёлым швейцарцам — рацыянальным, ашчадным, які ахоўвае сваю выгаду, эмацыйна шчасным, «пазітыўным», заможным...»

Гэта ўсё не тое! Брыдкае і чужое рускаму чалавеку.

«Мы ж не выпадкова такія — нас жа паміраць тут пакінулі. Праваслаўе — не фарпост праўдзівай веры і не аплот нават, а хутчэй атрад прыкрыцця. Астатнія (хто астатнія? ну няхай продкі) сплылі за акіян, а нам тут памерці наканавана, каб гэтыя не дагналі, не патапілі тых. Мы смяротнікі. Але вось з'яўляюцца «ідэолагі адраджэння». Кажуць: а што гэта мы тут толькі гарэлку і мухаморы жарэм і цела ў нас бычынай крывёю намазана? Давайце пасеем лянок, радыску, зарадзім квас...»

Магчыма, цяпер вы зразумееце, адкуль растуць ногі ў здзеклівых водгукаў ад расіянаў пра майданаўскія «гарбату і канапкі» ды гародзікі з кветнікамі, якія тут насадзілі былі пасля заканчэння баёў. Ну, а таксама іх напышлівую пагарду да жадання жыць па-людску, па еўрастандартах.

Вядома, яны могуць паглуміцца з украінцаў: ну што, маўляў, зажылі? Ды не, не зажылі. У іх свая спецыфічная праблема — занадта шырокая вольніца, якой на сваю карысць карыстаюцца людзі, адказныя за падтрыманне і развіццё дзяржавы. Не зашкодзіла б звузіць.

Але ўкраінцы ўсё яшчэ хочуць. І пакуль яны таго хочуць, з «рускім светам» ім не па дарозе.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. У суд за пакрыўджанага класіка

Паліцыя Казахстана праводзіць расследаванне ў дачыненні да блогера Кірылы Кавязіна, які ў сваіх пастах у Facebook негатыўна адгукаецца пра Абая Кунанбаева (1845–1904) — казахскага паэта, філосафа, заснавальніка казахскай пісьмовай літаратуры і яе першага класіка. Справу завялі пасля таго, як да міністра МУС паступіў зварот ад нейкага патрыёта, які просіць «прыняць меры ў дачыненні да карыстальніка Facebook Кірылы Кавязіна, які назваў абаязнаўства «мудацтвам». Цяпер ідзе дасудовае следства, хаця стаўленне да справы ў грамадстве адназначнае. Па-першае, судзіць блогера збіраюцца паводле артыкула пра распаўсюд хлусьлівай інфармацыі, што юрыдычна цяжка давесці. У дадатак сам герой скандалу сцвярджае, што яго пост тычыўся не постаці Абая, якога ён вельмі паважае, а ідэі ўвядзення ў школах асобнага прадмета — «абаязнаўства». На думку Кавязіна, «абаязнаўства» павінна быць факультатывам. Варта дадаць, што ўсе сацыялагічныя апытанні сведчаць, што большасць казахаў згодныя з пазіцыяй Кавязіна. За абавязковае выкладанне курсу «абаязнаўства» выступаюць каля 30 працэнтаў рэспандэнтаў.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### УКРАІНА. Новая прычоска Юліі



Новы імідж Юліі Цімашэнка стаў папулярнай навіной ва Украіне. На мінулым тыдні лідар Партыі «Бацькаўшчына» з'явілася ў парламенце з распушчанымі доўгімі валасамі і ў акулярах у цёмнай аправе ды нагадвала настаўніцу. Змена іміджу выклікала цэлы дыспут у грамадстве. Некаторыя кажуць, што абноўлены вобраз Цімашэнка — гэта новы віток у яе кар'еры. «Яна — як дзяўчына на выданні. Распушчаныя валасы і квітнеючы выгляд кажуць пра адкрытасць да дыялогу», — сцвярджае адзін з аматараў гэтай версіі. Іншыя, наадварот, лічаць, што чорная сукенка і акуляры сведчаць пра жорсткую пазіцыю. Ёсць думка, што Цімашэнка намагаецца выглядаць больш маладой. Ну і, нарэшце, найбольш эксцэнтрычная версія, якую прапанаваў экстрасэнс Міраслава Буш. Яна лічыць, што, распусціўшы валасы, лідар «Бацькаўшчыны» страціла частку сваёй чароўнай сілы. З улікам таго, што Юліі і яе прыхільнікам у мінулы аўторак сенсацыйна не ўдалося адправіць у адстаўку ўрад Арсеня Яцанюка, тэорыя Міраславы Буш, магчыма, заслугоўвае ўвагі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АРГЕНЦІНА. Дэпалітызацыя футболу

Нядаўна абраны прэзідэнт Аргенціны Маўрысіа Макры запатрабаваў дэпалітызацаваць змест футбольных рэпартажаў. Справа ў тым, што ў часы папярэдняга прэзідэнта Хрысціны Кіршнер футбол стаў адным са сродкаў дзяржаўнай прапаганды. На падставе незадаволенасці насельніцтва камерцыялізацыяй футбола, у рамках кампаніі «Футбол для ўсіх», трансляцыі футбольных матчаў былі «нацыяналізаваныя». Пасля рэформы футбольныя спаборніцтвы транслявалі бясплатна, аднак з вялікай порцыяй рэкламы палітыкі ўраду. Новая, вельмі ліберальная адміністрацыя Макры, мяркуючы па ўсім, рыхтуе прыватызацыю футбольнай індустрыі. У якасці першага ўжо высуната патрабаванне, каб футбольныя каментатары адмовіліся ад тэкстаў, якія праслаўляюць права ўсіх аргенцінцаў бясплатна глядзець футбол. Увогуле, антысацыяльная палітыка Макры выклікае шмат крытыкі ў грамадстве, хаця пакуль у Аргенціне ўсё больш-менш стабільна.

**Паводле іспанскай прэсы**

### АНГОЛА. Палітыка і кампутарныя гульні

Скандал на рынку кампутарных гульняў, дзе нядаўна з'явілася гульня «Call of Duty: Black Ops 2». На першы погляд, «Call of Duty: Black Ops 2» — звычайная «стралялка». Аднак некаторыя заўважылі, што адзін з галоўных негатыўных персанажаў знешне падобны да Савімбі. Жанаш Савімбі — ангольскі палітычны дзеяч, заснавальнік паўстанцкай групоўкі «Саюз за поўную незалежнасць Анголы» (Unita). Unita — фенаменальная групоўка, якая ўмудрылася атрымліваць спачатку сродкі ад камуністычнага Пекіну, а пазней — ад расістаў з Паўднёвай Афрыкі. У студзені 1986 года адбылася гістарычная сустрэча Савімбі з Рэйганам наконт сумеснай барацьбы супраць прасавецкага ангольскага рэжыму. Праўда, у выніку пасля краху СССР амерыканцы дамовіліся з экс-камуністамі і прапанавалі Савімбі шукаць з імі дыялог. Атрымаўшы другое месца на прэзідэнцкіх выбарах, Савімбі абурыўся і зноў сышоў у партызанку. Аднак без знешняй падтрымкі яго рух не меў шансаў. У 2002 годзе Савімбі забілі, аднак, калі меркаваць па «Call of Duty: Black Ops 2», не забыліся. Трое дзяцей Савімбі цяпер патрабуюць мільён долараў за зняваґу іх бацькі. Шансаў у іх няшмат.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.thetrentonline.com

# Працоўная дынастыя Клінтанаў

Алег НОВІКАЎ

**Актыўны ўдзел Чэлсі Клінтан у працы выбарчага штабу маці, Хілары Клінтан, шмат хто разглядае як першую рэпетыцыю яе будучай прэзідэнцкай кампаніі.**

Першыя публікацыі пра тое, што Чэлсі Клінтан пойдзе шляхам бацькоў, з'явіліся ў прэсе прыкладна ў 2013 годзе. Каталізатарам для спекуляцый стала публікацыя ў «Washington Post», аўтар якой, са спасылкай на інсайдарскую інфармацыю, пісаў, што ў кулуарах сям'і прынята рашэнне пра ўваходжанне Чэлсі ў палітыку. У 2014 годзе ў інтэрв'ю часопісу «Fast Company» сама Чэлсі пацвердзіла, што збіраецца ў будучым заняцца «сямейным бізнесам».

Па сутнасці, такога развіцця падзей трэба было чакаць, і не толькі таму, што палітычныя дынастыі — напрыклад, Кенэдзі або Буш, — дастаткова распаўсюджаная за акіянам рэч. У Чэлсі фенаменальныя стартавыя пазіцыі для палітычнай кар'еры. Дачка экс-прэзідэнта Чэлсі Клінтан, якая нарадзілася ў 1980 годзе, вельмі пазнавальная сярод амерыканцаў. У Чэлсі за спіной цудоўная адукацыя — каледжы Оксфарда, Стэндфарда, Калумбійскі і Нью-Ёркскі ўніверсітэты. Ужо ў 13 гадоў Чэлсі ўзялі на практыку ў адну з вядучых сусветных кансалтынгавых кампаній. У 21 год яна пачала працаваць спецыяльным карэспандэнтам NBC, каб з часам перабрацца ў фатэль віцэ-старшыні Фонду Клінтанаў.

Сваю працу ў Фондзе яна сумяшчае з працай выкладчыка. Цікавіцца Чэлсі Клінтан таксама кінамастацтвам, і нават стала прадзюсерам аднай дакументальнай стужкі. Цяжка ўявіць, аднак Чэлсі Клінтан пры такім шчыльным графіку паспела яшчэ і пабрацца шлюбам. Яе муж — банкір Марк Мезвінскі. Пара гадуе 11-гадовую дачку Шарлоту. Паколькі муж паходзіць з кансерватыўнай яўрэйскай сям'і, Чэлсі цяпер цікавіцца яшчэ і іўдаізмам.

Атрыманне высокага рангу ў палітыцы, падаецца, лагічна для ўладальніка падобнай біяграфіі. Адзінае, наконт чаго спрачаліся прэса, якім чынам маладая Клінтан збіраецца выйсці на палітычную авансцэну? Адны каментатары лічылі, што Чэлсі адразу высуне сваю кандыдатуру ў Кангрэс ад Нью-Йорка. Іншыя меркавалі, што перад балаціроўкай яна засвеціцца ў прэзідэнцкай кампаніі маці. Як бачым, перамаглі другія.

На момант прыняцця рашэння такі план, сапраўды, выглядаў больш аптымальным. Ёсць разлікі на тое, што Хілары Клінтан з трыумфам уедзе ў Белы дом. Пры гэтым частка яе сімвалічнага капіталу перападзе Чэлсі, якая будзе актыўна дапамагаць маці ў кампаніі, што і стане падмуркам для яе кар'еры. Калі верыць прэсе, Чэлсі адказвае за збор сродкаў і агітацыйную працу ў штатах, дзе павінны адбыцца праймерыз.

Але на выхадзе ўсё атрымалася не так бліскуча з-за балаціроўкі сенатара Берні Сандэрса, якога падтрымаў значны сегмент дэмакратаў. Пры гэтым церпіць ад папулярнасці Берні не толькі Хілары, аднак і Чэлсі. Асноўная прычына звязаная з рыторыкай Сандэрса, які пазіцыянуе сябе ў якасці абаронцы інтарэсаў працоўнага і сярэдняга класаў, што не мае інструментаў уплыву на лёс краіны. Паводле яго словаў, сапраўдная ўлада знаходзіцца ў руках прадстаўнікоў буйнога бізнесу і вузкай палітычнай эліты. Чэлсі Клінтан як сябра старой палітычнай дынастыі шмат для каго выглядае як ілюстрацыя апісанай Сандэрсам мадэлі. Асабліва калі ўзгадаць, што Чэлсі Клінтан сябруе з Дональдам Трампам — лідарам рэспубліканскага праймерыз, фармальна самым заклятым ворагам дэмакратаў.

У дадатак Чэлсі — неафіт у палітыцы, і сама дае падставы для замацавання за сабой іміджу «мажора». Так, прапанову Сандэрса — скараціць колькасць вязняў у турмах Штатаў, яна раскрытыкавала са спасылкай на тое, што Берні, у адрозненне ад яе маці і таты, не ведае, як працуе сістэма.

Часам Чэлсі выдае розныя перлы. Напрыклад, падчас аднаго з мітынгаў яна выпадкова назвала Берні «прэзідэнт Сандэрс», што моцна павесяліла публіку. У другі раз яна публічна паскардзілася на тое, што жыхары Лос-Анжэлеса лічаць яе маці вельмі халоднай і несяброўскай персонай.

Цень на перспектывы палітычнай кар'еры Клінтан-малодшай кідае і нарастаючы скандал вакол Фонду Клінтанаў. Некаторыя палітолагі лічаць, што ўстанова па сутнасці з'яўляецца механізмам для легальнага атрымання хабараў за лабізм. Зараз ФБР працягвае вывучаць гісторыю з выкарыстаннем экс-дзяржсакратаром асабістай паштовай скрыні для дзелавой перапіскі. Выдаленыя Клінтан 30 тысяч лістоў аднавілі, чытаюць, і ў любы момант могуць усплыць вельмі кампраметуючыя для кіраўніцтва Фонду факты.

Шлях Чэлсі Клінтан наверх будзе няпросты, таксама ў тым ліку таму, што палітычны дыскурс у ЗША мяняецца. Пасля амаль 30-гадовага дамінавання ліберальных ідэяў ёсць запыт на нешта новае.

Між тым, пасля правалу на праймерыз у Невадзе адмовіўся балатавацца ў прэзідэнты Джэб Буш — прадстаўнік сямейства Бушаў. Ці працягне сваю кар'еру Чэлсі пасля кампаніі 2016 года? Думаецца, усё будзе канчаткова залежыць ад фінальных вынікаў кампаніі яе маці. У выпадку перамогі пра цяперашнія праколы Чэлсі, натуральна, забудуць. У любым выпадку, у яе ёсць жалезнае алібі, каб у выпадку форс-мажору дастойна пакінуць кампанію — улетку Чэлсі чакае другое дзіця.

# Рускія немцы ідуць

Алег НОВІКАЎ

**Этнічныя немцы, якія ў свой час імігравалі ў ФРГ з краін былога СССР, упершыню сталі значным суб'ектам нямецкай унутранай палітыкі, выступаючы ў авангардзе пратэстаў супраць мігрантаў.**


Рускія немцы выйшлі на акцыю пратэсту супраць імігрантаў

«Матрёшка», «Петрушка», «Жар-птица»... Крамы з такімі кічавымі назвамі можна сустрэць у кожным больш-менш вялікім горадзе Германіі. У асартыменце «Матрёшек», як правіла, піва «Балтыка», гарэлка расійскіх гатункаў, дыскі з апошнім сезонам «Мянтоў», плюс кефір — гэты прадукт нямецкая малочная вытворчасць чамусьці дасюль не засвоіла. Гэтыя крамы — па сутнасці адзінае, што нагадвае пра тое, што недзе тут побач існуе рускамоўная камуна.

Грамада рускіх немцаў, або так званых «пазнейшых перасяленцаў», пачалася фармавацца на пачатку 1990-х гадоў, калі Германія адчыніла дзверы для этнічных немцаў рэспублік былога СССР. У асноўным рэпатрыянты ехалі з Расіі, Малдовы, Казахстану. Няма сумневаў, што матывы пакаваць чамаданы галоўным чынам былі эканамічнага характару. Усяго ў перыяд 1990–2011 гадоў у Германію прыбыла каля 1,45 мільёна этнічных немцаў з краін былога СССР, у першую чаргу з Расіі (612 тысяч) і Казахстана (575 тысяч). Напэўна, сюды таксама трэба дадаць каля 300 тысяч савецкіх яўрэяў.

Па прыбыцці ў фатэрлянд імігранты даволі хутка атрымлівалі дакументы грамадзян ФРГ, аднак цалкам інтэгравацца ў большасці сваёй яны не збіраліся, і напэўна, не маглі, паколькі як асобы былі сфармаваныя савецкім маскультутам. Спажывецкія забабоны ў іх таксама былі сфармаваныя ў СССР, які немагчыма ўявіць без спрадвечнага дэфіцыту. Таму шмат для каго паход у супермаркет быў проста фантастыкай, для чаго цалкам хапала грошай, атрыманых у рамках сацыяльнай дапамогі па беспрацоўю. Хаця нямецкая адміністрацыя намагалася ў мэтах хуткай інтэграцыі рассяліць мігрантаў з Усходу па ўсёй краіне, цалкам асіміляваць іх не атрымалася. Важным фактарам для стварэння рускага гета была культурная ізаляцыя, чаму спрыялі спадарожнікавыя талеркі. Толькі ў другой генерацыі рускія немцы пачалі выходзіць з маргінальнага стану, і сапраўды, занялі частку сегмента бізнесу, перш за ўсё таго, што працаваў з расійскім капіталам або на рынках СНД. Канкурэнтнай перавагай тут было, натуральна, валоданне рускай мовай.

Пры гэтым, у адрозненні ад іншых дыяспар, якія жывуць у ФРГ, рускія немцы ў палітыку асабліва не лезлі. Дакладней сказаць, не лезлі да апошніх часоў. Сёння ў Германіі назіраецца феномен імклівай палітызацыі гэтай катэгорыі грамадзян ФРГ. Як правіла, людзей з моцным рускім акцэнтам можна пабачыць на шматлікіх антыўрадавых маніфестацыях, а ў гарадах, дзе іх адсотак высокі, яны ўвогуле фармуюць касцяк пратэстоўцаў.

26 студзеня па ўсёй Германіі прайшла акцыя рускіх немцаў супраць злачынцаў-уцекачоў. Найбольш людзей выйшлі ў адным з гарадоў зямлі Бадэн-Вюртэмберг — каля трох тысяч.

Усё гэта выглядае трошкі парадаксальна, паколькі рускія немцы часта маршыруюць пад аднымі транспарантамі з нямецкімі праварадыкаламі. Карычневыя яшчэ 4–5 гадоў таму ахвотна эксплуатавалі фобіі бюргераў адносна «крыміналізаванай» рускамоўнай грамады. Таксама прэса часта пісала пра бойкі рускамоўных тынэйджараў з аднагодкамі-неанацыстамі, якія не маглі прабачыць Сталінград.

Другі парадокс звязаны з тым, што рускія немцы — таксама імігранты, і, падавалася, павінны праяўляць салідарнасць з сябрамі па няшчасці. Шмат хто з іх на сваёй скуры адчуў, што значыць бытавая ксенафобія, забабоны супраць іншаземцаў у працоўным калектыве, агрэсія з боку правых радыкалаў. Аднак на гэты конт назіраюцца супрацьлеглыя настроі.

На сайт вядучага СМІ рускіх немцаў «Русская Германия» правёў апытанне «Што рабіць з уцекачамі?». Самым папулярным адказам стала: «Уцекачам няма чаго рабіць у Германіі, хай з'язджаюць дадому». А таксама: «Калі гэта сапраўдныя ўцекачы, то іх павінна задаволіць любая краіна, дзе няма вайны, не абавязкова мэтай уцёкаў павінна быць Германія». Менш за ўсё галасоў набраў адказ: «Няхай прыязджаюць — мы таксама калісьці былі ў Германіі бежанцамі».

Некаторыя бачаць тут след Пуціна, які ў рамках гібрыднай вайны інструменталізуе камуну рускіх немцаў для ціску на Меркель, якая павінна хутчэй забыць пра Украіну. Варта згадаць, што журналісцкую качку пра рускую дзяўчынку Лізу з Берліна, якую, быццам, згвалтавалі сірыйскія мігранты, сістэмна распаўсюджвалі расійскія СМІ. Менавіта пасля таго, як гісторыя пра «Бедную Лізу» трапіла ў эфір, адбылася акцыя 26 студзеня.

Сацыёлагі, у сваю чаргу, кажуць, што тут могуць праяўляцца звычайныя патрыятычныя пачуцці. Рускім немцам не падабаецца, што нямецкія медыя, як ніколі з часоў халоднай вайны, распаўсюджваюць негатыўную інфармацыю пра іх радзіму. Нарэшце, ёсць думка, што сыход у палітыку абумоўлены эканомікай. Рускія немцы, будучы незаможнай групай, моцна пацярпелі ад эканамічнага крызісу і баяцца, што дзяржава пачне скарачаць сацыяльную праграму, каб за іх кошт вырашыць міграцыйны крызіс. Ёсць думка, што гэта нейкі перажытак постсавецкай аўтарытарнай свядомасці. «Ксенафобскае стаўленне і непрыкрытая агрэсія супраць бежанцаў — больш чым маніпуляцыі Крамля, яны адлюстроўваюць настрої ў камуне», — піша «Frankfuter Allegemaine».

У любым выпадку, трэнд на радыкалізацыю рускіх немцаў відавочны, і нямецкае грамадства і дзяржава павінны на яго неяк рэагаваць. Наяўнасць унутры краіны такой вялікай групы, якая кансалідавана выступае супраць курсу ўраду, блакіруецца з экстрэмістамі, інспіруецца звонку — сур'ёзны выклік. Тут трэба заўважыць, што пры ўсіх праблемах і недахопах лічылася, што інтэграцыя амаль 2,5 мільёнаў рускамоўных немцаў усё ж адбылася. І тут такі вынік.

Калі меркаваць па публікацыях у нямецкай прэсе, у якасці першага кроку плануецца аднавіць сталае даследаванне рускамоўнай грамады, якое было згорнута прыкладна дзесяцігоддзе таму. Самая вялікая загадка для культуролагаў і сацыёлагаў — другая генерацыя рускіх немцаў, якія нягледзячы на добрую ступень інтэграцыі ў соцыум, засталіся, як высвятляецца, у чымсьці варожымі да яго дэмакратычных каштоўнасцяў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Тамерлан Агузараў



Экс-кіраўнік паўночнай Асеціі памёр 19 лютага ад пнеўманіі, што выклікала шок ў рэгіёне. 21 лютага ва Уладзікаўказе ў апошні шлях нябожчыка правялі 35 тысяч чалавек, што, напэўна, можна параўнаць з маштабамі пахавання Пятра Машэрава. У натоўпе былі прадстаўнікі ўсіх сацыяльных слаёў, узростаў, нацыянальнасцяў і канфесій. На пахаванне прыехалі з самых далёкіх куткоў краю. За права наблізіцца да цела нябожчыка нават узнікла бойка. СМІ спрабуюць зразумець прычыну такой папулярнасці чалавека, чыя біяграфія не вельмі багатая — да прызначэння кіраўніком рэспублікі ўвесну 2015 года Агузараў працаваў пракурорам у Маскве. Палітолагі лічаць, што менавіта кароткі тэрмін знаходжання пры ўладзе стварыў міф пра Агузарава. Дадатковым фактарам стаў эпізод пад назвай «Справа Цкаева». «Справа Цкаева» — гучны скандал, вакол таго факту, што паліцыя да смерці замучыла чалавека, якога памылкова падазравала ў забойстве. Пачуўшы пра смерць невінаватага чалавека, сапраўдны забойца сам прыйшоў у пастарунак і здаўся ўладам. Агузараў пакараў вінаватых паліцэйскіх, што на фоне практыкі яго папярэднікаў было вельмі дзіўна. Так ці інакш, дзякуючы Агузараву ў Асеціі сапраўды значна вырас узровень грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці.

### Роберт Мугабэ



Прэзідэнт Зімбабвэ 21 лютага адзначыў 92-ю гадавіну. Такім чынам, зімбабвійскі дыктатар застаецца самым старым на свеце лідарам дзяржавы і адным з рэкардсменаў па тэрміну знаходжання пры ўладзе (Мугабэ кіруе Зімбабвэ з 1980 года). На святкаванне з бюджэту было выдзелена 800 тысяч долараў і зроблены спецыяльны торт вагай 92 кілаграмы. Аднак лепшы падарунак, думаецца, Роберу зрабілі лідары афрыканскіх краінаў, якія ў мінулым годзе, нягледзячы на крытыку Захаду, дэманстратыўна абралі яго старшынёй Афрыканскага Саюза. Самае цікавае, што ініцыятыва зрабіць 21 лютага выходным днём у Зімбабве дасюль не прайшла, хаця пра гэта кажуць штогод. Гэтак жа, як не прайшло патрабаванне апазіцыі — скасаваць святкаванні, каб зэканомленыя сродкі выдаткаваць на дапамогу тром мільёнам галадаючых суайчыннікаў. Дзяржаўны сакратар заявіў, што «дзень нараджэння Мугабэ — гэта па сутнасці дзень нараджэння Ісуса Хрыста». Чарговая гадавіна з дня нараджэння Мугабэ не на жарт перапалохала эколагаў, паколькі ў мінулым годзе з прычыны дня нараджэння прэзідэнта было забіта некалькі дзікіх сланоў. Імяніннік адчувае, па яго словах, сябе добра і гатовы заставацца прэзідэнтам, пакуль яму не споўніцца сто гадоў.

### Аляксандр Турчынаў



Кіраўнік Савету нацыянальнай бяспекі Украіны, паводле меркавання палітолагаў, можа стаць наступным прэм'ерам. Нагадаем, што краіна зараз перажывае ўрадавы крызіс. У Кабміна Яцанюка няма парламенцкай большасці пасля выхаду з кааліцыі шэрагу партый. Калі на працягу месяца большасць не з'явіцца, трэба абвяшчаць датэрміновыя выбары, што, на думку Парашэнкі, непажадана. Застаецца перафарматаваць кааліцыю пад нейкага іншага палітыка, якім можа стаць Турчынаў. Пра яго раскрутку ўскосна сведчыць з'яўленне пратакола пасяджэння лідараў Еўрамайдана ад 28 лютага 2014 года. На павестцы дня таго пасяджэння было пытанне, што рабіць з Крымам, дзе ў гэты час з'явіліся «зялёныя чалавечкі» і пачалася паўзуючая анексія. Усе прысутныя, акрамя Турчынава, катэгарычна выступілі супраць абвяшчэння вайсковага становішча, паколькі, на іх думку, гэта магло значыць непасрэдны канфлікт з Масквой. На думку палітолагаў, на хвалі грамадскага захаплення гераічным учынкам Турчынава, яго і будуць сёння штурхаць у прэм'еры. Усе іншыя фігуранты кампрамату лічаць публікацыю пратакола злачынствам. Па іх словах, гэта толькі фрагменты пратаколу, акрамя таго, ніякай прававой сілы тое галасаванне не мела. Перспектыва прэм'ерства Турчынава, на думку аналітыкаў, будзе значыць рост канфрантацыі з Расіяй, паколькі турчынаўскі імідж — гэта імідж прыхільніка сілавога рашэння пытанняў Крыму і Данбасу. З іншага боку, ён дапаможа Парашэнку, які можа вярнуць сябе статус міратворца.

# Алесь Адамовіч. Запаведзь

## Няўжо вы ўсё яшчэ дазваляеце фюрэрам дурыць вас?



Сяргей ШАПРАН

Заканчэнне. Пачатак у №7

### «Краіна, якой не шкада»

А быў жа яшчэ красавік 1986-га і Чарнобыль. Адразу пасля катастрофы Адамовіч сустракаецца з навукоўцамі і збірае засакрэчаную інфармацыю, якая датычылася і ўзроўню радыяцыйнай забруджанасці населеных пунктаў, і вынікаў лячэння. Але Адамовіч прарвае гэтую блакаду, неаднаразова публікуючы факты, якія сталі яму вядомыя. І, выступаючы на сходзе навукоўцаў-фізікаў, ён заклікаў: «Сціпласць беларусаў павярнулася супраць іх. Не верце, дзеля бога, што нармальна. Патрэбна дапамога, амаль як у 1941-м годзе».

Не абмежаваўшыся гэтым, у самым пачатку чэрвеня ён адвёз ліст асабіста Міхаілу Гарбачову: «Радыяцыя ўдарыла найперш па нашай рэспубліцы: Гомель, Магілёў, Жлобін, Мазыр, Слаўгарад, Краснаполле, Рэчыца, Хойнікі, Нароўля, Брагін, Пінск, Слуцк, Брэст. Дасталося і Мінску. А паміж гэтымі гарадамі тысячы вёсак... Людзям пагражае радыяцыйнае атручванне праз прадукты харчавання... У нас фактычна няма патрэбнай колькасці прыбораў для замеру радыяцыі ў прадуктах харчавання... Патрэбна дапамога ўрачамі-спецыялістамі... І вывозіць дзяцей, падлеткаў, цяжарных жанчын і наогул усіх, каго магчыма!.. Толькі не згубіць час!»

Ужо праз тры дні ў Мінск прыехала камісія з 60 чалавек. Яе сустрэла дружная сям'я чынушаў-аптымістаў, якая запэўніла: ад радыяцыі пацярпелі толькі тры раёны, а не пятая частка рэспублікі. Адамовіча мінскія чыноўнікі абвінавацілі ў панікёрстве. Гэта была свядомая пазіцыя афіцыйнага Мінска.

Яшчэ да паездкі ў Маскву Адамовіча запрасіў да сябе першы сакратар ЦК КПБ Мікалай Слюнькоў. Гутарка працягвалася больш за шэсць гадзін. Адамовіч прыгадваў: «першы» пераконваў, што «сітуацыя пад кантролем» (аднак у адказ на пытанне: «Але прыбораў-та няма?» — Слюнькоў прамямліў: «Ды не») і не без гонару распавёў, што ўкраінцы паўтары гадзіны скардзіліся старшыні Савета міністраў СССР Рыжкову на чарнобыльскія праблемы, а старшыня Савета міністраў БССР Кавалёў за 10 хвілін даў справаздачу! (І Рыжкоў, зразумелая справа, быў відавочна задаволены: «Вучыцеся, украінцы, у беларусаў!»). Потым Адамовіч напіша: «10 хвілін кавалёўска-слюнь[коўскіх] дорага абышліся бел[арускаму] народу!» І, усвядоміўшы, якое злачынства адбылося, прыгадае выраз «жалезнага канцлера» Германіі Бісмарка — «краіна, якой не шкада». Гэта пра Беларусь.

Аднак неўтаймаванасць пісьменніка будзе мець наступствы не толькі для яго: у выніку, «Несцярэнку "выперлі" з ядзернага інстытута, Барысевіча — з Акадэміі, Кузьміна — з ЦК». А самога Адамовіча — з Мінска. У адным з інтэрв'ю ён так і скажа: «Мяне выжылі з Беларусі».

Што ж да Кузьміна: я гаварыў з ім незадоўга да яго смерці. Ён ведаў пра прысуд урачоў — анкалогія, — і таму даваў дазвол на публікацыю свайго «чарнобыльскага» дзённіка, але толькі пасля смерці, інакш, як сказаў Аляксандр Трыфанавіч, яго ніхто хаваць не прыйдзе. Той дзённік і дасюль не апублікаваны...

Увосень 1987-га Адамовіч з'ехаў у Маскву, бо прайшоў паводле конкурсу на пасаду дырэктара Усесаюзнага НДІ кінамастацтва. Хоць дзеля справядлівасці заўважым, што ён доўга не згаджаўся на гэтую прапанову Элема Клімава.

Васіль Быкаў, калі я папрасіў яго распавесці пра сябра, зазначыў: «Вядома, Адамовіч быў чалавек нязручны, са сваімі перакананнямі, са сваёй грамадзянскай пазіцыяй для таго таталітарнага часу. І таму ён проста не мог знайсці месца, адэкватнага сваім жыццёвым устаноўкам, ні ў Мінску, ні, па вялікім рахунку, у Маскве».

Сам жа Адамовіч у размове з крытыкам і сябрам Уладзімірам Бойкам наракаў: «Пачуцьцё блякаваньня... У каторы раз!.. У Маскве я для Беларусі больш здолею зрабіць».

### «Вораг народа»

І сапраўды, думкі Адамовіча і ў Маскве былі звернутыя найперш да Беларусі. Так, да прыкладу, у кастрычніку 1988-га ён апублікаваў у часопісе «Огонёк» выкрывальніцкі артыкул пра сталінізм і Курапаты, у якім ужыў у дачыненні да афіцыйнага Мінска эпітэт, які адразу зрабіўся крылатым: «антыперабудовачная Вандэя». Вядома, не пакрыўдзіцца беларуская Вандэя не магла — пачалі збірацца «народныя сходы», падчас якіх «простыя працаўнікі» кляймілі Адамовіча, а газеты стракацелі загалоўкамі: «Эволюция политического невежества», «Перестройка — не игра в демократию», «Барьер политической слепоты», «Ярлыки вчера и сегодня» і г. д.

Прывядзём толькі адну цытату: «Набіўшы руку на персаналіях, налаўчыўшыся ў славеснай расправе з непажаданымі яму асобамі, Адамовіч перайшоў на больш буйныя мішэні — на Узброеныя сілы СССР, на цэлыя рэгіёны і гарады. Чаго, скажам, вартае яго сцвярджэнне, быццам горад Мінск заслужыў "у апошні час сумную рэпутацыю антыперабудовачнай Вандэі"? Што ж цяпер загадаеце рабіць больш чым паўтара мільёнам мінчукоў, як "адмыцца" ад налепленага на іх "ярлыка"?..» Між іншым, пад гэтым артыкулам у «Советской Белоруссии» значылася і імя акадэміка АН БССР М. Дарожкіна — таго самага, які ў 1948-м прыціскаў генетыку.



Першы «Чарнобыльскі шлях». Мінск, 1989 г. У адным шэрагу Юрый Хадыка, Алесь Адамовіч, Алесь Марачкін, Зянон Пазьняк. Фота з асабістага архіва А. Адамовіча



Алесь Адамовіч разам з Аляксандрам Кузьміным (сядзіць у цэнтры), Васілём Быкавым і Анатолем Сульянавым. Фота Яўгена Коктыша



Разам з Васілём Быкавым. Фота Яўгена Коктыша

Зноў жа дзеля справядлівасці варта зазначыць, што спачатку рэдакцыі газет адмаўляліся друкаваць артыкулы супраць Адамовіча, але гэта было распараджэнне ЦК КПБ. Праўда, аднačасова СМІ пачалі друкаваць і іншыя выступленні, ужо не пажаданыя з пункту гледжання ЦК. На абарону сябра паўстаў у тым ліку Васіль Быкаў, які пісаў, у прыватнасці: «У нядаўна яшчэ мірнай, цалкам дзелавой грамадскай атмасферы Беларусі адбыліся ашаламляльныя перамены, і забушавалі эмоцыі, славесныя цыклоны завіхорыліся на грамадскіх мерапрыемствах і ў друку. Што тычыцца друку, то яго дзіўна аднадушны хор і з'явіўся пачынальнікам шумнай кампаніі выкрыцця "каварных задум" ворагаў і падрыўнікоў дзяржаўных асноў.

Хто ж гэтыя ворагі і дзе іх прапаноўвалася шукаць?

Шукаць, зразумела, трэба было ва ўласных шэрагах, таму што ўсе яны д'ябальскі маскіруюцца пад "сваіх" — гэтыя заўзятыя нацыяналісты, сіяністы і масоны. І яшчэ асабліва ненавісныя "паклёпнікі", якія паквапіліся на незаплямлены гонар паўтарамільённага горада-героя, якія западозрылі ў ім антыперабудовачную Вандэю. У гэтым сэнсе дасталося шматлікім, пераважна людзям творчых прафесій — пісьменнікам, мастакам, кіназнаўцам. Асабліваму ганьбаванню падвергся пісьменнік Алесь Адамовіч, які асмеліўся ў адной з "огоньковских" публікацый спажыць намёк на падабенства таго, што адбываецца ў Мінску, з некаторымі момантамі французскай буржуазнай рэвалюцыі і назваць імёны. Па ўсім бачна, менавіта гэтая публікацыя А. Адамовіча мацней за ўсё зачапіла празмерна адчувальныя амбіцыі некаторых людзей з ліку беларускага рэспубліканскага кіраўніцтва...»

Наогул кажучы, на абарону Адамовіча Быкаў паўставаў у друку неаднойчы. Яго імя значыцца ў тым ліку і пад калектыўным лістом у рэдакцыю газеты «Советская культура», подпісы пад якім паставілі таксама Аляксандр Дракахруст, Навум Кіслік, Віктар Казько, Алесь Разанаў, Валянцін Тарас, Кастусь Тарасаў і — Святлана Алексіевіч. Але сапраўды, як напісала Алексіевіч у 1988 годзе ў дарчым надпісу свайму настаўніку Алесю Адамовічу, «часам здаецца, што мастацтва зусім бяссільна...»

Увогуле, для разумных людзей прычына шальмавання Адамовіча была зразумелая, таму нават песні пачалі з'яўляцца, як, напрыклад, гэтая, за аўтарствам Міхаіла Карпачова:

*Адамович, вы же порете чушь!*
*Объяснили ж вам герои труда:*
*Фронт народный Белоруссии чужд,*
*Демократия была всегда.*
*Брось подзуживать людей на бузу!*
*Жил бы в Минске — был бы тише воды.*
*Вам повестка — распишитесь внизу.*
*Дуй в Чернобыль, мать твою растуды!..*

***

Жывучы ў Маскве і падвяргаючыся хуле на радзіме, Адамовіч тым не менш заўсёды імкнуўся ў Беларусь (Радзім Гарэцкі прыгадваў, што Алесь Міхайлавіч цікавіўся, ці можна вярнуцца ў беларускую Акадэмію навук). Памёр жа ён (а па сутнасці, загінуў) у Маскве ў 1994-м, адразу пасля выступу ў Вярхоўным судзе ў падтрымку Міжнароднага літфонду ў пытанні аб непадзельнасці ўласнасці пісьменнікаў былога СССР. Вось ужо сапраўды не будзе перабольшваннем сказаць, што праўды Адамовіч дамагаўся да апошняй хвіліны.

Але яшчэ месяцаў за пяць да скону наказаў дачцэ Наталлі, каб у выпадку смерці яго абавязкова перавезлі на радзіму, у Глушу. Так таму і наканавана было стацца.

### З нататнікаў Алеся Адамовіча:

*...А нехта, магчыма, будзе глядзець на фотаздымак твайго часу ці чытаць вось гэта.*
*Цябе ўжо няма, а яны — вось ён, вы, якія чытаюць, ёсць.*
*Вітаю вас — шчаслівы, што вы ёсць.*
*Значыць, розуму ў нас хапіла. І значыць, мы неяк дожывемся вось хоць бы ў тым, што ты, чал[авек] XXI ст., чытаеш гэта...*
*...А мы зараз спадзяемся, што, стаўшы лепш, мы зробім лепш свет...*
*Ну, а вы? Вы як?..*
*Няўжо вы ўсё яшчэ дазваляеце фюрэрам дурыць вас?*

**1989 г.**

# Шляхам атрада Рамана Рагінскага

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**За 24 дні атрад аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 года Рамана Рагінскага прайшоў па Беларусі 750 кіламетраў. Яго мужнасць уражвала нават ворагаў.**






Рэйд атрада Рагінскага паказаў непадрыхтаванасць Паўднёвай Беларусі да паўстання і даў несуцяшальную карціну адносін тутэйшага насельніцтва: як сялянства, так і шляхта Палесся пазбягалі дапамогі паўстанцам. На жаль, вынікі гэтага паходу не былі ўлічаны кіраўніцтвам паўстання пры распрацоўцы тактыкі і пры абвяшчэнні ўсеагульнай барацьбы.

Раман Рагінскі нарадзіўся ў 1840 годзе ў сям'і Юзэфа і Ізабелы, у дзявоцтве Мадзелеўскай, Рагінскіх. Раман захапіўся рэвалюцыйнымі ідэямі ўжо падчас навучання ў Варшаўскай рэальнай гімназіі. А ў 1861 годзе ўдзельнічаў у маніфестацыйным руху, пасля чаго быў вымушаны пакінуць Варшаву і накіравацца ў Геную, дзе паступіў у вайсковую школу. Адкрытая пры падтрымцы Гарыбальдзі ў верасні 1861-га школа рыхтавала вайсковыя кадры для будучага паўстання, пакуль пад націскам Расіі не была зачыненая ў чэрвені 1862-га. Школа здолела падрыхтаваць 120 чалавек, у тым ліку будучых паўстанцкіх камандзіраў Зыгмунта Мінейку і Рамана Рагінскага.

15 кастрычніка 1862 года, па заканчэнні школы, Раман праз Парыж вярнуўся ў Варшаву, і ў кастрычніку 1862-га Цэнтральным нацыянальным камітэтам у Варшаве быў адразу прызначаны памочнікам, а ў лістападзе 1862-га — камісарам па Падляшскім ваяводстве. Раман заняўся вярбоўкай людзей, стварэннем складоў зброі і харчавання. Яго памочнікамі сталі прапаршчык 13-й артылерыйскай брыгады Багуслаў Паўловіч і былы выхаванец аднаго з манастыроў Стасякевіч.

Напярэдадні паўстання Рагінскі меў загад авалодаць павятовым горадам Белая (сёння Бяла-Падляска ў 36 кіламетрах ад заходняй мяжы Беларусі). У ноч з 22 на 23 студня 1863 года Рагінскі на чале каля 60 чалавек спрабаваў авалодаць горадам Белая, але з-за паднятага па трывозе гарнізону рэціраваўся.

Рагінскі адступіў і арганізаваў атрад, які ў хуткім часе павялічыўся амаль да тысячы чалавек. Пасля адыходу з Белай войскаў генерала Мамаева, паўстанцы занялі горад. Аднак ужо 1 лютага Рагінскі ўступіў у начны бой з генерал-маёрам Носціцам. Гэта было іх першае супрацьстаянне ў доўгай чарадзе.

Генерал-маёр граф Іван Рыгоравіч Носціц, нашчадак старога арыстакратычнага роду, праславіўся ўдзелам у задушэнні выступленняў горцаў на Каўказе. У студзені 1863 года па асабістаму загаду імператара Аляксандра II быў накіраваны ў дапамогу віленскаму генерал-губернатару Назімаву. Назімаў жа адправіў яго ў Беласток, адкуль Носціц з войскамі рушыў у Белую.

Пасля авалодання Белай, 4 лютага ў бітве пад Нямiравым Носціц спрабаваў акружыць Рагінскага, але той здолеў вырвацца і пасля пераправы праз Буг накіраваўся ў Сямяцічы, каб аб'яднацца з паўстанцамі на чале з Уладзіславам Ціхорскім.

Ужо 6–7 лютага пад Сямяцічамі адбылася бітва паўстанцаў з войскамі генерала Манюкіна, пасля паразы ў якой Рагінскі накіраваўся ўглыб Беларусі, на яе поўдзень, папярэдне некалькі дзён правёўшы ў Белавежскай пушчы.

Атрад перайшоў у Брэсцкі ўезд і 8 лютага наведаўся ў Высока-Літоўск да князя Ксаверыя Сапегі з просьбай аб дапамозе людзьмі, правіянтам і зброяй. Але атрымаў толькі дзве дубальтоўкі і шэсць коней. Далей іх рух ляжаў да сядзібы Каралёў Мост Пружанскага ўезда, паблізу якой 11 лютага адбылося чарговае сутыкненне атрада Рагінскага з войскамі Носціца.

Былі моцная завіруха і снег. Салдаты скарысталіся надвор'ем, каб незаўважанымі падысці да стадолі, у якой паўстанцы размясцілі коней, сваю амуніцыю, боепрыпасы і порах, ды грэліся і варылі ежу. Пачалася страляніна, і ў хаосе бою агонь, на якім варылі ежу, ахапіў стадолю. 12 паўстанцаў замест таго, каб бегчы ў лес, як астатнія, кінуліся ратаваць коней. Акружаныя, яны не здаваліся і стралялі з палаючага будынка. У гэты час агонь дабраўся да бочкі з порахам. Раздаўся выбух, і амаль усе загінулі.

У гэтым сутыкненні загінула і трапіла ў палон 85 паўстанцаў, быў страчаны абоз. Носціц у сваіх мемуарах пісаў пра 50 загінулых паўстанцаў і трох палонных, свае ж страты ацаніў у 13 параненых салдат.

Сам Рагінскі з рэшткамі атрада адступіў у лес. Позна вечарам 12 лютага яго атрад злучыўся з невялікім фармаваннем акцызнага чыноўніка Гродзенскага губернскага праўлення Станіслава Сангіна і рушыў да Шарашова. Паўстанцы захапілі ў мястэчку будынак сельскага праўлення і знойдзенымі там грашамі расплаціліся з мясцовымі жыхарамі за прадукты і адзенне.

Рагінскі пісаў: «Усё мястэчка збеглася нас накарміць, а габрэі даставілі астатняе. Калі ўжо я заявіў, што плачу за ўсё, далі нам тое, у чым больш за ўсё адчувалася неабходнасць: пораху, патронаў і мноства пістонаў для ружжаў».

Далей аб'яднаны атрад пад агульным кіраўніцтвам Рагінскага на 15 фурманках накіраваўся на Пружаны і захапіў іх 13 лютага. Паўстанцам дапамагла гарадская рэвалюцыйная арганізацыя, у якую ўваходзіла фактычна ўсё кіраўніцтва горада. Напад ажыццяўляўся ўвечары, калі вайсковая інвалідная каманда знаходзілася на адпачынку ў казармах. Пры гэтым кіраўнік каманды Пружанскай унутранай аховы паручнік Платон Галаўня «обнаружил трусость и, спасая только себя, бежал из города, переодевшись в крестьянскую одежду». Пазней Галаўню пазбавілі афіцэрскага звання і дваранства, выгналі з арміі і выслалі ўглыб Імперыі.

У рукі паўстанцаў патрапіла больш 10 тысяч рублёў, а пасля абяззбраення мясцовай вайсковай каманды былі захопленыя 200 карабінаў і 1720 патронаў.

З гарадской турмы выпусцілі 9 чалавек, але тыя адмовіліся далучацца да паўстанцаў. Увогуле, з Пружан у атрад пайшлі толькі двое: бухгалтар казначэйства Стравінскі, які «нанёс удар шашкаю по голове» абяззброенаму салдату, і пісарчук уезнага суда Глябовіч, «стрэлам у горла» забіўшы салдата Калеснікава. Акрамя таго, Рагінскі «сілаю ўвёў у мяцеж» некалькі мясцовых шляхціцаў, якія той жа ноччу збеглі з атрада.

Канфіскаваную маёмасць паўстанцы загрузілі на фурманкі і рушылі ў накірунку Кобрына. Па дарозе паміж Рагінскім і Сангіным здарылася спрэчка. Сангін быў супраць далейшага руху ўглыб яшчэ непадрыхтаванай да паўстання тэрыторыі. Рагінскі ж настойваў на адваротным. У выніку атрад Сангіна забраў сваю частку захопленай маёмасці і грошай, ды павярнуў у бок Бельскага ўезда, па дарозе куды 15 лютага патрапіў у пастку паблізу паселішча Рэчыца Пружанскага ўезда і быў разбіты войскамі падпалкоўніка Вімберга. Загінулі 11 паўстанцаў, у тым ліку сам Сангін.

**Атрад наведаўся да князя Сапегі з просьбай аб дапамозе людзьмі, правіянтам і зброяй. Але атрымаў толькі 2 дубальтоўкі і 6 коней**

Тым часам Рагінскі з атрадам у 30 чалавек пасля захопу Пружанаў размясціўся павячэраць у маёнтку Лінява памешчыка Багуслава Трэмбіцкага. Да атрада далучалася мясцовая шляхта, гімназісты, рамеснікі, служачыя лясной варты. У выніку атрад Рагінскага дасягнуў 85 чалавек і 14 лютага прыбыў у маёнтак Антапаль Кобрынскага ўезда, які належаў графу Казіміру Ажароўскаму, ад якога Рагінскі атрымаў толькі харчаванне.

Рух углыб Палесся працягваўся. У мястэчку Любашаў Рагінскі атрымаў паведамленне, што ў Пінску знаходзяцца толькі каля 100 чалавек казакоў і салдат мясцовай інваліднай каманды. Усе ж астатнія накіраваныя на пошук паўстанцаў. Рагінскі вырашыў атакаваць горад, але для праверкі інфармацыі адправіў туды свайго сябра Валовіча. Праз два дні той вярнуўся: з паліцэйскім ураднікам Юрашкевічам, настаўнікам Пінскай гімназіі Астрамецкім і гімназістам Клюкоўскім ды паведамленнем аб тым, што інфармацыя аб сыходзе рускіх з Пінску несапраўдная.

Вечарам 20 лютага на мосце праз раку Ясельду, у 11 кіламетрах ад Пінска, атрад перахапіў пошту ў Мінск з сакрэтнай перапіскай і грашыма. Пасля Рагінскі лясамі рушыў у накірунку Лунін-Радзівілавічы, і далей — да Боркаў.

Генерал Носціц 23 лютага падзяліў свае войскі на 4 атрады і накіраваў іх услед паўстанцам. У гэты ж дзень Рагінскі ўвайшоў у маёнтак Лунін князя Друцкага-Любецкага, дзе атрад атрымаў харчаванне і некалькі коней.

Нарэшце 26 лютага атрад дасягнуў паселішча Боркі Пінскага ўезда. Гэта была маленькая бедная вёска, усяго з некалькіх хат і шэрагу гаспадарчых прыбудоў. Паўстанцы размясціліся лагерам сярод гэтых пабудоў і ўладкаваліся на пастой. Ноччу іх нечакана атакаваў атрад штабс-капітана Еўдакімава. У выніку атрад быў амаль разбіты. З 85 чалавек збеглі толькі 12, у тым ліку Рагінскі, 24 патрапілі ў палон, астатнія ж загінулі.

Рэшткі атрада намагаліся вырвацца з акружэння, рухаючыся далей на ўсход. Некалькі дзён яны блукалі па лясах на моцным марозе і ветры, пакуль не дасягнулі маёнтка Круковічы памешчыка Адахоўскага, дзе спадзяваліся пераначаваць. Аднак да маёнтка падышла калона капітана Алебартава, і паўстанцы зноў вымушаны былі ўцякаць у лес. Змучаныя, яны блукалі, пакуль у вёсцы Лахва ім не ўдалося ў мясцовых сялян атрымаць трохі прадуктаў і падводу, на якой накіраваліся ў бок Жыткавічаў Мазырскага ўезда.

Не даходзячы да Жыткавічаў, Рагінскі пакінуў свой атрад і разам з памочнікам Юрашкевічам пешшу адправіўся ў Тураў на сустрэчу шляхты, якую З сакавіка збіраў у сваёй хаце адстаўны ўланскі афіцэр Млынскі. Аднак па дарозе яны былі схоплены мяшчанамі і выдадзены казакам. Арыштавалі і іншых прадстаўнікоў атрада. Пад узмоцненай аховаю паўстанцаў адвезлі ў Жыткавічы, а адтуль у суправаджэнні капітана Алебартава даставілі ў Пінск.

У Пінску адбылася першая сустрэча Носціца з Рагінскім. Паўстанец успамінаў: «Ён увайшоў у пакой, дзе сабралася шмат афіцэраў, якія з цікавасцю разглядалі мяне, і, звяртаючыся да мяне, сказаў па-руску:

— Г-н Рогинский, я вашу храбрость уважаю. Подал бы вам руку, но руки ваши обагрены кровью моих соотечественников. Вы подняли мятеж против нашего государя и народа. Если вам это будет прощено, останемся друзьями...

Пасля некалькіх дзён пад узмоцненай аховаю на чале з Носціцам Рагінскага правезлі праз Брэст пад увагаю вялізнага натоўпу, пасля накіравалі ў Варшаву, дзе вайсковы суд прыгаварыў яго да смяротнага пакарання. Пасля хадайніцтва Носціца прысуд быў заменены катаргай у Сібіры.

Праз тры дзясяткі гадоў Рагінскі атрымаў амністыю і ў 1896 наведаў 72-гадовага генерала Носціца ў яго маёнтку ва Украіне.



## Адкрыццё праекта «Біяэтыка»

**Галерэя сучаснага мастацтва «Ў» прадстаўляе персанальны праект Aljoscha «Біяэтыка», які прысвечаны тэме змянення біялагічных формаў жыцця ў будучыні.**

Канцэпцыя праекта грунтавалася на мажлівасці задацца пытаннямі аб этычным і эстэтычным баку развіцця генных мадыфікацыяў і ўжытку медыцынскай інжынерыі ў жыцці грамадства.

У экспазіцыю праекта ўваходзяць малюнкі, асобныя аб'екты, кінастужка і дзве арганічныя інсталяцыі.

Aljoscha нарадзіўся ў 1974 годзе ў Глухаве (Украіна). У 2006 годзе скончыў навучанне ў міжнароднай летняй Акадэміі выяўленчых мастацтваў у Зальцбургу (Аўстрыя). З 2008 года стаўся актыўным удзельнікам міжнародных выставачных праектаў у Іспаніі, Італіі, Аўстрыі, Нямеччыне. Пераможца конкурсу XXXV Premio Bancaja ў намінацыі «Скульптура» (Іспанія), прызёр праекта Schlosspark 2009 (Нямеччына).

Жыве і працуе ў Дзюсельдорфе, Нямеччына.

# Беларусь — забойца мужчынаў

Андрэй РАСІНСКІ

**У пракаветныя часы былі жанчыны, увязненыя ў змрочных мурах, і былі мужчыны-вызваляльнікі.**

Рыцар, а пазней фалькларыст, з'яўляўся на парозе палацу, каб разагнаць прывідаў, спыніць дзікае паляванне і выратаваць збялелую дзяўчыну ад старажытных праклёнаў. Герой ратаваў не толькі кабету, але Беларусь, блукаючы ў Чорных Альшанскіх замках і расшыфроўваючы старыя пісьмёны.

Тыя часы незваротна прайшлі. Сённяшнія жанчыны самі каго заўгодна вызваляць (калі будзе жаданне), уголас абвесцяць сваю волю, захопяць і возьмуць, што душа пажадае.

У новым рамане Альгерда Бахарэвіча «Белая муха, забойца мужчынаў» хеўра дзевак без цара ў галаве захоплівае замак — і бярэ турыстаў у закладнікі. Сярод закладнікаў — і герой кнігі, які ў далёкія школьныя часы быў закаханы ў галоўную тэрарыстку.

У замку, адданым на жаночыя «мастацкія акцыі», сабраныя — як у аповедах Быкава за «Сцяной» — розныя гратэскныя тыпажы. Ёсць недалёкі бландзін, які ганарыцца сваёй мужчынскасцю. Ёсць бзікануты на гісторыі аматар беларушчыны, які лічыць, што жанчына мусіць знаць сваё месца. Ёсць замежны госць у пошуках жонкі, і ёсць ягоны нямецкі калега — паляўнічы на танных зуброў. Маецца падступны расейскі адстаўнік з тайнаю місіяй, дый цэлая камера расейскіх турыстаў з ялейным папом і вісклівымі дзецьмі. Але, галоўнае, што ў кнізе маюцца ўзброеныя жанчыны са сваімі зацятымі крыўдамі.

Іх партыйна-літаратурныя мянушкі лашчаць вуха: Аленькі Цвяточак, Джэк-Патрашальнік, Нямона Ліза, нарэшце, Босая. І ў кожнай свая міжнародна-падступная гісторыя.

Тыбецкую змагарку за незалежнасць беларушчыны вучылі менскія гопнікі, якія тройчы яе згвалтавалі. Джэк-Патрашальнік — колішняя ціхая лесбіянка, з якой жорстка знушчаўся таксіст, а бедная Нямона Ліза ў перапоўненым транспарце сутыкнулася з Рукой, прыточанай да плюгавых вачэй.

Апошні прыклад, выпісаны з неверагоднай дасціпнасцю, дэманструе прыём, якім карыстаецца Бахарэвіч. Ён змяняе оптыку і маштабы, ён стварае гратэск праз нечаканыя дэфармацыі і цялеснае набліжэнне.

Зрэшты, у гэтым Бахарэвіч ідзе за Джанатанам Свіфтам, неаднойчы ўзгадваючы ў кнізе прыгоды Гулівера ў краіне асілкаў. Ключ да «Белай мухі» — верш, устаўлены паміж першай і другой часткай і прысвечаны апякунцы Гулівера Глюмдалькліч, якая вязе героя ў сталіцу. На яе аграмадных каленях — дом Гулівера; цяпер маленькі мужчына скача, тузаецца, катаецца ля самага ўлоння. Што гэта магло б значыць?

Герой «Белай мухі» аднойчы прачынаецца, атулены жаночымі целамі з усіх бакоў, ён тоне ва ўлоннях; ён узгадвае, ён улучаны ў садамазахісцкія гульні — і не толькі...

Жанчыны ўзброеныя не проста стрэльбамі, а «Фалічнымі Сімваламі», як неаднойчы прапісана ў кнізе. Жанчыны пануюць. Калектыўная Глюмдалькліч назірае, каб апекавацца — і пазабаўляцца.




Фота www.citydog.by

Альгерд Бахарэвіч. «Белая муха, забойца мужчынаў». Мінск: Галіяфы, 2015.



Пісьменнік і перакладчык. Нарадзіўся 31 студзеня 1975 году ў Мінску. У 1997 годзе скончыў філалагічны факультэт БДПУ. Пасля ўніверсітэту працаваў настаўнікам, а пасля — журналістам. Ад 2006 года жыў у Гамбургу. У 2013 годзе вярнуўся ў Беларусь.

Лаўрэат літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» за 2002 год.

Лаўрэат 2-й прэміі імя Ежы Гедройца за кнігу «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча» (2012). У 2013 годзе пісьменнік таксама атрымаў другую прэмію імя Гедройца за кнігу «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча». У 2015 годзе за раман «Дзеці Аліндаркі» атрымаў трэцяе месца.

Беларусь — гэта нібы жанчына, а мы ўсе яе цацкі. Беларусь — забойца мужчынаў, кон мужчынаў, умовы, жыццё, неба над галавой. Босая Беларусь — аграмадная, яе цела паўсюль — і яна нідзе. Яна прыходзіць з ніадкуль і сыходзіць невядома куды. Яна лётае крохкімі белымі мухамі, тае, шэпча, навісае над галавой.

Беларусь — слодыч мужчынаў, пяшчотны позірк Медузы, Рагнеда з нажом ля горла, куслівая прыгажуня са зброяй.

І хаця жанчын мноства, Жанчына — адна. Аграмадная, велічная, плоцевая, па-над усім.

Позірк мужчыны на такую жанчыну — гэта позірк на фетыш, і гэта пераўтварэнне мужчыны (усяго, цалкам) у цацку жаночых забаў.

Кніга Бахарэвіча — напятая, энергічная і гуллівая — як жанчына, якая, зрэшты, узяла ўладу. Узяла, каб нікому не аддаваць.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 625 57 51; +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81; novychas@gmail.com

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 182

Падпісана да друку 26. 02. 2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.